тое, што вынікае з заканамернасцей развіцця мовы і аб чым сведчыць сама мова як гутарковая, так і літаратурная. Тым не менш аўтарытэт Каўруса для самадзейных рэфарматараў аказаўся вышэйшым за ўсе іншыя аўтарытэты, і супрацоўнікі некаторых рэдакцый пачалі старанна выкрэсліваць канструкцыі з прыназоўнікам «аб», замяняючы іх, дзе трэба і дзе не трэба, канструкцыямі з прыназоўнікам «пра». Зусім зразумела, чаму такую самадзейнасць удзельнікі нарады прызналі неабгрунтаванай і нічым не апраўданай.

Ненармальнай з'яўляецца і залішняя прыхільнасць некаторых мовазнаўцаў і работнікаў друку да асаблівасцей мясцовых гаворак. Так, напрыклад, назоўнікі жаночага роду множнага ліку ў родным склоне, паводле літаратурнай нормы, павінны канчацца па чыстую аснову (хат, кніг, вуліц, вішань, песень), апрача тых назоўнікаў, у якіх аснова канчаецца *нязручным для вымаўлення* збегам зычных (фарбаў, качэргаў, кафедраў, торбаў). Аднак некаторыя часопісы і газеты сталі пісаць *хатаў, кнігаў, вішняў, песняў* і нават пашыраюць гэту форму на назоўнікі тыпу *косць — косцяў, радасцяў, якасцяў,* замест *касцей, радасцей, якасцей.* Такія канчаткі, як паказвае «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», уласцівы некаторым нашым заходнім гаворкам, галоўным чынам Гродзенскай вобласці. Яны могуць ужывацца як характэрныя асаблівасці мовы таго ці іншага персанажа ў мастацкім творы, але няма ніякай падставы замацоўваць іх у якасці нормы літаратурнай мовы.

Такое ж неправамернае пашырэнне пачалі набываць за апошні час і канчаткі прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку роднага склону — *роднае, добрае, зялёнае, важнае;* займеннікаў — *гэтае, якое, такое;* лічэбнікаў — *першае, другое, пятае, восьмае* і г. д., замест прынятай за норму скарочанай формы — *роднай, добрай, гэтай, такой, пятай.* Дыялектная форма — *зялёнае, такое* — пашырана ў некаторых паўднёвых гаворках і дапускаецца падручнікамі як паралельная, але гэта не значыць, што ёю трэба замяняць больш пашыраную скарочаную форму, як гэта практыкуюць асобныя рэдакцыі газет і часопісаў. Удзельнікі нарады назвалі заганнай такую практыку рэдакцый, супрацоўнікі якіх падганяюць мову аўтараў пад свой густ і надуманыя стандарты, замяняючы літаратурныя нормы дыялектнымі варыянтамі.

Непаразуменнем з'яўляецца і тое, што прыназоўнік «к» ва ўсіх выпадках імкнуцца замяніць прыназоўнікам «да» на той падставе, што канструкцыі з гэтымі прыназоўнікамі нібыта сінамічныя, але прыназоўнік «к» не ўласцівы беларускай мове. На самой жа справе гэта прыназоўнік таксама ўласцівы беларускай мове, як і «да». Апрача таго, у пэўных выпадках кожны з гэтых прыназоўнікаў надае словазлучэнню асаблівы сэнс. Напрыклад, «спячы пірог да свята» не тое самае, што «спячы пірог к святу». Да свята можна спячы ды з'есці, а «к святу» — гэта значыць, што ў свята ён павінен быць на стале. Такое ж рознае значэнне маюць выразы: *скончыць працу к тэрміну* і *скончыць працу да тэрміну, галлё звісала к зямлі* і *галлё звісала да зямлі; прыйсці к абеду* і *да абеду*. Такіх прыкладаў можна было б прывесці шмат.

Нямала непаразуменняў у друку з напісаннем уласных асабовых імён і прозвішчаў. Як вядома, тое ці іншае асабовае імя можа мець шмат варыянтаў з рознымі адценнямі ў залежнасці ад таго, галоўным чынам, у якіх адносінах знаходзяцца іншыя людзі з носьбітам імя. Бываюць імёны ласкальныя, памяншальныя, скарочаныя. Той самы Пётр для блізкіх і знаёмых можа быць і Петрусём, і Пецем, і Пецькам, і Петрыкам, і Пятруськам. Для Людмілы часта хапае і палавіны гэтага імя (Люда або Міла). Але для грамадскасці, для афіцыйных дакументаў імя павінна быць адназначным. Тут варыянты могуць толькі пашкодзіць, калі з'яўляецца патрэба паводле дакументаў устанавіць асобу носьбіта. У абыходжанні варыянты асноўнага імя з'яўляюцца адзнакай фамільярных адносін, на што мае права толькі абмежаванае кола людзей. Часамі скажаюць напісанне асабовых імён дзеля беларускасці. Сцвярджаюць, напрыклад, што беларускім імёнам не ўласцівы канчатак «й» і пішуць *Валеры, Дзмітры, Віталі*. Сотні год пісалі, у тым ліку паўстагоддзя ў савецкі час, *Дзмітрый, Георгій, Ануфрый* — і было па-беларуску. Сотні хімічных тэрмінаў, такіх, як *барый, магній, стронцый*, таксама маюць канчатак «й» і не псуюць беларускай мовы. Праблема гэта яўна надуманая і, апрача блытаніны, нічога не дае. Тым больш што ў «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» правіла напісання ўласных імён і прозвішчаў даволі падрабязна распрацавана. Найбольш цяжкія для напісання імёны і прозвішчы даюцца і ў «Арфаграфічным слоўніку», на які я ўжо тут спасылаўся. За

неабходнасць прытрымлівацца гэтых правіл і выказаліся ўдзельнікі нарады.

У сувязі з вышэйсказаным звяртае на сябе ўвагу выдадзеная ў 1970 годзе праца М. Ц. Кавалёвай і П. У. Сцяцко «Беларуская мова». Прызначаецца яна навучэнцам сярэдніх і спецыяльных навучальных устаноў і павінна, як гаворыцца ў прадмове, «павысіць моўную культуру, узбагаціць слоўнік, развіць вусную і пісьмовую мову». Дай божа, думае чытач, беручы кнігу ў рукі. Разгортвае і бачыць там параграфы з галіны лексікі, марфалогіі, сінтаксісу, арфаграфіі, якія ўвогуле не выклікаюць пярэчання. А яшчэ ён бачыць... усю тую блытаніну, пра якую толькі што ішла гаворка. Тут і канчаткі роднага склону назоўнікаў множнага ліку ўсіх скланенняў (суседзяў, арцеляў, салдатаў, імёнаў, партызанаў, вокнаў, правоў, правілаў, печаў, мораў, журавінаў). Тут і непрызнанне канструкцый з прыназоўнікам «па» плюс назоўнік з канчаткам «у», і канструкцый з прыназоўнікам «аб» плюс назоўнік у месным склоне. Тут і блытаніна з напісаннем уласных асабовых імён і прозвішчаў. У аўтараў заўважаецца выразная тэндэнцыя, як ужо было сказана, «узяць рэванш» за нібыта пакрыўджаныя мясцовыя гаворкі, узвесці дыялектныя граматычныя формы ў ранг літаратурных норм. Прыклады ў кнізе прыводзяцца толькі такія, якія падмацоўваюць гэту тэндэнцыю, а куды больш шматлікія, што сведчаць аб агульнапрынятых літаратурных нормах, звычайна не даюцца.

Такім чынам, аўтары вучаць парушаць існуючыя літаратурныя нормы, не лічыцца з правіламі зацверджанага адпаведнымі ўстановамі правапісу. А між іншым, абодва аўтары з'яўляюцца выкладчыкамі Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага. І гэта кніга рэкамендуецца ў якасці дапаможніка для сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Такім чынам робіцца спроба ўзаконіць разнабой, які ў апошні час непакоіць нашу грамадскасць.

Нядоўга прыйшлося чакаць гэтаму «дапаможніку» і хвалебнай рэцэнзіі. З такой рэцэнзіяй пад назвай «З клопатам пра культуру мовы» выступіў вядомы ўжо нам прыхільнік блытаніны А. Каўрус («Полымя», № 7, 1971 г.). Рэцэнзент хваліць аўтараў за наватарства, за тое, што ілюстрацыйны матэрыял падбіраўся *належным чынам.* (Тут ужо было сказана, як ён падбіраўся.)

«Ствараючы дапаможнік, М. Кавалёва і П. Сцяцко,—

піша рэцэнзент,— ішлі непратаптаным шляхам. Аднак дасканалае веданне беларускай мовы, шчырае жаданне па- даць яе ва ўсім багацці і разнастайнасці дало плён — з'явілася яшчэ адна цікавая і патрэбная кніга пра роднае слова». Заўважаны і недахопы. Рэцэнзент робіць аўтарам заўвагу, чаму яны, прытрымліваючыся на гэты раз правапісу, прапануюць пісаць слова авёс у родным склоне з канчаткам «а» — *аўса*. На думку рэцэнзента, трэба пісаць *аўсу*, паколькі гэта зборны прадмет. А чаму б тады не пісаць *кавалак хлебу?* Гэта ж таксама зборны прадмет.

Клопаты пра культуру мовы, калі яны сапраўдныя і сур'ёзныя,— вельмі добрая справа. Выступленні па гэтаму пытанню ў друку можна толькі вітаць. Час ад часу ўзнікае патрэба ўносіць і тыя ці іншыя змены і ўдакладненні ў існуючыя нормы і правілы. Але гэтыя змены павінны быць навукова абгрунтаваны і выклікаюцца патрэбамі грамадства, а не суб'ектыўным жаданнем асобных людзей. І ўжо ва ўсякім разе не павінны праводзіцца самачынна, без санкцыі тых установ, на якія ўскладзены абавязак наглядаць за станам літаратурнай мовы з яе адзінымі для ўсяго грамадства нормамі і правіламі.

Уважлівае вывучэнне тых «удакладненняў», якія застракацелі ў апошні час на старонках некаторых газет і часопісаў, паказвае, што яны не маюць пад сабой навуковага грунту і не выкліканы патрэбамі грамадства, а з'яўляюцца вынікам самачыннай дзейнасці асобных мовазнаўцаў і работнікаў друку.

Чым жа ўсё-такі кіраваліся самадзейныя рэфарматары ў сваёй актыўнай, але неправамернай дзейнасці? Ды нібыта ўсё тымі ж клопатамі пра культуру мовы. Некаторыя з іх лічаць, што беларуская мова не досыць беларуская. Што яна будзе больш беларускай, калі мы будзем пісаць і гаварыць *кнігаў, хатаў, бабаў, шапкаў;* стане больш багатай, калі мы падцярэбім сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам «аб» і «па» (з канчаткамі -у, -ю) і будзем пісаць *пра праграму, пра пераразмеркаванне, закон пра зямлю, прасіць пра памілаванне; па сакрэце, па гусце,* будзем вывучаць палітэканомію *па Марксе*. Хіба гэта і ёсць тая самая культура, аб якой трэба клапаціцца?

Мова як сродак зносін паміж людзьмі абслугоўвае грамадства ва ўсіх сферах яго дзейнасці і мае шмат розных аспектаў. Адным з важнейшых аспектаў, на які хацелася б тут звярнуць увагу, з'яўляецца ўзаемаадносіны

беларускай мовы з іншымі мовамі, у першую чаргу з брацкімі ўсходнеславянскімі мовамі — рускай і ўкраінскай. Зразумела, што ў нашай мовы шмат агульнага з гэтымі яе роднымі сёстрамі — у лексіцы, у марфалогіі, у сінтаксічным ладзе,— шмат таго, што склалася за доўгія вякі гісторыі, што падтрымліваецца і папаўняецца штодзённай моўнай практыкай. Гэта таксама наша нацыянальнае, моўнае багацце. Захоўваючы характэрныя асаблівасці беларускай мовы, клапоцячыся аб яе далейшым развіцці, мы павінны шанаваць і тое агульнае, што ёсць у нашых брацкіх мовах. Яно дапамагае нам лепш разумець нашых братоў, служыць дзейсным сродкам збліжэння і ўзаемнага ўзбагачэння нашых культур.

*1972*

# *З Вільяма Шэкспіра*

## РАМЭО І ДЖУЛЬЕТА

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Эскал, герцаг веронскі.
Парыс, малады дваранін, сваяк герцага.
Мантэкі, Капулеці — старэйшыя двух варожых сем'яў.
Стары, сваяк сіньёра Капулеці.
Рамэо, сын Мантэкі.
Меркуцыо, сваяк герцага і друг Рамэо.
Бенволіо, пляменнік Мантэкі і друг Рамэо.
Тыбальт, пляменнік сіньёра Капулеці.
Брат Ларэнца, Брат Джаванні — францысканскія манахі.
Балтазар, слуга Рамэо.
Самсон, Грэгорыо — слугі Капулеці.
П'етра, слуга мамкі.
Абрам, слуга Мантэкі.
Аптэкар.
Тры музыканты.
Паж Меркуцыо.
Паж Парыса.
Прыстаў.
Сіньёра Мантэкі, жонка Мантэкі.
Сіньёра Капулеці, жонка Капулеці.
Джульета, дачка Капулеці.
Мамка Джульеты.
Гараджане Вероны, мужчыны і жанчыны, сваякі Капулеці і Мантэкі, маскі, варта, часавыя, слугі і хор.

Месца дзеяння — Верона і Мантуя.

## ПРАЛОГ

Уваходзіць хор.

### Хор

Дзве роўныя па знатнасці сям'і
Ў Вероне, дзе сустрэнуць нас падзеі,
Здаўна вядуць упартыя баі,
І на ўзаемны мір няма надзеі.

А сэрцы іх дзяцей на век вякоў
Гарачая любоў была злучыла,
Ды толькі смерць ліхая юнакоў
Бацькоўскую варожасць патушыла.

Пра іх любоў і смерць наш сумны сказ,
Пра гнеў бацькоў, патухшы ў іхняй смерці,
Гадзіны дзве тут зойме часу ў вас,
Крануўшы спачуваннем вашы сэрцы.

Даруйце нам за слабасці пяра,
Загладзіць іх старанная ігра.

*(Выходзіць.)*

# Акт першы

## Сцэна першая

*Верона. Рыначны пляц.*

Уваходзяць Самсон і Грэгорыо, узброеныя мячамі і шчытамі.

Самсон

Клянуся, што мы не будзем дарэмна сыпаць словы, як гарох.

Грэгорыо

Вядома, мы ж не агароднікі, каб гарох сеяць.

Самсон

Як толькі што якое, хапайся за меч і давай духу.

Грэгорыо

Глядзі, каб яны з цябе самога дух не выбілі.

Самсон

Мяне толькі расшавялі — я тады зразу б'ю.

Грэгорыо

Але не так лёгка цябе расшавяліць.

Самсон

Кожны сабака з дому Мантэкі можа ўзрушыць мяне да самых вантробаў.

Грэгорыо

Узрушаны заяц вельмі шпарка рухаецца, а мядзведзь становіцца дубка і ні з месца. Баюся, што і ты, як зрушышся, дык і ўцячэш.

Самсон

Калі кране мяне сабака з гэтага дома, я буду стаяць цвёрда. На сцяну палезу, але вазьму верх над любым мужчынам і над любой дзеўкай з дому Мантэкі.

Грэгорыо

Значыць, ты слабы, калі табе сцяна патрэбна. Слабыя заўсёды прыпіраюцца да сцяны.

Самсон

Гэта праўда. Таму жанчыну, як слабую пасудзіну, і прыпіраюць да сцяны. Усіх мужчын з дому Мантэкі я папру ад сцяны, а жанчын прыпру да сцяны.

Грэгорыо

Нашы паны б'юцца, а ў нас ілбы трашчаць.

Самсон

Усё роўна, я буду бязлітасным. Прыкончыўшы панічоў, я і паненкам галовы паскручваю.

Грэгорыо

Галовы?

Самсон

Галовы ці што іншае — разумей як хочаш.

Грэгорыо

Няхай той разумее. хто гэта адчуе.

Самсон

Ды ўжо ж будзе ім адчувацца, аж пакуль я змагу трымацца. А ўсім добра вядома, што мяса ў мяне пруткае.

Грэгорыо

Добра. што мяса, а не рыба, а то быў бы ты вяленай траской. Вымай сваю зброю — сюды ідуць два з дому Мантэкі.

Уваходзяць Абрам і Балтазар.

Самсон

Мая зброя напагатове. Задзірайся, я прыкрываю твой тыл.

Грэгорыо

Ці не хочаш ты павярнуць свой тыл і даць драла?

Самсон

Ты мяне не бойся.

Грэгорыо

Я за цябе баюся, трасца табе ў бок.

Самсон

Трэба, каб закон быў на нашым баку — няхай яны пачнуць.

Грэгорыо

Я скрыва гляну, калі буду праходзіць ля іх, і няхай прымаюць гэта як хочуць.

Самсон

Не як хочуць, а на што адважацца. Я пакажу ім фігу. Ганьба ім, калі яны гэта сцерпяць.

Абрам

Вы нам паказваеце фігу, сіньёр?

Самсон

Я паказваю фігу.

Абрам

Вы нам паказваеце фігу, сіньёр?

Самсон
*(ціха да Грэгорыо)*

Закон будзе на нашым баку, калі я скажу, што ім?

Грэгорыо

Не.

Самсон

Не, сіньёр, я не паказваю вам фігі, я проста паказваю фігу.

Грэгорыо

Вы лезеце ў бойку, сіньёр?

Абрам

У бойку, сіньёр? Не, сіньёр.

Самсон

А калі ў бойку, сіньёр, я гатоў. Мой гаспадар не горшы за вашага.

Абрам

Але ж і не лепшы.

Самсон

Ладна, сіньёр.

*Уваходзіць Бенволіо.*

Грэгорыо
*(ціха Самсону)*

Скажы: «лепшы»,— сюды ідзе сваяк нашага гаспадара.

Самсон

Лепшы, сіньёр.

Абрам

Вы хлусіце.

Самсон

Мячы да бою, калі вы мужчыны. Грэгорыо, пакажы свой хвалёны ўдар.

*Б'юцца.*

Бенволіо
*(разнімае іх)*

Чакайце, асталопы! Зброю ў пожны!
Падумайце, што вам за гэта будзе.
*(Выбівае мячом у іх зброю.)*

*Уваходзіць Тыбальт.*

Тыбальт

І ты з мячом між баязлівых слуг.
Ляпей сюды на смерць сваю ты глянь.

Бенволіо

Я іх мірыў. Схавай у ножны меч
Ці ў ход яго пусці, каб памірыць іх.

Тыбальт

З мячом пра мір загаварыў ты раптам.
Я нават слова гэта ненавіджу,
Як пекла, як усіх Мантэкі і цябе,
Нікчэмны баязлівец. Адбівайся!

Б'юцца.
Збягаюцца прыхільнікі з абодвух дамоў і ўвязваюцца ў бойку, а потым гараджане і прыставы з палкамі і алебардамі.

1-ы прыстаў

Гэй, палак, алебард, дубін! Лупі іх!
Бі Капулецi, бі Мантэкі — ўсіх!

Уваходзіць стары Капулецi ў халаце і сіньёра Капулецi.

Капулецi

Што тут за крык? Падаць мой доўгі меч!

Сіньёра Капулецi

Лепш мыліцу! Нашто табе той меч?

Капулецi

Сказаў я — меч, ідзе стары Мантэкі.
І на мяне мячом сваім махае.

Уваходзіць стары Мантэкі і сіньёра Мантэкі.

Мантэкі

О, подлы Капулет! *(Жонцы.)* Пусці мяне!

Сіньёра Мантэкі

І кроку ты не ступіш да яго.

Уваходзіць герцаг Эскал са світай.

Герцаг

Вы, міру ворагі, бунтаўшчыкі,
Што кроўю блізкіх пляміце мячы.
Вы чуеце! Не людзі вы — звяры.
Вы тушыце пажар шалёнай злосці

Барвовымі цуркамі з вашых жыл.
Вось мой загад: пад страхам катаванняў
З крывавых рук на дол вы зброю кіньце
І герцага паслухайце прысуд.
Нялюдскай сваркаю вы трэці раз
Парушылі спакой веронскіх вуліц,
Ты, Капулецці, ды і ты, Мантэкі,
У трэці раз шаноўных гараджан
Прымусілі забыць сваю паважнасць
І зброю ржавую у рукі ўзяць,
Каб заржавелую варожасць вашу
Утаймаваць. Калі яшчэ хоць раз
Каторы з вас спакой і мір парушыць,
Жыццём сваім заплаціць ён за гэта.
Цяпер жа ўсе адгэтуль прэч ідзіце.
Вы, Капулецці, пойдзеце са мной,
А вы, Мантэкі, у поўдзень прыйдзеце
У старажытны замак Вілафранка,
Дзе мы звычайна творым суд і праўду.
Усе пад страхам смерці — прэч адгэтуль!

Выходзяць герцаг і світа, сіньёра Капулецці, Тыбальт, гараджане і слугі.

Мантэкі

Хто ж даўнюю варожасць абудзіў?
Ты быў, пляменнік, з самага пачатку?

Бенволіо

Варожых два слугі і нашых два
Ужо схапіліся, як я прыйшоў.
Я выхапіў свой меч, каб іх разняць,
Але Тыбальт шалёны падляцеў.
Мяне на бой ён выклікаў заўзята,
Паветра рассякаючы мячом,
Яно ж насмешліва свістала толькі.
Пакуль мы біліся, народ сабраўся,
Мацнела бойка. Герцаг тут, аднак,
Разбараніў заўзятых забіяк.

Сіньёра Мантэкі

Рамэо ты не бачыў? Мусіць, бог
Яго ад гэтай бойкі засцярог.

Бенволіо

Задоўга да таго, як промень сонца
Праз залатыя шыбы ўсходу глянуў
На свет, мяне душэўны неспакой
За горад выгнаў. Пад шатром смакоўніц,
Што к захаду ад гарадской сцяны,
Я сына вашага заўважыў. Да яго
Хацеў я падысці, а ён убачыў
І ў гушчары схаваўся ад мяне.
Настрой такі — знаёмы досыць мне,
Калі ты сам сабе цяжарам служыш
І ад людзей шукаеш адзіноты,—
Я даганяць яго не захацеў
І пад уплывам гэтага ж настрою
Збег ад таго, хто ад мяне ўцякаў.

Мантэкі

Не раз яго там бачылі на золку,
Як ён слязамі памнажаў расу
І туманы ўздыханнямі згушчаў.
Але калі ўсерадаснае сонца
Прыпадымаць на ўсходзе пачынае
Аўрорынай пасцелі змрочны полаг,
Спяшаецца мой сын тады дадому
І замыкаецца ў сваім пакоі:
Ад дзённага святла завесіць вокны
І штучна гэтак ноч сабе стварае.
Як рады тут не знойдзеш, дык тады
Ад смутку гэтага чакай бяды.

Бенволіо

А ці вядома вам прычына, дзядзя?

Мантэкі

Даведацца ніяк вось не магу...

Бенволіо

А хіба вы пыталіся ў яго?

Мантэкі

І сам пытаўся, і сябры мае,
А ён пачуццяў слухае парады,

І не скажу, каб верны быў сабе,
Так не жадае сэрцам ён адкрыцца,
Як пупышка, чарвяк якую точыць,
Яна ж яшчэ не ўспела распусціцца
І сонцу хараство ахвяраваць.
Каб ведалі, у чым тугі прычына,
Мы б лекаў пастараліся для сына.

Уводдалі паказваецца Рамэо.

Бенволіо

Вось ён ідзе. Пакіньце нас удвух,
Ці не адкрые мне што-небудзь друг.

Мантэкі

Сардэчных я жадаю вам размоў.
Бывай. Ну, жонка, мы хадзем дамоў.

Выходзяць Мантэкі і сіньёра Мантэкі.
Уваходзіць Рамэо.

Бенволіо

А, з добрым раннем, брат.

Рамэо

А хіба ранне?

Бенволіо

Прабіла дзевяць.

Рамэо

Час марудны ў смутку.
Там ці не бацька мой пайшоў так хутка?

Бенволіо

Так, ён. Ды ты мне назаві хоць раз
Прычыну, што табе так доўжыць час.

Рамэо

Няма таго, што час нам каратае.

Бенволіо

Ага, дык вось у чым прычына тая —
Любоў?

Рамэо

Адсутнасць.

Бенволіо

У цябе любві?

Рамэо

Адсутнасць узаемнасці ў любві.

Бенволіо

Любоў у марах,— кволая такая,
Але на справе жорстка дапякае.

Рамэо

Хоць у любві павязка на вачах,
Але яна да сэрца знойдзе шлях.
Дзе мы абедаем? Была тут бойка?
А ўрэшце я ўжо чуў — не гавары.
Прасторна тут злабе, любві тым больш.
О, гнеў любві, пяшчотнасць гневу злога!
Страшэнны пал, народжаны з нічога.
О, пустаты цяжар і важкасць глупства!
Бязладны хаос форм, прыгожых звонку.
Свінцовы пух, дым ясны, жар халодны,
Сухотнае здароўе, сон бяссоння —
Такое вось любві маёй бяздонне.
Ты не смяешся?

Бенволіо

Не, гатоў заплакаць.

Рамэо

Чаго, мой друг?

Бенволіо

Я страціў сэрца друга.

Рамэо

І так тугá скавала сэрца мне,
Прыбаў сваю — памножыш удвайне.
Сваім ты смуткам справы не паправіш,
А спачуваннем гора мне прыбавіш.
Каханне век жартуе з закаханым:
Стань уздыхаць — развеецца туманам,

Прагоніш сум — зноў усміхнецца лёс.
Яна — смерч, полымя над морам слёз,
Вар'яцтва мудрае самой прыроды,
Змяшанае з гаркоты й асалоды.
Бывай, адпак жа, любы мой!

Бенволіо

Чакай, Рамэо, я пайду з табой.
Бо спадзяюся, ты мне растлумачыш...

Рамэо

Цсс... я растаў. Дзе ты Рамэо бачыш?
Няма яго. Ён страціў сам сябе.

Бенволіо

Каго ты палюбіў — скажы мне проста.

Рамэо

Не проста, з енкам.

Бенволіо

Пацярпі хвіліну
І гэтых енкаў назаві прычыну.

Рамэо

Скажы, каб хворы завяшчанне склаў,—
Паможаш ты, каб ён хутчэй сканаў.
Сур'ёзна, брат, я палюбіў жанчыну.

Бенволіо

Ну так і ёсць. У цэль папаў я трапна.

Рамэо

Стралок ты слаўны і падстрэліць сквапны.

Бенволіо

Чым цэль прывабней, тым лягчэй папасці.

Рамэо

Ты на яе не ўзводзь дарма напасці.
Сам Купідон не нанясе ёй раны.
Яна ступае па слядах Дыяны:
Закавана ў нявіннасць, нібы ў латы,
І ёй не страшны той хлапчук крылаты.
Яе не ўзяць пяшчотных слоў асадай,

Ні золатам аздобленай прынадай.
Сама сабе застаючыся вернай,
Яна багатая красой бязмернай
І бедная ў той час, бо разам з ёй
Засыплюць і красу яе зямлёй.

Бенволіо

Што, паклялася вечна дзевай быць?

Рамэо

Каб і мяне тым самым загубіць.
Краса яе ад чыстаты загіне,
На свеце нават следу не пакіне.
Чароўны скарб у святасць ахінуты
На гора мне, на страшныя пакуты.
Не ведаю, ці трапіць яна ў рай
За ўсе мае пакуты і адчай.
Я ў скаргах так, няшчасны, і памру.
Я ўжо мярцвяк — з магілы гавару.

Бенволіо

Я раіў бы не думаць пра яе.

Рамэо

О, каб жа ты навучыў мяне не думаць!

Бенволіо

Дай волю поўную вачам сваім
І паглядзі на іншых.

Рамэо

Гэта спосаб,
Каб больш яшчэ пазнаць яе красу.
Пад чорнай маскай кожнай незнаёмкі
Мы спадзяёмся ўбачыць хараство.
Той, хто аслеп, ніколі не забудзе
Свой скарб найдаражэйшы — зрок.
Няхай любую ўбачу я красуню.
Краса яе пацвердзіць толькі тое,
Што хараство каханай — шмат вышэй.
Бывай. Не наўчыш ты мяне забыць.

Выходзіць.

Бенволіо

Альбо навучу, альбо не буду жыць.

Выходзіць.

## Сцэна другая

*Вуліца.*
Уваходзяць Капулецці, Парыс і слуга.

Капулецці

Абодва мы з Мантэкі пакараны
Аднолькава. Я думаю, што мы,
Старыя людзі, зможам мірна жыць.

Парыс

Абодвух паважаюць вас. Шкада,
Што цягнецца так доўга ваша сварка.
Але які вы мне дасце адказ?

Капулецці

Той самы, што раней я вам даваў.
Яшчэ дачка мая жыцця не знае
Ёй чатырнаццаці яшчэ няма.
І два разы ім адцвіце вясна,
Перш чым для шлюбу вырасце яна.

Парыс

І маладзей шчаслівыя ёсць маці.

Капулецці

І вянуць жа затое вельмі рана.
Зямля забрала ўсіх маіх дзяцей:
Дачка — адна ў жыцці мая надзея.
Яе любві шукайце вы заўсёды;
Мая тут згода — толькі частка згоды.
Калі яна даверыць сэрца вам,
Тады адказ я канчатковы дам.
Я вечарам сягоння баль даю,
Як некалі, сазваў радню сваю,
Сяброў і блізкіх самых дарагіх,
А вы — найдаражэйшы паміж іх.

Зямныя зоркі упрыгожаць дом,
Прымусяць ноч здавацца ясным днём.
Пабачыце дзяўчат вы і кабет
Прыгожых, нібы той вясновы цвет.
Іх радасць, іх забавы, весялосць
Раздзеліце і вы, мой любы госць.
І спыніце свой выбар вы на той,
Якая больш прывабіць вас красой.
Дачка таксама будзе сярод іх,
Хоць мо пахвал не вартая такіх.
Хадзем жа, граф, са мной.

*(Слузе, даючы яму паперу.)*

А ты сягоння
Ідзі і абвяшчай па ўсёй Вероне,
Усім, хто тут запісаны ў паперы,
Што Капулеці просіць на вячэру.

Выходзіць Капулеці і Парыс.

Слуга

Абвяшчай усім, хто тут запісаны. А можа, тут напісана, што шавец павінен арудаваць аршынам, а кравец — шылам, рыбак — карандашом, а маляр — сеткамі. Мяне пасылаюць знайсці людзей, што тут запісаны, а я ніяк не магу ўцяміць, што тут напісана. Трэба запытацца ў вучоных людзей. Ды вось якраз і яны.

Уваходзяць Бенволіо і Рамэо.

Бенволіо

Боль новым болем заглушаюць, галубок,
Спыняюць полымем агню гарэнне.
Калі адчуў ты галавакружэнне,
Дык пачынай кружыцца ў іншы бок.
Другая немач возьме за вантробы,
Глядзіш— як не было старой хваробы.

Рамэо

Трыпутнік, кажуць, добра памагае.

Бенволіо

Каму і ў чым?

Рамэо

Таму, хто закульгае.

Бенволіо

Ты, мусіць, звар'яцеў, Рамэо?

Рамэо

Не,
Але я больш няшчасны, чым вар'ят:
Ушчэнт замучаны, ў турму загнаны,
Дзе катуюць і ў голадзе трымаюць.

Слуга

Дзень добры. Ці сіньёр чытаць умее?

Рамэо

О, так. Свой лёс чытаю я ў няшчасці.

Слуга

Гэта рабіць вы, мусіць, без кніг наўчыліся. Але я ў вас, сін'ёр, пытаюся, ці прачытаеце вы тое, што напісана?

Рамэо

Калі я знаю літары і мову.

Слуга

Сумленна сказана. Ну што ж, бывайце. *(Хоча ісці.)*

Рамэо

Чакай, я прачытаю, дай сюды.

*(Чытае.)*

«Сіньёр Марціна з жонкай і дочкамі; граф Ансельмо і яго цудоўныя сёстры; сіньёра ўдава Вітрувіо; сіньёр Плачэнцыо і яго мілыя пляменніцы; Меркуцыо і яго брат Валянцін; мой дзядзька Капулеці, яго жонка і дочкі; мая любая пляменніца Разаліна; Лівія, сіньёр Валенцыо і яго дваюрадны брат Тыбальт; Лючыо і яго весялушка Алена».

Выдатная кампанія! Куды ж яе запрашаюць?

Слуга

Наверх.

Рамэо

А куды наверх?

Слуга

На вячэру ў наш дом.

Рамэо

Чый дом?

Слуга

Дом майго гаспадара.

Рамэо

Хто ён такі, хачу я запытацца?

Слуга

Скажу без папытання: мой гаспадар — багаты, знатны Капулецці. І калі вы не з дома Мантэкі, дык прыходзьце да нас перакуліць бакал віна. Бывайце здаровы. *(Выходзіць.)*

Бенволіо

У Капулецці па вячэры будзе
Сярод красунь праслаўленых Вероны
І Разаліна мілая твая.
Хадзем туды, ты глянь там на дзяўчат
Ды параўнай з тваёй красой хвалёнай,
Дык лебедзь твой акажацца варонай.

Рамэо

Калі мяне так вочы ашукаюць,
Што дапушчу я гэты грэх цяжкі,
Тады яны няхай агнём палаюць,
Няхай згараць, нібы ерэтыкі.
Такое харраство! Не, мілы мой,
Яшчэ на свеце не было такой.

Бенволіо

Такой прыгожаю здавалася яна.
Бо на вачах тваіх была адна,
А ўзваж ты на вачах, нібы на чашах,
Красу яе з красой веронак нашых,

Убачыш прыгажэйшых ты ўдвайне,—
Не толькі ж, браце, свету, што ў акне.

Рамэо

Іду шукаць я новую красу,
Цудоўнай — захапленне панясу.

Выходзяць.

### Сцэна трэцяя

*Пакой у доме Капулецці.*
Уваходзіць сіньёра Капулецці і мамка.

Сіньёра Капулецці

А дзе дачка? Пакліч сюды.

Мамка

Сваёй нявіннасцю ў дванаццаць год
Клянуся — звала ўжо.— Ягнятка! Птушка!
Дзяўчынка, дзе ты? Божа мой? Джульета!

Уваходзіць Джульета.

Джульета

А хто мяне тут клікаў?

Мамка

Ваша маці.

Джульета

Я тут. Вы клікалі мяне, сіньёра?

Сіньёра Капулецці

Ды вось што... Няня, выйдзі на хвілінку;
Пагаварыць нам трэба.— Не, чакай;
Я перадумала: ты можаш слухаць.
Маю дачку ты ведаеш з маленства.

Мамка

Яе жыццё я знаю па гадзінках.

Сіньёра Капулецці

Ёй чатырнаццаці няма.

Мамка

Няма,
Клянуся чатырнаццаццю зубамі,
Хоць у мяне іх усяго чатыры.
А колькі да Пятра?

Сіньёра Капулеці

Два тыдні з лішнім.

Мамка

Ну, два ці больш, але ў Пятрову ноч
Якраз ёй чатырнаццаць год міне.
Мая Сусанна (пухам ёй зямля)
Была равесніцай, ды бог забраў:
Яе не варта я была. Ну, вось,
Дык на Пятра ёй чатырнаццаць будзе.
Так, чатырнаццаць. Добра памятаю,
У гэты дзень было землетрасенне,—
Я ад грудзей крывінку адняла.
Да капелькі ўсё помню, як сягоння.
Я палыном сабе нацерла грудзі,
На сонцы седзячы ля галубятні.
Вы ў Мантуі былі тады з сіньёрам.
Як зараз помню я: калі яна
Гаркоту палыну рассмакавала,
Дык так заплакала, што аж зайшлася.
І ручкай замахнулася на грудзі.
Тут раптам галубятня задрыжала,
Дык я кулём адтуль!
Сем... дзесяць... Адзінаццаць год мінула.
Тады яна стаяла ўжо... Ды што я!
Яна ўжо бегала. Зірнеш — пацеха:
Шлэп, шлэп, як тая гуска. Памятаю,
Што перад тым за дзень пабіла лобік.
Тады мой муж — спачын яго душы —
Такі быў жартаўнік!.. узяў яе:
«Ну, што ж ты тварам падаеш? — сказаў ён.
Чакай, малышка, як паразумнееш,
Тады ты будзеш падаць дагары.
Ці так, дзяўчо?» — І вось, клянуся богам,—
Дзяўчынка сціхла і сказала: «Так».
Цяпер той жарт і спраўдзіцца гатоў.

Хоць тысячу гадоў я пражыву,
Ніколі не забуду: «Так, дзяўчо?»
Дурніца нават плакаць перастала.
І кажа: «Так».

Сіньёра Капулеці

Ну, змоўкні, годзе ўжо.

Мамка

Маўчу. Аж смех бярэ, калі я ўспомню,—
Раптоўна сціхла і сказала: «Так».
А гуз на лбе з курынае яйцо —
Ударылася моцна і крычала.
Муж кажа: «Што ж ты тварам падаеш?
Чакай, малышка, як паразумнееш,
Тады ты будзеш падаць дагары.
Ці так, дзяўчо?» — Яна тут сціхла: «Так».

Джульета

І ты ўжо, няня, сціхні, калі ласка.

Мамка

Ужо я сціхла. Дай табе бог шчасця,
Ты прыгажэйшая за ўсіх дзяцей,
Якіх я няньчыла. І каб яшчэ
Мне на тваім вяселлі пагуляць,
Тады б нічога больш я не хацела.

Сіньёра Капулеці

Дык я ж сама якраз пра гэта
Хачу пагаварыць. Скажы, Джульета,
Ці ты хоць раз падумала пра замуж?

Джульета

Не марыла яшчэ пра гэткі гонар.

Мамка

Пра гонар — бачыш ты! Каб не была
Я мамкаю тваёй, дык бы сказала,
Што розум ты ўсмактала з малаком.

Сіньёра Капулеці

Дык вось падумай ты цяпер пра гэта,
Ёсць дамы маладзей цябе ў Вероне,—

І маткі ўжо яны. А я сама
Шмат маладзей была, чым ты цяпер,
Калі цябе радзіла. Справа ў тым,
Што граф Парыс цябе пасватаць хоча.

Мамка

Вось гэта чалавек! А кавалер!
А прыгажун! Як з воску выліт!

Сіньёра Капулецi

Няма ў Вероне лепшай кветкі летам.

Мамка

І праўда — кветка; кветачка дый годзе.

Сіньёра Капулецi

Ну, што ты скажаш? Ён табе да густу?
На вечары сустрэнешся з ім сёння,
Сама ты прачытаеш тую кнігу,
Што напісала хараства пяро.
Па рысах разгадай цудоўны твар
І сэнс раскрый яго задум і мар.
Калі ж чаго не выявіш падчас,
Шукай на ўсё ў вачах яго адказ.
Перад табою ён, як кніга тая,
Што толькі добрай вокладкі чакае,
Ды не злавіў ніхто прыдатнай з рыб,
Што скуру ўзяць на вокладку маглі б.
Цудоўную карціну гэтаксама
Прыгожая аздобіць можа рама
І залатому зместу добрых кніг
Патрэбны ўбор засцёжак залатых.
З красой і скарб табе падорыць ён,
Што для цябе, вядома, не урон.

Мамка

Які ж урон? Нам ад мужчын прыбытак.

Сіньёра Капулецi

Скажы, ты можаш палюбіць Парыса?

Джульета

Я пагляджу, мо з'явіцца любоў,

Але вачам я волі столькі дам,
Каб дагадзіць і быць паслушнай вам.

Уваходзіць с л у г а.

С л у г а

Сіньёра, госці сабраліся, вячэра пададзена, вас запрашаюць, маладую сіньёру клічуць, мамку на кухні праклінаюць, усе хвалююцца. Я павінен ісці туды прыслугоўваць. Калі ласка, ідзіце хутчэй. *(Выходзіць.)*

С і н ь ё р а  К а п у л е ц і

Хадзем, Джульета, граф ужо прыйшоў.

М а м к а

Ідзі, ідзі, ды прыбаўляй хутчэй
К шчаслівым дням шчаслівых шмат начэй.

## Сцэна чацвёртая

*Вуліца.*

Уваходзяць Р а м э о, М е р к у ц ы о, Б е н в о л і о з пяццю ці шасцю іншымі м а с к а м і, ф а к е л ь ш ч ы к і і х л а п ч у к з барабанам.

Р а м э о

Ну, як жа мы — папросім прабачэння,
Ці зойдзем так, нічога не сказаўшы?

Б е н в о л і о

О не, цяпер балачкі не ў пашане,
Мы ўвалімся да іх без Купідона
З павязкай на вачах, з татарскім лукам,
Падобнага на пудзіла ў гародзе,
Якое толькі дзевак нам распудзіць.
Не трэба нам і вуснага Пралога,
Які не скажа слова без суфлёра.
Няхай, што хочуць, думаюць пра нас,
Мы патанцуем з імі — і назад.

Рамэо

Не ў галаве мне танцы. Дайце факел.
Хоць я пахмурны, а свяціць магу.

Меркуцыо

Не, дарагі Рамэо, патанцуеш.

Рамэо

У вас вось туфлі з лёгкаю падэшвай
І ногі лёгкія да танцаў, а ў мяне
Цяжкі свінец на змучанай душы.
Ён так гняце, што мне скрануцца цяжка.

Меркуцыо

Ты ж закаханы, здэцца, дык пазыч
У Купідона крылле і лятай.

Рамэо

Ён так мяне стралою прапізаў,
Што крылляў мне не ўзняць, і спутаў так,
Што мне тугі сваёй не пераскочыць.
Гняце цяпер каханне да зямлі.

Меркуцыо

Як упадзеш, дык ты ж яго прыдушыш,
А груз цяжкі для гэткай кволай рэчы.

Рамэо

Любоў зусім не кволая, а злая,
Калючая, як той чартапалох.

Меркуцыо

І ты будзь грубы з грубаю любоўю:
Яна цябе, а ты яе калі.

*(Надзявае маску.)*

Пад гэтай маскай твар я свой схаваю.
Калі ж каму пачварай пакажуся?
Няхай вось гэта рыла чырванее.

Бенволіо

Ну што ж хадзем пастукаем. Як зойдзем —
У скокі пусцімся, дадзім нагам работу.

Рамэо

Мне факел дайце. Хай сабе юнцы
На пацяруху труць чарот нагамі,
Я ж прыказкі трымаюся старой:
Хто свеціць, дык той больш і ўбачыць.
Разгар гульні, а я, лічы, прапаў.

Меркуцыо

Ах, факельшчык, любоўнік, шаляніца,
Ты нам агорк, як чадная газніца;
Зграз у палюбоўнай калатушы,
А мы стаім, развесілі тут вушы,
Дарэмна свечкі палім.

Рамэо

Не дарэмна.

Меркуцыо

Маруда, мы любоў тваю клянём,
Бо трацім час, як тыя свечкі днём.
Паслухай нас, тут нашых пяць галоў,
Дык разумней цябе мы ў пяць разоў.

Рамэо

Мы будзем там няпрошаныя госці.

Меркуцыо

Занадта ты разважлівы чагосьці.

Рамэо

Мне сніўся сон.

Меркуцыо

І мне той самы, мусіць.

Рамэо

Які ж табе?

Меркуцыо

Што сны страшэнна хлусяць.

Рамэо

Ты не кажы, бывае сон прарочы.

Меркуцыо

Відаць, царыца Маб мінулай ноччу
Цябе наведала. Бабулька эльфаў —
Яна не большая за той агат,
Што ўстаўлены ў пярсцёнак ольдэрмена.
На атамах запрэжаных яна
Заўсёды ездзіць па людскіх насах,
Калі, як нежывыя, людзі спяць.
У колах спіцы — ногі павукоў,
А верх каляскі — з крылляў страказіных.
Пастронкі — з найтанчэйшай павуцінкі.
А хамуты — з паўмесяцаў бліскучых
І пуга — з ножкі цвыркуна і з жылкі.
За фурмана — у шэранькай ліўрэі
Малюсенькі камарык, меншы нават
За чарвяка, што ў дзеўкі-гультая
Суставы точыць. Кузаў каляснiцы —
З арэхавай шкарлупкі белкай зроблен
Ці чарвяком — карэтнікам выдатным,
Які для фей карэты вырабляе.
І так штоночы раз'язджае Маб.
Як па мазгах любоўніка праедзе,—
Каханая прысніцца; па каленях
Вяльмож — паклоны сняцца; па руках
Суддзі — яму адразу хабар сніцца;
Па вуснах дам,— дык сняцца пацалункі.
Ці вусны гэтыя балячкамі асыпле,
Бо ласыя занадта да прысмакаў.
Прыдворны нос яна кране часамі,
І падарункаў пах яму прысніцца.
А іншы раз шчацінкаю свіною
Папоўскі нос ціхутка паказыча,
Тады яму прыход багаты сніцца.
А то яшчэ па шыі па салдацкай
Пракоціцца — і бачыць ён разню,
Вайну, клінкі іспанскія, засады
І кубкі ў паўаршына глыбінёй.
Бой барабанны раптам ён пачуе,
Усхопіцца, пачне шаптаць малітву

І зноў засне. Яшчэ вось гэта Маб
Начамі грывы заплятае коням,
І людзям каўтуны яна камечыць;
Разблытаеш каўтун — бяду наклічаш.
Дзяўчат, што дагары ляжаць у сне,
Яна гняце, да грузу прывучае,
Каб мацяркі мажныя вышлі з іх.
Яна...

Рамэо

Ды сціхні ўжо, Меркуцыо.
Балбочаш ты пра глупства.

Меркуцыо

Так, пра сны.
Яны — як дзеці бестурботнай галавы,
Народжаныя выдумкай пустой;
І лёгкія, нібы само паветра,
Нясталыя, як вецер той, што лашчыць
Зямлі паўночнай ледзяныя грудзі,
Пасля, ўзлаваўшыся, ляціць на поўдзень,
На росы чыстыя зямлі вільготнай.

Бенволіо

Твой вецер нас ад нас саміх адносіць:
Вячэра скончыцца, пакуль мы прыйдзем.

Рамэо

Баюся я, што рана. Адчуваю,
Што лёс мой вырашаны ўжо на небе,
Што будзе баль пачаткам долі горкай,
Смерць нагла мяне чакае, мусіць,
Каб у магілу раннюю пакласці.
Але мой парус той хай падымае,
Хто караблём маім кіруе. Пойдзем.

Бенволіо

Бі ў барабан!

Ідуць у дом.

## Сцэна пятая

*Зала ў доме Капулеці.*

Музыкі чакаюць. Уваходзяць слугі з сурвэткамі.

1-ы слуга

Дзе ж Макацёр? Чаму ён не памагае прыбіраць? Гэта яго справа — мяняць талеркі, скрэбці пасуду.

2-гі слуга

Дрэнна, калі ўсё аддадзена ў рукі двух чалавек, ды яшчэ ў нямытыя.

1-ы слуга

Выносьце хутчэй крэслы, адсуньце буфет. А ты, даражэнькі, прыхавай для мяне крыху марцыпанаў. І, калі ты мне друг, скажы прыбрамніку, каб ён прапусціў сюды Сусанну Ступу і Нелі. Антон! Макацёр!

2-гі слуга

Добра, будзе зроблена.

1-ы слуга

Цябе шукаюць, цябе патрабуюць, цябе завуць, цябе клічуць, табе трасцу зычаць у вялікай зале.

3-ці слуга

Мы ж не можам адначасова быць і там і тут. Весялей, хлопцы, шавяліцеся. Хто другіх перажыве, той усё заграбе.

Выходзяць.

Уваходзяць Капулеці, Джульета і іншыя хатнія; яны сустракаюць гасцей і маскі.

Капулеці

Прашу, сіньёры! Дамы рвуцца ў танец,
Вядома, тыя, што без мазалёў.
Ха-ха, галубачкі. Няхай цяпер
Каторая адмовіцца скакаць.
Як не танцуе, значыць — мазалі.
Ага, ага, вось я вас і злавіў.
*(Да Рамэо і яго спадарожнікаў.)*
Заходзьце, калі ласка! Быў жа час,
Калі і сам я маску надзяваў
І дамам нештачка шаптаў на вушка.

Мінулася. Заходзьце, калі ласка!
Музыкі, грайце! Месца больш для танцаў!
А ну, прыўдарце, мілыя мае!

*(Музыка грае. Госці танцуюць.)*

Эй, вы, святла пабольш! Сталы ўсе прэч!
Камін тушыце: вельмі цёпла стала.
Вось добрая забава нечакана!

*(Да старога, свайго сваяка.)*

Сядай, сядай, мой добры Капулецці!
Прайшлі ўжо дні, калі мы так скакалі.
Калі апошні раз на маскарадзе
Былі мы?

2-гі Капулецці

Трыццаць год таму назад.

1-ы Капулецці

Ды што ты — менш. Адкуль жа трыццаць год?
Лючэнцыю вяселле мы гулялі.
І як ты, браце, час ні падганяй,
Дык больш як дваццаць пяць гадоў не будзе.

2-гі Капулецці

Не, больш. Яго ўжо сыну трыццаць будзе.

1-ы Капулецці

Ну, што ты кажаш! Два гады назад
Непаўналетнім ён яшчэ лічыўся.

Рамэо
*(слузе са сваёй кампаніі)*

Скажы, што гэта за сіньёра там
Прыгожая такая, з кавалерам?

Слуга

Не ведаю, сіньёр, што за яна.

Рамэо

Свяціць агням бы у яе вучыцца.
Яна ўначы — цудоўна незямная.
Нібы алмаз у вуху маўра, ззяе.

Не на зямлі б ёй трэ было радзіцца,
Яна красуецца сярод дзяўчынак,
Як белая галубка між варон.
Яе краса красе другіх — урон.
Як толькі будзе ў танцы перапынак,
Я стану на пазіцыі такой,
Каб дакрануцца да яе рукой,
І гэта шчасцем будзе для мяне.
Ці ж ведаў я любоў дагэтуль? Не!
Ранейшага зракліся сёння вочы —
Красы не бачыў я да гэтай ночы...

Т ы б а л ь т

Мантэкі чую я нахабны голас.
Падай мне шпагу, паж. Нягоднік гэты
Прыйшоў пад маскаю, каб насміхацца
Над нашаю святочнаю бяседай.
Я чэсцю роду слаўнага клянуся,—
Забіць яго — граху не пабаюся.

К а п у л е ц і

Што там, пляменнік? Ты чаго ўскіпеў?

Т ы б а л ь т

Ды вораг наш сюды прыйсці пасмеў
З намерам подлым, злосным і заўзятым —
З нас пасмяяцца, сапсаваць нам свята.

К а п у л е ц і

Юнак Рамэо?

Т ы б а л ь т

Так, падлец Рамэо.

К а п у л е ц і

Ты супакойся, не чапай яго;
Трымае ён сябе, як дваранін,
І, праўду кажучы, ў Вероне ён
Адзін з найбольш прыстойных юнакоў.
Яго ў сваім я доме не пакрыўджу.
А ты сцярпі і не звяртай увагі;
Я так хачу. Загад мой паважай.

Будзь ветлівым і твару не нахмурвай,
Зласлівым быць у свята непрыстойна.

Тыбальт

Калі падлец прыйшоў у дом — прыстойна.
Яго не пацярплю.

Капулецці

Цярпець прымушу.
Маўчаць, хлапчук! Сказаў я — так і будзе.
Хто гаспадар тут? Я ці ты? А ну!
«Не пацярплю». Ах, божа літасцівы!
Ён будзе бунтаваць гасцей маіх.
Ён будзе тут распараджацца мне.

Тыбальт

Дык гэта ж сорам, дзядзя.

Капулецці

Прэч пайшоў!
Што ты нахабнік, гэта ўсім вядома.
Глядзі, раскаешся, ды позна будзе.
Супроць мяне ідзе ён. Не, даволі!
— Цудоўна сказана! — Ідзі, нахабнік!
Ды сціхні, бо... Святла давайце! — Сорам.
Я ўціхаміру.— Весялей, сябры!

Тыбальт

Ад лютасці я ўвесь успалымнеў,
Цярпенне сілай не патушыць гнеў.
Пайду. Салодкасць гэтага ўварвання
Яму гарчэй атруты горкай стане.

Рамэо

*(Джульеце)*

Рукою грэшнай да твае рукі
Я дакрануўся — дай мне паратунак!
Як пілігрымы, губы грэх такі —
Загладзяць, падарыўшы пацалунак.

Джульета

Судзіць так строга рукі вам няможна,
Павінны быць яшчэ удзячны ім:

Яны святыню кратал і набожна,
І ад граху ўратован пілігрым.

Рамэо

Тады нашто ўжо маем губы мы?

Джульета

На тое толькі, каб чытаць псалмы.

Рамэо

Але яны цябе, святую, моляць,
Каб тое, што рукам, і ім дазволіць.
Прымі маленне іх, не засмучай,
Бо выклічаш бязвер'е і адчай.

Джульета

Святыя нерухомы пры мальбе.

Рамэо

Дык нерухомай будзь, малю цябе.
Пакуль я не крануся губ святых
І гэтым грэх цяжкі зніму з сваіх.
*(Цалуе яе.)*

Джульета

Дык на маіх губах павінен ён застацца?

Рамэо

Мой грэх? Дакор салодкі мне, прызнацца.
І грэх свой я вазьму назад...
*(Цалуе зноў.)*
Вось так.

Джульета

Аднак жа цалавацца вы — мастак.

Мамка
*(Джульеце)*

Там мама кліча вас на пару слоў.

Рамэо

Хто ж маці гэтае сіньёры?

Мамка

Маці?

Ды гаспадыня гэтага вось дому.—
Надзвычай добрая, разумная,
Шаноўная жанчына. А дачку,
З якою вы тут зараз гаварылі,
Карміла я грудзьмі, і вы паверце —
Шчаслівы той, хто ёю заўладае.

Рамэо

Дык гэта Капулецці. Не гадаў,
Як ворагу ў заклад жыццё аддаў.

Бенволіо

Пайшлі дамоў. Канец гулянню тут.

Рамэо

Канец гульні, ды не канец пакут.

Капулецці

Не, не, сіньёры, крышку пачакайце,—
Вось зараз будзе лёгкая закуска.
Не можаце застацца? Ваша воля.
Усім вам дзякую. Спакойнай ночы!
Гэй, факелаў сюды! І нам пара
Ужо на бакавую.

*(Другому Капулецці.)*

Позна, брат!

Пайсці заснуць.

Выходзяць усе, апрача Джульеты і мамкі.

Джульета
*(Мамцы)*

Ідзі сюды... Што гэта за сіньёр?

Мамка

А гэта ж сын Тыберыя старога,—
Яго наследнік.

Джульета

А ў дзвярах вунь той?

Мамка

А гэта, быццам, малады Петручыо.

Джульета

А той вунь, што не танцаваў — хто гэта?

Мамка

Не ведаю.

Джульета

Ідзі, даведайся,
Хто ён такі, як зваць.

*(Мамка адыходзіць.)*

Жанаты можа,
Тады труна мне будзе шлюбным ложам.

Мамка
*(вярнуўшыся)*

Сын ворага ён вашага — Мантэкі,
Адзіны сын у бацькі, зваць — Рамэо.

Джульета

Нянавісць ты адзіная мая!
З цябе любоў мая паўстала грозна:
Не ведаўшы, яго спаткала я,
Спаткаўшы, я даведалася позна.
Што здолела любоў са мной зрабіць!
Я ворага прымушана любіць.

Мамка

Што, што?

Джульета

Нічога... Верш я ўспамінаю.
Што мне сказаў адзін танцор сягоння.

*Голас за сцэнай:* «Джульета!»

Мамка

Зараз.— Годзе ўспамінаць,
Гасцей няма, і нам пара ўжо спаць.

Выходзіць.

## Акт другі

ПРАЛОГ

Уваходзіць хор.

Хор

Была адна любоў, цяпер другая,
Ад першай знік навекі ў сэрцы след.
Была любімая і дарагая,
Ды новая краса зацьміла свет.
Рамэо любяць і Рамэо любіць,
Але не суджаны ім шчасця дні:
Варожасць злая, што іх долю губіць,
Лягла прадоннем страшнай глыбіні.
Здаўных-даўна ідзе яе карэнне.
Рамэо ў доме любай — не жаніх.
Калі ж і дзе яна яго сустрэне?
Што ўсцеражэ ад страшнай помсты іх?
Ды возьме верх любоў над гневам лютым,
І асалода зменшыць іх пакуты.

*(Выходзіць.)*

### Сцэна першая

*Пляц, які мяжуецца з садам Капулецці.*

Рамэо

Куды ж ісці, калі мае тут сэрца?
Сюды, сюды, да цэнтра прыцяжэння.

*(Пералазіць цераз сцяну і знікае за ёй.)*

Уваходзяць Бенволіо і Меркуцыо.

Бенволіо

Рамэо! Брат Рамэо!

Меркуцыо

Ён не дурань —
Напэўна, дома ўжо і ўклаўся спаць.

Бенволіо

Ды не, пабег сюды, тут пералез.
Пакліч яго, Меркуцыо.

Меркуцыо

Вар'ят Рамэо, блазан, страсць, любоўнік!
З'явіся нам хаця, як уздыханне,
Адзін хоць верш скажы і буду рад я.
Скажы «па жаль», зрыфмуй «любоў» і «кроў»,
Шапні слаўцо маёй куме Венеры,
Сынка яе сляпога падражні —
Амура, што ў цара так спрытна стрэльнуў,
І той жабрачку палюбіў праз гэта.
Ні водгуку ніякага, ні руху —
Памёр няшчасны. Хіба дух яго
Я заклінаннем выклічу сюды.
Вачамі Разаліны заклінаю,
Яе чалом, пунсовымі губамі,
Маленькай ножкай, трапяткім сцягном
І тым дабром, што па суседству з ім,—
З'явіся нам у вобразе сваім.

Бенволіо

Ён раззлуецца, як пачуе гэта.

Меркуцыо

Чаго злавацца? Я ж прашу яго
Сюды з'явіцца у імя красуні.

Бенволіо

Хадзем, схаваўся недзе ён між дрэў;
Вільготны змрок якраз яму да сэрца:
Любоў сляпая — цемра ёй падходзіць.

Меркуцыо

Сляпая, дык у цэль ёй не папасці.
Ён недзе пад кізілавым кустом
Сядзіць і марыць, каб яго красуня

Кізілавым пладом раскрытым
Сама з галінкі ўпала на яго.
Рамэо, хай жа станецца ўсё так,
Як ты жадаеш. Ну, бывай, Рамэо!
Пайду я лягу ў мяккую пасцель,
Бо на зямлі халоднай не засну.
Ну, што ж, хадзем.

Бенволіо

Хадзем. Дарэмна будзем
Шукаць таго, хто сам ад нас схаваўся.

## Сцэна другая

*Сад Капулеці.*
Уваходзіць Рамэо.

Рамэо

Смяецца з раны той, хто ран не меў.

Джульета з'яўляецца ў акне наверсе.

Чакай! Што за святло ў акне мільгае?
Там палымнее ўсход. Джульета — сонца.

Устань жа, сонца, і забі ты месяц,
Які збялеў ад зайздрасці і злосці,
Што ты, слуга, сваёю прыгажосцю
Яго зацьміла і яму балюча.
Пакінь служыць зайздросніку і скінь
Убор весталкі палінялы, бледны,
Які да твару толькі нездаровым.
Мая ўладарніца! Любоў мая!
О, каб ты ведала... Яна гаворыць...
Не, маўчыць... Гавораць толькі вочы.
І не са мной — адказваць недарэчна —
Не мне ж гавораць. Яркія дзве зоркі,
Пакінуўшы на час начное неба,
Упрошваюць, каб вочы пасвяцілі,
Пакуль яны не вернуцца на неба.

О, што б тады тварылася на небе!
Ды ад румянца шчок памерклі б зоры,
Як меркне лямпа перад ясным сонцам,
А вочы ў небе ярка б так гарэлі,
Што птушкі б палічылі ноч за дзень
І, як уранні, радасна б запелі.
Вунь, на руку аперлася шчакой.
Мне б тут пальчаткай быць з яе рукі,
Каб дакранацца да шчакі!

Д ж у л ь е т а

О гора!

Р а м э о

Гаворыць. Гавары, мой светлы ангел!
Над галавой маёй ты так жа ззяеш,
Як ззяе пасланец крылаты неба,
Калі плыве на воблаках лянівых,
І смертныя, закінуўшы галовы,
У захапленні ўслед яму глядзяць.

Д ж у л ь е т а

Рамэо! Ах, чаму Рамэо ты?
Ад бацькі адрачыся, ад імя,
А не,— дык пакляніся мне, што любіш,
І я дачкой не буду Капулеці.

Р а м э о

Паслухаць мне яшчэ ці адказаць?

Д ж у л ь е т а

Не ты, адно імя тваё — мой вораг,
Ты ж сам сабой, зусім ты не Мантэкі.
Бо што ж Мантэкі? Твар, рука, нага
Ці што яшчэ? Імя другое ты
Сабе вазьмі. Бо што такое назва?
Як ружу ні заві, а пах той самы.
Рамэо, каб і зваўся ён Рамэо,
Усё адно застаўся б ён цудоўным.
О, скінь імя, Рамэо, бо яно ж
Не частачка цябе, і за імя
Ты ўсю мяне вазьмі.

Рамэо

Лаўлю на слове.
Ты любым назаві мяне, і я —
Ахрышчаны і болей не Рамэо.

Джульета

Хто ж ты, што ў змроку гэтай ціхай ночы
Маю падслухаў тайну?

Рамэо

Праў не маю
Імя сваё назваць, мая святыня!
Імя маё — варожае табе,
Таму яно агідна мне самому.
Калі б імя напісаным я ўбачыў,
Дык на шматкі паперу б разарваў.

Джульета

Яшчэ і сотні слоў я не пачула,
А ўжо цябе па голасу пазнала.
Ды ты ж Рамэо. Праўда? Ты Мантэкі?

Рамэо

Ніводзін з іх. Яны табе агідны.

Джульета

Скажы, чаго ты тут, і як ты трапіў?
Сцяна высокая — не пералезці.
Калі з радні мае цябе хто-небудзь
Застане тут, дык смерць табе на месцы.

Рамэо

Любоў мяне на крыллях перанесла,
Бо для любві і мур — не перашкода,
На ўсё адважыцца яна насмее;
Што значыць для мяне твая радня?

Джульета

Яны заб'юць цябе, як толькі ўбачаць.

Рамэо

Мне вочы мілыя твае страшней,
Чым дваццаць шпаг. Зірні прыхільна ты,

І загартован я супроць іх злосці.

Джульета

О гора мне, калі цябе заўважаць!

Рамэо

Мяне схавае ноч пад плашч свой чорны.
Калі ж не любіш,— дык няхай знаходзяць.
Ляпей ад іх варожасці загінуць,
Чым паміраць мне без тваей любві.

Джульета

Хто ж паказаў сюды табе дарогу?

Рамэо

Любоў мяне на пошукі паслала,
Дала параду, я ж ёй вочы даў.
Я не марак, але каб ты была
Далёка, як зямля за акіянам,
Паплыў бы я па гэтакі тавар.

Джульета

Начная маска твар мой прыкрывае,
А то б ты ўбачыў чырвань на шчаках,
Ад слоў маіх, якія ты падслухаў.
Каб захаваць прыстойнасць, я ахвотна б
Ад сказанага мною адраклася,
Але — бывай, прыстойнасць! Любіш ты
Мяне? Вядома, скажаш ты — люблю,
І я паверу. Хоць і даўшы клятву,
Ты можаш здрадзіць. Кажуць, сам Юпітэр
З любоўнай клятвы кпіць. Рамэо, мілы!
Скажы мне праўду — любіш ты мяне?
Калі ж ты думаеш, што вельмі хутка
Здалася я, дык я пасуплюся,
Упартай стану, і тады ў адказ
Пачуеш — не. І ні за што на свеце...
Я моцна так люблю, Мантэкі мілы,
Што выглядаю вельмі легкадумнай.
Павер, аднак, што я вярней за тых,
Што ўмеюць непрыступнымі здавацца.
І я трымалася б інакш, павер,
Калі б ты ўпотай не падслухаў тут

Прызнання шчырага мае любві.
Даруй жа, не прымі за легкадумнасць
Таго, што ноч адкрыла выпадкова.

Рамэо

Клянуся гэтым месяцам святым,
Што серабром абліў вяршыні дрэў...

Джульета

О, не кляніся здрадлівым свяцілам,
Што кожны месяц зменьвае свой выгляд,
Каб не была любоў твая такой.

Рамэо

А чым клясціся мне?

Джульета

Нічым не трэба.
А не, дык бажаством любві мае —
Самім сабою пакляніся ты,
Паверу я.

Рамэо

Калі агонь любві...

Джульета

Стой, не кляніся. Рада я табе,
Але не рада змове я начной...
Так гэта ўсё раптоўна, нечакана,
Як бліскавіца, што паспее згаснуць,
Пакуль ты скажаш слова — «бліскавіца».
Дабранач, мілы! Хай дыханне лета
Любві расток у кветку ператворыць,
Пакуль спаткаемся мы зноў. Дабранач!
Хай у тваёй душы спакой пануе,
Якім так поўна дышуць мае грудзі.

Рамэо

І ты мяне пакінеш безуцешным?

Джульета

А чым я больш магу цяпер уцешыць?

Р а м э о

Ты мне ўзамен за клятву клятву дай.

Д ж у л ь е т а

Дала яе раней, чым ты прасіў,
І моманту цяпер таго шкадую.

Р а м э о

Зара мая! Ты клятву ўзяць хацела б
Назад? Чаму?

Д ж у л ь е т а

Каб зноў яе дарыць.
Хачу валодаць тым, чым так багата.
Мая любоў бяздонная, а шчодрасць —
Бязмежны акіян. Чым больш я іх
Дару табе, тым болей застаецца.
Яны ў мяне бясконцыя абедзве.

За сцэнай чуваць голас мамкі.

Мяне завуць... Бывай, мой мілы!..— Зараз,
Іду я, нянечка. Мантэкі, мілы,
Будзь верным! Пачакай, вярнуся я.

*(Выходзіць.)*

Р а м э о

О, самая шчаслівая з начэй!
Баюся я, што гэта сон прысніўся,
Чароўны вельмі ён, каб праўдай быць.

Д ж у л ь е т а зноў паказваецца наверсе.

Д ж у л ь е т а

Яшчэ тры словы, мой Рамэо любы,
Тады ўжо сапраўды — бывай. Калі
Сумленна любіш і жаніцца хочаш,
Дык заўтра пасланцу майму скажы,
Дзе і калі вянчацца будзем мы,
І я свой лёс кладу к тваім нагам,
На край зямлі пайду за ўладаром.

Мамка

*(за сцэнай)*

Сіньёра!

Джульета

Зараз! І калі задумаў
Нядобрае. Прашу цябе...

Мамка

Сіньёра!..

Джульета

Ужо іду... Тады не дамагайся,
Пакінь мяне адну з маёй тугой.
Дык заўтра я прышлю...

Рамэо

Душой клянуся...

Джульета

Ну, сто разоў жадаю добрай ночы.

Рамэо

У сто разоў мне ноч цямнейшай стала.
Як лёгка з кніжкай школьніку расстацца,
Так цяжка мне з любімай развітацца.

Павольна ідзе да выхада.

Джульета

*(зноў паказваецца)*

Рамэо! Ах, шкада, што не ўладаю
Я голасам сакольніка, каб зноў
Прывабіць сокала назад. Не можа
Няволі сіплы голас смела крыкнуць,
А то пячору б страсянула я,
Дзе рэха спіць, і голас бы яго
Ахрыплым быў бы горш, чым мой
Бясконца паўтараючы — Рамэо.

Рамэо

Душа мая мяне заве. Чароўна,
Як музыкі сярэбраныя гукі,
Гучыць мне любы голас уначы.

Джульета

Рамэо.

Рамэо

Мілая!

Джульета

Калі ж прыслаць
Мне заўтра?

Рамэо

Раніцой у дзевяць.

Мамка

Сіньёра!

Джульета

Добра, я прышлю. Але ж
Да дзевяці чакаць мне — дваццаць год.
Забылася, нашто цябе вярнула.

Рамэо

Дазволь мне пастаяць, пакуль ты ўспомніш.

Джульета

Не ўспомню я, каб ты даўжэй стаяў.
Адно я помню — добра мне з табой.

Рамэо

Я пастаю, а ты ўсё забывай.
І сам забуду я пра ўсё на свеце.

Джульета

Світае. Адпусціць цябе хачу я,
Нібыта птушку, рэзвая дзяўчынка,
Што дасць спярша нявольніцы ўзляцець,
Пасля шнурок шаўковы зноў пацягне,
Раўнуючы яе да вольнай волі.

Рамэо

Ахвотна б я тваёю птушкай быў.

Джульета

І я хацела б гэтага, але
Пяшчотамі б замучыла цябе.
Дабранач! Ах, салодкі боль расстання!
Я расставалася б з табой да рання.

Рамэо

Няхай спакой лунае над табою,
Твайму я сну зайздрошчу і спакою.
Пайду к Ларэнца. У айца святога
Параду я знайду і дапамогу.
*(Выходзіць.)*

## Сцэна трэцяя

*Келья брата Ларэнца.*
Уваходзіць брат Ларэнца з кошыкам.

Брат Ларэнца

Ужо ўсміхнуўся ранак шэравокі
Пахмурнай ночы, неба край далёкі
Пазалаціў, і змрок сышоў, як п'яны,
З дарогі вогненных калёс Тытана.
Пакуль агністым вокам дня красу
Не асвяціла сонца і расу
Не асушыла з траў, імглісты золак
Пакуль не высах, праменем сагрэты,
Павінен назбіраць я ў кошык гэты
Гаючых кветак і атрутных зёлак.
Зямля — прыроды маці і магіла —
Дзяцей бясконцы лік грудзьмі ўспаіла.
Народжаныя маткаю адной —
Яны каштоўны вартасцю сваёй,
Хоць кожнае адменны выгляд мае.
Шмат сіл дзівосных у сабе хавае
Расліна кожная і кожны камень,
Шмат якасцей, не скарыстаных намі.
Няма нічога злога на зямлі,
З чаго б дабра хоць каплю не ўзялі.
Дый добрае становіцца благім,
Калі на шкоду карыстацца ім.

У гэтай кветцы ёсць і сок атруты,
І сродак — людзям аблягчыць пакуты.
Панюхай — целу свежасць дасць і сілу,
А паспытай — паложыць у магілу.
І сэрца чалавечае такое:
Там з добрым перамешана благое;
Як зло ў ім над дабром пераважае,
Чарвяк смяротны кветку паражае.

Уваходзіць Рамэо.

Рамэо

Дзень добры, ойча!

Брат Ларэнца

Будзь благаславенны!
Чый голас прывітаў мяне так рана?
Юнак, твой «добры дзень» парой такою —
Адзнака клопату і неспакою.
На варце клопат пры старых вачах,
Не дапускае сну ён па начах,
А дзе юнацтва, што турбот не знае,
Над ложкам там спакойны сон лунае.
Маглі цябе падняць у рань такую
Турботы нейкія, як я мяркую.
А праўдзівей яшчэ калі сказаць —
Ты гэту ноч зусім не клаўся спаць.

Рамэо

Ты адгадаў, але праз гэта мне
Ноч прыямнейшаю была ўдвайне.

Брат Ларэнца

Хай бог даруе. З Разалінай быў?

Рамэо

Не, ойча, я зусім яе забыў.

Брат Ларэнца

Ну, гэта добра. А калі не з ёй,
Дык дзе ж?

Рамэо

Маўчы і слухай, ойча мой.
На балі быў я ў ворага свайго.
Там раніў ён мяне, а я — яго.
Дык вось я з просьбай да айца святога:
Абодвум нам патрэбна дапамога.
На ворага я злосці не нашу:
І за сябе і за яго прашу.

Брат Ларэнца

Будзь шчырым, сын, адкрый усё зараз:
Якая споведзь, дык такі й адказ.

Рамэо

Дык ведай жа... Мацней за ўсё на свеце
Мы любімся з дачкою Капулеці;
Як мне яна, дык так і я ёй люб,
І нас навек з'яднаць павінен шлюб.
Як мы сышліся, як пакляўся ёй,
Дарогай раскажу я, ойча мой.
Цяпер жа напрашу мне абяцаць,
Што будзеш ты сягоння нас вянчаць.

Брат Ларэнца

Святы Францыск! Якая перамена!
Любіў ты Разаліну так страшэнна
І хутка так забыў. У юнакоў,
Відаць, не ў сэрцы, а ў вачах любоў.
Ах, Езус-Мар'я. Ад любві шалёнай
Яшчэ зусім нядаўна цёк з вачэй
Па бледных шчоках горкіх слёз ручэй.
Прапала марна шмат вады салёнай,
Якой ты прыпраўляў сваё каханне.
Яшчэ ж і воблакаў твайго дыхання
Не ўспела сонца разагнаць,
І жаль і енк твой у вушах стаяць.
І на тваёй шчацэ забыты
Нядаўніх слёз я бачу след пязмыты.
Калі сабой ты быў, а боль — тваім,
Дык Разаліне ты належаў з ім.
Калі мужчына нетрывалы ў страсці,
Дык тым лягчэй слабой жанчыне пасці.

Рамэо

Ты ж дакараў, што я люблю яе.

Брат Ларэнца

Не за любоў — за дурасці твае.

Рамэо

Ты раіў пахаваць любоў благую.

Брат Ларэнца

Не для таго, каб адкапаць другую.

Рамэо

Не гавары дакорлівых мне слоў.
Яна любоўю плаціць за любоў,
Не так, як тая.

Брат Ларэнца

Разгадала тая,
Што бойка так любоў тваю чытае
На памяць, хоць не ведае складоў.
Ну што ж, хадзем. Я памагчы гатоў.
Мо шлюб дзяцей бацькам саслужыць службу,
Варожасць іх ператварыўшы ў дружбу.

Рамэо

Хутчэй, хутчэй, мяне чакае шчасце.

Брат Ларэнца

Хто так спяшаецца, той можа ўпасці.

## Сцэна чацвёртая

*Вуліца.*

Уваходзяць Бенволіо і Меркуцыо.

Меркуцыо

Куды ж таго Рамэо чэрці ўзялі?
Што, дома ён не начаваў сягоння?

Бенволіо

Не начаваў — пытаўся я ў слугі.

Меркуцыо

І ўсё тут Разаліна вінавата —
Дзяўчынка бледнашчокая і злая.
Ён звар'яцее зараз праз яе.

Бенволіо

Тыбальт — сваяк старога Капулецці —
Прыслаў сягоння ў дом пісьмо яму.

Меркуцыо

Магу ў заклад ісці, што гэта выклік.

Бенволіо

Ну што ж, Тыбальту ён адкажа.

Меркуцыо

Кожны, хто ўмее пісаць, зможа адказаць на пісьмо.

Бенволіо

Не пісьмом адкажа, а выклікам на дзёрзкі выклік.

Меркуцыо

На жаль, небарака Рамэо ўжо мёртвы. Пранізалі яго наскрозь чорныя вочы бялявай дзяўчынкі. Вуха яго прастрэлена любоўнай песенькай. У сэрца, у самую сярэдзіну, трапіла яму страла сляпога хлапчука. Ну, дзе ж яму цяпер цягацца з Тыбальтам?

Бенволіо

А што ж такое Тыбальт?

Меркуцыо

Напэўна, ужо не які-небудзь кашэчы цар Тыберт, а нехта важнейшы. О, ён герой далікатных манер. Ён б'ецца на паядынку ўсё роўна, як ты па нотах спяваеш. Захоўвае адлегласць, меру, тэмп, вытрымлівае кароценькую паўзу — раз, два, а трэці ўжо ў грудзях у вас.

Ён сапраўдны згубіцель гузікаў, што на канцах рапір. Дуэлянт, дуэлянт. Дваранін самага першага гатунку, знаток першых і другіх зачэпак для дуэлі. Ах, бяссмертнае: passado, яго punto reverso, яго hai!..

Бенволіо

Што?

Меркуцыо

Чорт бы іх пабраў гэтых модных блазнаў, манерных балбатуноў, што мову перакручваюць на новы лад: «Клянуся Езусам, дзівосны клінок, надзвычайны мужчына, цудоўная дзеўка». Хіба не крыўдна, друг, што нас апаноўваюць гэтыя чужаземныя мухі, гэтыя модныя pardonnez-moi, такія сквапныя да новых убораў, што ім на старых лаўках і сядзець у іх нязручна. Агідна слухаць гэтыя іх «bon, bon!»

Уваходзіць Рамэо.

Бенволіо

Вось і Рамэо ідзе, вось і Рамэо.

Меркуцыо

Як таран без ікры. О, мяса, мяса! Як ты так абрыбілася? Ён цяпер гаворыць вершамі, як Петрарка. Лаура — у параўнанні з яго любай — кухарка, хоць яе палюбоўнік апяваў яе куды лепш. Дыяна — няўклюда, Клеапатра — цыганка, Елена і Гера — вулічныя флюндры. Хіба хоць і мае шэрыя вочы і яшчэ там нешта такое, але і яна ні к чорту не варта. Сіньёр Рамэо, бонжур! Французскае прывітанне вашым французскім штанам. Вы нас здорава падвялі ўчора вечарам.

Рамэо

Добры дзень вам абодвум. Як я вас падвёў?

Меркуцыо

Уцяклі, сіньёр, уцяклі. Хіба не памятаеце?

Рамэо

Даруй мне, добры Меркуцыо, у мяне былі важныя справы. У такіх выпадках, як мой, можна ўхіліцца ад правіл далікатнасці.

Меркуцыо

Ты хочаш сказаць, што ў падобных выпадках не грэх і схіліцца.

Рамэо

З далікатнасці, вядома.

Меркуцыо

Ну так, ты з далікатпасці даволі гнуткі.

Рамэо

А ты ад гнуткасці такі далікатны са мною.

Меркуцыо

Я — кветка далікатпасці.

Рамэо

Кветачка. Сапраўдны букет.

Меркуцыо

Вядома.

Рамэо

На маіх туфлях такія кветкі.

Меркуцыо

Здорава сказана. Насі па здароўе свае шавецкія жарты, пакуль не стопчуцца іх падэшвы, а стопчуцца — жарт застанецца ўсё роўна.

Рамэо

Які жарт, такая і падэшва.

Меркуцыо

Развядзі нас, добры Бенволіо, а то мой досціп слабее.

Рамэо

Паганяй яго і прышпорвай, прышпорвай, а то я крыкну — абагнаў.

Меркуцыо

Калі твае жарты паляцяць адзін за адным, як дзікія гусі, тады я прапаў. У цябе ў адным жарце больш дзічы, чым у мяне ў пяці. Ува мне няма нічога гусінага.

Рамэо

Ты сам добры гусак. Гэта ж пра цябе гавораць: «З яго, як з гусака вада».

Меркуцыо

Я табе вуха адшчыпну за гэта.

Рамэо

Будзь добрым гусаком і не шчыпліся.

Меркуцыо

Твой жарт — страшэнная кісляціна, як дзікі яблык.

Рамэо

Гэта не кепская прыправа да тлустага гусака.

Меркуцыо

Твой жарт расцягваецца, як казіная шкура. Ён у цябе з вяршок, а ты расцягваеш яго на сажань.

Рамэо

Калі расцягну яго на ўсю шырыню і абкручу ім цябе, дык ты будзеш сам гусаком у поўнай меры.

Меркуцыо

Ну вось, хіба гэта не лепш, чым стагнаць і хныкаць ад любві? Цяпер ты зноў той самы Рамэо. Як мае быць — Рамэо і па натуры і па выхаванню. А гэта сліпявая любоў падобна на блазна, што, высунуўшы язык, кідаецца сюды і туды, шукаючы дзіркі, каб схаваць сваю цацку.

Бенволіо

Стой, стой, даволі.

Меркуцыо

Чаму — стой?

Бенволіо

Каб твая гаворка не была бясконцай.

Меркуцыо

А калі я буду стаяць, дык думаеш, хутчэй да канца дайду. Наадварот, я быў бы ўжо ў канцы, калі б ты мяне не спыніў.

Уваходзяць мамка і П'етра.

Рамэо

Вось дык убор!

Меркуцыо

Парус, парус!

Бенволіо

Цэлых два: спадніца і штаны.

Мамка

П'етра!

П'етра

Чаго?

Мамка

Дай мой веер, П'етра.

Меркуцыо

Падай ёй, П'етра. Няхай яна веерам прыкрые свой твар. Так будзе прыгажэй.

Мамка

Добры дзень вам, сіньёры!

Меркуцыо

Добры вечар, сіньёра.

Мамка

Хіба ўжо вечар?

Меркуцыо

Каля гэтага. Ужо стрэлка-распусніца стаіць на дванаццаці.

Мамка

Ідзіце прэч. Што вы за чалавек?

Рамэо

Чалавек, якога бог стварыў дый сам каецца.

Мамка

Вось гэта, дальбог, добра сказана. І сам каецца...
Сіньёры, ці не скажа мне хто з вас, дзе я магу знайсці маладога Рамэо?

Рамэо

Гэта я магу сказаць. Але малады Рамэо, калі вы яго знойдзеце, будзе старэйшы, чым тады, калі вы пачалі яго шукаць. З усіх, хто носіць гэта імя, я самы малодшы, калі не самы горшы.

Мамка

Як вы хораша гаворыце.

Меркуцыо

Хораша, што ён самы горшы? Здорава сказанула. Разумна, разумна.

Мамка

Калі вы сіньёр Рамэо, я вам хачу нешта сказаць.

Бенволіо

Напэўна, запросіць на вячэру.

Меркуцыо

Зводніца, зводніца! Ату яе!

Рамэо

Каго ты цкуеш?

Меркуцыо

Не зайца, сіньёр, а можа, і зайца, які быў запечаны ў посным пірагу і зацвіў раней, чым яго пачалі есці.

*(спявае)*

Заяц шэры, сталы ўзростам,
Можна есці нават постам —
Не скаромная яда;
Толькі высах ён без меры,
Састарэўся заяц шэры,
І пратух ён — вось бяда.

Рамэо, будзеш ты сёння дома ў свайго бацькі? Мы ж ідзём туды абедаць.

Рамэо

Я іду следам за вамі.

Меркуцыо

Бывайце, старэнькая сіньёра.

*(Спявае.)*

«Сіньёра, сіньёра, сіньёра!..»

Мамка

А такі ж бывайце. Скажыце, сіньёр, хто гэты нахабнік, напханы ўсялякім паскудствам?

Рамэо

Гэта, няня, чалавек, які любіць слухаць сябе самога і за адну мінуту нагаворыць столькі, колькі сам не пераслухае за месяц.

Мамка

Няхай толькі ён скажа што-небудзь наконт мяне, дык я з ім упраўлюся, хоць бы ён быў дужэйшы, чым ёсць. Упраўлюся і яшчэ з дваццаццю такімі ўрвіцелямі. А не сама, дык нехта ўправіцца. Ах, паскуднік! Што я яму — дзеўка гуляшчая ці шалахвост які з яго шайкі?

*(Да П'етра.)*

А ты што стаіш, разявіўшы рот? Табе і нічагуткі, што кожная шэльма з мяне насміхаецца.

П'етра

Я не бачыў, каб хто з вас насміхаўся, іначай я адразу выхапіў бы свой меч. Я не горш іншых выхопліваю меч, калі здараецца добрая сварка і калі закон на маім баку.

Мамка

Божа мой, я так раззлавалася, што ўся аж калачуся. Калі ласка, сіньёр, на адно слоўка. Як я ўжо сказала, мая маладая сіньёра даручыла мне знайсці вас... ну, а што яна загадала вам сказаць, пра гэта я памаўчу пакуль што. Спачатку дазвольце вам далажыць, што калі вы маеце намер, як той казаў, толькі пазабаўляцца з ёю, дык гэта будзе, як той казаў, вельмі дрэнны ўчынак, бо яна ж яшчэ такая маладая і таму, калі хочаце ашукаць яе, дык гэта будзе нядобры ўчынак; ашукаць такую высакародную дзяўчыну — гэта брыдка.

Рамэо

Няня, кланяйся ад мяне сіньёры. Клянуся...

Мамка

Вось добрая душа! Клянуся, што я ўсё гэта ёй раскажу. Яна будзе найшчаслівейшай жанчынай у свеце.

Рамэо

Што ж ты ёй раскажаш, няня? Ты ж не даслухала мяне.

Мамка

Я скажу ёй, сіньёр, што вы пакляліся, а гэта, як я разумею, і ёсць якраз тое самае, што павінен рабіць высакародны чалавек.

Рамэо

Скажы ёй,
Няхай яна прычыну знойдзе сёння
Прыйсці на споведзь. Там айцец Ларэнца
Звянчае нас. Вазьмі вось за паслугі.

Мамка

Не, не, сіньёр, ды што вы! Нічога не вазьму.

Рамэо

Ну, вось яшчэ. Бяры, кажу!
*(Дае ёй грошы.)*

Мамка

Дык сёння адвячоркам? Добра, прыйдзе.

Рамэо

Ты за сцяной манастыра чакай.
Слуга туды мой прыйдзе неўзабаве
І лесвіцу вяровачную дасць.
Па ёй у змроку ночы я ўзнімуся
На самую вяршыню шчасця. Ну,
Бывай і вернай будзь. Я за паслугу
Аддзякую. Джульеце прывітанне.

Мамка

Няхай вам бог паможа... Пачакайце!

Рамэо

Што, дарагая няня?

Мамка

Ваш слуга

Ці верны? Бо сакрэт датуль сакрэтам,
Пакуль адзін з дваіх не быў пры гэтым.

Рамэо

Ручаюся, што верны ён, як сталь.

Мамка

Ну, добра, сіньёр. Мая сіньёра — найлепшая ў свеце. Божа ты мой, божа! Калі яна была яшчэ маленькая, толькі яшчэ лепятаць пачынала... О, ёсць, ведаеце, у горадзе адзін дваранін, граф Парыс, дык вельмі ж ён ласа пагглядае на яе, а яна, небарака, глядзець на яго не можа, як на тую жабу-рапуху. Я часамі, каб падражніць яе, вазьму дый скажу, што Парыс самы прыдатны для яе мужчына. Як скажу так, дык яна аж пабляднее, проста, як палатно, белая стане... А гэта праўда, што размарын і Рамэо пачынаюцца з аднае літары?

Рамэо

З аднае, няня; дык і што ж? Адно і другое пачынаецца на «р».

Мамка

Які вы жартаўнік! Гэта ж сабачая літара — ррр. Не, я ведаю, што яны пачынаюцца з другой літары. Бо яна так міла, так складна гаворыць пра вас і пра размарын, што вам бы люба было паслухаць.

Рамэо

Кланяйся маладой сіньёры.

*(Выходзіць.)*

Мамка

Тысячу раз буду кланяцца. П'етра!

П'етра

Чаго?

Мамка

Вазьмі мой веер ды ідзі наперад.
Хутчэй!

Выходзяць.

## Сцэна пятая

*Сад Капулецi.*

Уваходзiць Джульета.

Джульета

Як няню я паслала, бiла дзевяць,
Сказала — вернецца праз паўгадзiны.
А можа — не знайшла? Не! Быць не можа:
Яна кульгавая, марудзiць. У любвi
За пасланцоў павiнны мыслi быць,
Што ў дзесяць раз шпарчэйшыя за промень,
Якi з узгоркаў змрок начны зганяе.
I нездарма ў венерыну каляску
Запрэжаны крылатыя галубкi,
А ў Купiдона крылле быццам вецер.
Ужо над галавою сонца — поўдзень,
Пайшла ж у дзевяць — цэлых тры гадзiны,
I ўсё няма. Ёй хоць бы што. Нябось,
Каб маладая кроў у ёй кiпела
I пал юнацкi, дык яна б лятала,
Як мячык той. Яе сваiм бы словам
Я кiнула да мiлага свайго,
А ён бы — да мяне. Але старыя,
Як мёртвыя. Цяжкiя на хаду.
Ну, дзе ж яна? Я звар'яцею зараз
Iдзе! О божа!

Уваходзяць мамка i П'етра.

Няня, залатая!
Ну што, знайшла яго? Адправу слугу.

Мамка

Iдзi, чакай нас ля калiткi, П'етра.

П'етра выходзiць.

Джульета

Ну, няня, дарагая! Божа мой!
Чаму ж ты хмурная? Благiя весткi?
А ты ўсё роўна весела расказвай,

А добрыя — тады іх музыкі
Не псуй ты выглядам сваім панурым.

М а м к а

Стамілася, дай мне перадыхнуць.
Ух, косці як баляць! Вось дык прагулка!

Д ж у л ь е т а

Вазьмі мае, а мне свае дай косці,
Хутчэй расказвай толькі, дарагая.

М а м к а

Паспееш. Пачакай хвілінку. Бачыш,
Што дух мне заняло.

Д ж у л ь е т а

Не заняло,
Калі змагла сказаць, што заняло.
За час, што траціш ты на адгаворкі,
Пра ўсё магла б ужо мне расказаць.
Скажы хоць — вестка добрая ці не,
А рэшту скажаш потым. Заспакой жа!
Інакш і я табе не дам спакою.

М а м к а

Адно скажу — выбар твой няўдалы. Не ўмееш выбіраць мужчын. Рамэо! Толькі не ён! Праўда, твар у яго прыгажэйшы, чым у іншых мужчын і ростам ён статны; пра рукі, ногі няма чаго гаварыць — яны — вышэй усякай пахвалы, і хоць ён — не кветка далікатнасці, але вельмі ж рахманы, як ягнятка... Ідзі, дзеўка, памаліся богу за свой лёс... А што — у нас ужо абедалі?

Д ж у л ь е т а

Не, не! Я ж гэта ведала раней.
Скажы, што пра вяселле ён сказаў?

М а м к а

Як галава баліць! Ох, галава!
Аж разрываецца на дваццаць частак.
А паясніца! Ох ты, паясніца!
Як ломіць! І табе не грэх за гэта?
Да смерці заганяеш ты мяне.

Джульета

Шкада мне вельмі, што табе так дрэнна...
Што ж ён сказаў, мой любы?

Мамка

Твой любы гаварыў, як шчыры сіньёр, як чалавек ветлівы, мілы і прыгожы, і, магу прысягнуць, што прыстойны... Дзе маці?

Джульета

Дзе маці? Дома маці. Дзе ж ёй быць?
Як па-дурному ты гаворыш, няня:
«Твой любы, чэсны дваранін, сказаў —
Дзе маці...»

Мамка

Божа, як яна ўскіпела!
Вось дык прыпаркі для касцей балючых!
Цяпер сама будзь пасланцом сваім.

Джульета

Не злуйся... Ну, дык што ж сказаў Рамэо?

Мамка

Цябе да споведзі адпусцяць сёння?

Джульета

Адпусцяць.

Мамка

Ну, дык ідзі ты да Ларэнца ў келью,
Там муж чакае, каб ты жонкай стала.
Глядзі, як кроў зайграла на шчаках!
Вось зараз больш яны пачырванеюць.
Ідзі ў царкву хутчэй, а я пайду
Дастану лесвіцу, каб мог твой мілы
Па ёй да птушачкі ў гняздо дабрацца,
Як змеркнецца. Вам радасць, а праз вас
Я цэлы дзень у клопаце, ў хадзьбе.
Але чакай, вось ночы прыйдзе час,
Цяжар тады ўжо ляжа на цябе.
Ідзі ж у келью. Я пайду абедаць.

Джульета

Бывай! Іду я пічасце зведаць.

Выходзіць.

## Сцэна шостая

*Келья брата Ларэнца.*
Уваходзяць брат Ларэнца і Рамэо.

Брат Ларэнца

Хай бог благаславіць святы абрад
І горам за яго не пакарае.

Рамэо

Амін, амін. Няхай хоць гора прыйдзе,
Дык радасці яно не перавысіць,
Што за адну мінуту з ёй пазнаеш.
Малітваю з'яднай ты нашы рукі,
А там—хай прыйдзе смерць, любві забойца—
Мне досыць, што яе назваў сваёй.

Брат Ларэнца

У бурных радасцей канец раптоўны,
Іх перамога — смерць. Яны згараюць,
Як порах і агонь пры датыканні.
Салодкі мёд салодкасцю празмернай
Нам прыкрым робіцца і траціць смак.
Любі ты ў меру — будзе больш трывала,
Паспешны траціць так жа, як марудны.

Уваходзіць Джульета.

Вось і яна! Такой хадою лёгкай
Не пратаптаць каменных гэтых пліт.
Любоўніка ўтрымала б павуцінка,
Што носіць ветрык восенню лагодпай.
Такая лёгкая заўсёды марнасць.

Джульета

Маё вам прывітанне, добры ойча!

Брат Ларэнца

За нас абодвух дзякуе Рамэо.

Джульета

Дык і яму таксама прывітанне,
Каб не дарэмна дзякаваў ён мне.

Рамэо

Калі ты поўна радасці, як я,
І зможаш выказаць яе мацней,
Тады паветра навакол напоўні
Сваім дыханнем, музыкаю слоў,
Ты перадай усю бязмернасць шчасця,
Якое нам дае спатканне наша.

Джульета

Любоў не словамі багата — зместам,
І слаўна сутнасцю, а не убраннем.
Няцяжка жабраку злічыць багацце.
Мая ж любоў багатая без меры,
Я не магу злічыць і паўбагацця.

Брат Ларэнца

Хадзем... Усё мы зробім за хвіліну.
Пакуль царква святая ў плоць адзіну
Не злучыць вас, адных я не пакіну.

Выходзіць.

# Акт трэці

## Сцэна першая

*Верона. Рыначны пляц.*
Уваходзіць Меркуцыо, Бенволіо, пажы і слугі.

Бенволіо

Мой друг Меркуцыо, хадзем адгэтуль,
Гарачы дзень, гуляюць Капулецi:
Сустрэнемся — ад бойкі не ўхіліцца,
Такой гарачынёю кроў кіпіць.

Меркуцыо

Ты страшэнна падобны на аднаго з такіх малайцоў, што, як толькі ўвойдзе ў шынок, бразне сваю шпагу на стол і скажа: «Дай божа, каб ты мне сёння не спатрэбілася», а пасля другога кубка выхоплівае яе, каб парнуць шынкара, хоць у гэтым няма ніякай патрэбы.

Бенволіо

Няўжо я падобны на такога?

Меркуцыо

Вядома. Ты такі ж гарачы, як кожны італьянец: гэтак жа лёгка можаш разгарачыцца, а як разгарачышся, дык і пораш гарачку.

Бенволіо

А тады што?

Меркуцыо

А тады — каб вас было двух, дык не засталося б ніводнага: вы зараз жа пазабівалі б адзін аднаго. Ты! Ды ты

гатоў пабіцца з чалавекам за тое, што ў яго барадзе адным воласам больш ці менш, чым у цябе. Ты з чалавекам паб'ешся за тое, што ён арэхі лузгае, не маючы другой прычэпкі, апрача той, што ў цябе вочы арэхавага колеру. Ну, чые вочы ўбачаць тут прычыну для бойкі, апрача тваіх? У тваёй галаве столькі задзёру, колькі ў яйцы бялка з жаўтком... хоць яна разам з тым пустая, як выедзенае яйцо, бо ў частых бойках з яе выбілі ўсе глузды. Ты раз пабіўся з чалавекам за тое, што ён кашляў на вуліцы і кашлем пабудзіў твайго сабаку, які спаў на сонцы. Хіба не ты счапіўся з краўцом за тое, што ён надзеў новы камзол, не дачакаўшыся вялікадня? З другім чалавекам ты пабіўся за тое, што ён завязаў новыя чаравікі старой стужкай. І ты яшчэ ўздумаў стрымліваць мяне ад бойкі.

Бенволіо

Каб я быў такі забіяка, як ты, дык я даўно ўжо запрадаў бы сваё жыццё першаму сустрэчнаму, калі б ён паручыўся хоць за адну гадзіну твайго існавання.

Меркуцыо

Жыццё прадаў бы? Ах ты, прастата.

Бенволіо

Клянуся галавой — ідуць Капулеці.

Меркуцыо

Клянуся пятой — начхаць мне на іх.

Уваходзяць Тыбальт і іншыя.

Тыбальт
*(да сваіх)*

За мной! Я з імі буду гаварыць.

*(Да Меркуцыо і Бенволіо.)*

А, добры дзень. Прашу, сіньёры,
На адно слова аднаго з вас.

Меркуцыо

На адно толькі слова і аднаго з нас? Дабаўце да яго яшчэ што-небудзь, ну, хоць бы ўдар.

Тыбальт

Я гатоў і на гэта. Дайце толькі зручны выпадак.

Меркуцыо

А калі не даць выпадку, дык самі вы яго ўзяць не можаце?

Тыбальт

Меркуцыо, і ты з Рамэо заадно іграеш!

Меркуцыо

Іграю? Што ты з нас робіш вулічных музыкаў. А калі так, прыслухайся — іграем мы на розны лад.

*(Бярэцца за шпагу.)*

Вось струмант мой — вось чым цябе скакаць прымушу. Чорт вазьмі, іграю!..

Бенволіо

Тут шмат людзей, а мы заводзім спрэчку.
Альбо другога месца пашукайма,
Альбо спакойна спрэчку будзем весці,
Альбо разыдземся: на нас глядзяць.

Меркуцыо

Няхай глядзяць, на тое ж вочы ў іх,
На радасць ім я з месца не скрануся.

Уваходзіць Рамэо.

Тыбальт

Ну, мір, сіньёр! Мой чалавек ідзе.

Меркуцыо

Няхай мяне павесяць, калі ён
Ліўрэю вашу апрануў хоць раз,
Калі ж паклічаш ты яго на бойку,
На гэты заклік ён ахвотна пойдзе,—
У гэтым сэнсе ён заўсёды твой.

Тыбальт

Мая нянавісць да цябе, Рамэо,
Не знае слоў іншых, як — падлец.

Р а м э о

Тыбальт, прычына, праз якую
Люблю цябе, мне кажа гнеў стрымаць,
Які ты выклікаў. Я не падлец.
Бывай! Ты дрэнна ведаеш мяне.

Т ы б а л ь т

Хлапчук! Абразы гэтым не загладзіш.
Вярніся зараз жа і вымі шпагу.

Р а м э о

Клянуся — я цябе не абражаў.
Што я люблю цябе, ты не паверыш,
Пакуль прычын любві не будзеш ведаць.
Дык задаволься ж, любы Капулеці,—
Імя мне гэта люба, як сваё.

М е р к у ц ы о

О, подлая ганебная пакорнасць!
Alla stoccato гэту ганьбу змые.
Тыбальт, эй, мышалоў! Выходзь сюды!

Т ы б а л ь т

Чаго ты хочаш ад мяне?

М е р к у ц ы о

Нічога, кашэчы цар,— я хачу толькі ўзяць адно жыццё з тваіх дзевяці жыццяў. Як упраўлюся з адным жыццём, тады, з твайго дазволу, выб'ю з цябе і астатнія восем. Выцягвай жа за вушы сваю шпагу з ножнаў. Ды хутчэй, а то мая засвішча каля тваіх вушэй.

Т ы б а л ь т

*(вымае шпагу)*

Я гатоў.

Р а м э о

Схавай ты шпагу ў ножны, друг Меркуцыо!

М е р к у ц ы о

Ну, ну, сіньёр! Давай, не аглядайся!

*(Б'юцца.)*

Рамэо

Бенволіо! Сюды хутчэй са шпагай!
Мы зброю выб'ем. Сорамна, сіньёры!
Тыбальт! Меркуцыо! Сурова герцаг
Забараніў на вуліцы Вероны
Такія бойкі. Стойце ж вы! Тыбальт!
Меркуцыо мой добры!

Тыбальт з-пад рукі Рамэо раніць Меркуцыо і ўцякае з сваімі спадарожнікамі.

Меркуцыо

Ранен я.
Чума на вашы дзве радні! Канец мне.
А ён уцёк? Ён цэлы?

Бенволіо

Ты паранен?

Меркуцыо

Так, драпіна. Ды хопіць мне яе.
Дзе паж мой? Шэльма, доктара пакліч!

Рамэо

Трымайся, дружа, рана ж не страшная.

Меркуцыо

Ну, вядома: яна не такая глыбокая, як калодзеж, і не такая шырокая, як царкоўныя дзверы, але досыць будзе і такой. Наведайся да мяне заўтра, і ты знойдзеш мяне спакойным і нерухомым. Ручаюся, я ўжо кончаны. Чума на вашы дзве радні! Чорт вазьмі! Гэты сабака, пацук, мыш, кот мог задрапаць чалавека на смерць! Хвалько, дрэнь, нягоднік, што б'ецца паводле правіл арыфметыкі. І якога чорта стаў ты паміж намі? Я быў ранены з-пад твае рукі.

Рамэо

Я думаў лепш зрабіць.

Меркуцыо

А выйшла горш.
Бенволіо, дапамажы зайсці
Мне ў дом, які... Я аслабеў зусім.

Чума на вашы дзве радні! Праз іх
Я пападу чарвям на ежу.
Гатоў! Канец! Ах, вашы дзве радні...

Меркуцыо і Бенволіо выходзяць.

Рамэо

Мой друг, самога герцага сваяк,
На смерць паранены тут за мяне.
Зняслаўлены мой гонар ім, Тыбальтам,
Тыбальтам, што раднёй мне стаў нядаўна.
О мілая Джульета! Хараство
Тваё зусім расслабіла мяне
І волю мужную ганебна размякчыла.

Уваходзіць Бенволіо.

Бенволіо

Рамэо, друг! Меркуцыо памёр.
На небе ўжо яго лунае дух,
Які зямлю з пагардаю пакінуў.

Рамэо

О, чорны дзень — пачатак страшных дзён,
Другія беды нам прарочыць ён.

Варочаецца Тыбальт.

Бенволіо

Вось зноў ідзе сюды Тыбальт шалёны.

Рамэо

Жывы! Ён рад, Меркуцыо ж забіты!
Прэч ад мяне лагоднасць! Мной цяпер
Хай агнявокая злаба кіруе.
Ну, падляца вазьмі назад, Тыбальт.
Душа Меркуцыо яшчэ не так высока
Над нашымі галовамі ўзняслася:
Чакае ў спадарожніцы твае,
І з нас адзін туды ляцець павінен:
Ці ты, ці я, ці мы абодва разам.

Тыбальт

Хлапчук нікчэмны! Тут дружыў ты з ім,
Ляці ж за ім туды.

Рамэо

Меч вырашыць.

*(Б'юцца. Тыбальт падае.)*

Бенволіо

Рамэо, уцякай хутчэй, ратуйся!
Народ ідзе сюды. Тыбальт забіты.
Ну, схамяніся! Калі схопяць тут,
Дык смерць табе ад герцага. Ўцякай!

Рамэо

Забава лёсу я.

Бенволіо

Чаго марудзіш?

Рамэо выходзіць, уваходзяць гараджане.

1-ы гараджанін

Куды ж уцёк той, хто забіў Меркуцыо?
Тыбальт — забойца. Ён куды ж уцёк?

Бенволіо

Тыбальт ляжыць вось тут.

1-ы гараджанін

За мной, сіньёр!
Ты іменем закона арыштован.

Уваходзяць герцаг са світай, Мантэкі
і Капулеці з жонкамі і іншыя.

Герцаг

Паганцы дзе, што бойку пачалі?

Бенволіо

Мой уладар! Я быў пры гэтым сам
І ўсё табе дакладна перадам.

Забіты тут рукой Рамэо той,
Кім быў забіт сваяк адважны твой.

Сіньёра Капулецi

Тыбальт! Сын брата роднага! Забіты!
О герцаг! О мой муж! Тут наша кроў
праліта!
Адплаты я прашу і правасуддзя:
Няхай жа кроў за кроў праліта будзе.
О, мілы мой пляменнік!

Герцаг

*(да Бенволіо)*

Бенволіо, хто бойку распачаў?

Бенволіо

Тыбальт, што ад рукі Рамэо паў.
Рамэо быў лагодны. Ён прасіў
Адумацца, пустую спрэчку кінуць,
Аб вашым страшным гневе папярэджваў,
Ён ветліва, спакойна гаварыў.
Але ніяк не ўціхамірыў гэтым
Буянага Тыбальта. Ён у грудзі
Меркуцыо накіраваў рапіру.
Той загарэўся ўвесь, заззяла сталь.
Адной рукой ён спрытна смерць адводзіў,
Другой жа пасылаў яе Тыбальту.
Рамэо крыкнуў ім: «Сябры, пакіньце!»
Шпарчэй за крык ён кінуўся між іх,
Адводзячы смяротныя удары.
У гэты момант з-пад яго рукі
Тыбальт ганебным, здрадніцкім ударам
На смерць параніў храбрага Меркуцыо.
Тыбальт уцёк, ды хутка зноў вярнуўся.
Рамэо помстаю гарэў увесь,
Яны схапіліся шпарчэй маланкі.
Я не паспеў разняць іх, як ужо
Тыбальт забіты, а Рамэо збег.
Я праўду ўсю сказаў, а калі не —
Дык пакарайце смерцю вы мяне.

Сіньёра Капулецi

Няпраўда ўсё — Мантэкі ён радня,
Адна ў іх кроў, і гэта ўсё хлусня.

Іх дваццаць нападала на яго,
І ўдваццацёх забілі аднаго.
Хай герцаг нас у крыўдзе не пакіне:
Забіў Рамэо — хай і сам загіне.

Герцаг

Тыбальт забіт, але ж забіў і сам,
Хто ж за Меркуцыо адкажа нам?

Мантэкі

Няўжо ж Рамэо? Ўзяў за друга ён
Не больш таго, што ўзяў бы і закон —
Жыццё Тыбальта.

Герцаг

Вось і пакаранне:
Асуджваем яго мы на выгнанне.
Праз вашу злобу я панёс ахвяру:
Праліта кроў радні маёй праз вас.
За гэта я вам дам такую кару,
Што страту вы аплачаце сто раз.
Я буду глух да просьб і апраўдання,
Дарэмны тут і мольбы і рыданні.
Рамэо хай хутчэй адсюль бяжыць,
А то на свеце больш яму не жыць.
Вазьміце труп. Забойцам даравань —
Ўсё роўна, што забойства апраўдаць.

Выходзяць.

## Сцэна другая

*Пакой у доме Капулеці.*
Уваходзіць Джульета.

Джульета

Хутчэй скачыце, агнявыя коні,
К палацу Феба. Фаэтон каб быў
За фурмана, даўно б на захад вас
Загнаў, і ноч бы на зямлю сышла.
О, ноч — прыяцелька любві! Свой полаг
Над намі разапні, каб мог Рамэо

Абняць мяне нячутны і нябачны!
Для закаханых, кажуць, дастаткова
Святла сваіх жа позіркаў іскрыстых.
Сама любоў — сляпая: цемра ночы
Да твару ёй. Бабулька ноч, я клічу:
Прыйдзі хутчэй і нашапчы на вуха,
Як выйграць мне прайграную ігру,
Дзе іграні цявінныя абодва.
Акрый мяне сваім плашчом, каб людзі
Не ўбачылі, як кроў бушуе ў жылах
І чырванню на шчоках выступае.
Прыкрый мяне, пакуль любоў навучыць
Смялейшай быць і не лічыць за сорам
Таго, што крочыць следам за любоўю.
Прыйдзі ты, ноч, прыйдзі, Рамэо ясны,
Заззяй у цемры ты бялей за снег,
Што на крыле у ворана ляжыць.
Ноч цемнавокая, цыганка ноч,
Прышлі Рамэо! А калі памрэ ён,
Парэж яго на дробненькія зоркі —
І неба так зазіхаціць прыгожа,
Што свет увесь улюбіцца ў яго
І сонцу больш не будзе пакланяцца.
Палац любві сабе купіла я,
Ды не магу ўладаць яшчэ. Сама
Я куплена, але ім не належу.
Дзень доўжыцца, як перад святам ноч
Дзяўчынцы той, якой купілі плацце,
Але надзець да дня яна не можа.
Ах, вось і няня, мой вястун чаканы.
Язык, што вымавіць імя Рамэо,
Надораны нябесным красамоўствам.

Уваходзіць м а м к а з вяроўкамі.

Якія весткі, няня? Ты вяроўкі
Дастала для Рамэо?

М а м к а

Так, вяроўкі.

Д ж у л ь е т а

Якія ж весткі? Што ты ломіш рукі?

Мамка

О гора! Ён памёр, памёр, памёр!
Загінулі, сіньёра, мы зусім.
Сканаў! На смерць забіты ён! Памёр!

Джульета

Няўжо злабой такою дыша неба?

Мамка

Калі не дыша неба, дык Рамэо.
Рамэо! О Рамэо! Хто б падумаў?

Джульета

Што ты за д'ябал, што мяне так мучыш?
Ад гэтай мукі пекла б застагнала.
Скажы — Рамэо сам сябе забіў?
Адно такое слова, як «забіты»,
Хутчэй заб'е, чым позірк васіліска.
Калі забіты, дык скажы «забіты»,
А не, дык «не». Не муч, кажы адразу,
Залежыць лёс мой ад твайго адказу.

Мамка

Сама сваімі бачыла вачамі
Вось тут во, на грудзях геройскіх, рану,
Няшчасны труп, крывёй абліты ўвесь.
Запечаная кроў... Мне млосна стала.

Джульета

О сэрца, разарвіся на кускі!
Банкротам стала ты. Не біся, сціхні!
Не плачце, вочы! Вечная цямніца
Суцешыць вас. Цяпер мне свет не мілы...
Яго ўзяла, бяры й мяне, магіла.

Мамка

Тыбальт, саколік мой, мой любы хлопчык!
Такі высакародны і пачцівы!
Чаму ж ты лёг раней мяне ў магілу?

Джульета

Адкуль прыйшло такое спусташэнне?
Забіт Рамэо? І Тыбальт таксама?

Мой мілы брат і мілы муж — абодва?
Скон свету, а трубы з нябёс не чутна.
Хто ж будзе жыць, калі такіх не стала?

Мамка

Тыбальт забіты, а Рамэо выгнан.
Рамэо, як забойца, у выгнанні.

Джульета

Тыбальта кроў праліў Рамэо? Божа!

Мамка

Праліў. О гора мне! Праліў, праліў!

Джульета

О, сэрца змея пад аблічам кветкі!
Жыве ў пячоры гэтакай цудоўнай
Дракон. Тыран красы дзівоснай.
У выглядзе анёлка — чорт. Груган
У пер'і галубка. Воўк з выглядам ягняці.
Стварэнне гнюснае з аблічам боскім!
Анёлак і падлюга! Працілегласць!
Што ж пеклу ты пакінула, прырода,
Калі ў жывы Эдэм красы чароўнай
Нячысты дух пякельны пасяліла?
Нашто для кнігі д'ябальскага зместу
Прыгожы пераплёт? З чыйго дазволу
Падман жыве ў палацы хараства?

Мамка

Няма ў мужчын ні сораму, ні праўды —
Ўсе ашуканцы, здраднікі, лгуны.
Дзе мой слуга? Гарэлкі мне хутчэй!
Няшчасце гэтае мяне састарыць.
Рамэо ганьба!

Джульета

Сціхні, прыкусі язык.
Не нарадзіўся ён для ганьбы,
І сорам бы ад сораму згарэў,
Чало яго крануўшы. Гэта трон:
На ім павінна чэсць каранавацца —

Адзіная ўладарніца над светам.
Які ж я звер, што лаяла яго!

Мамка

Ды не хваліць жа вам забойцу брата.

Джульета

А што ж, свайго мне мужа праклінаць?
О бедны муж, які язык аблашчыць
Тваё імя, калі ўжо я сама,
Што тры гадзіны жонкаю была,
Яго так бэсціла? Нашто ж, нягоднік,
Майго забіў ты брата? Хоць інакш
Нягоднік-брат майго забіў бы мужа.
Дык прэч жа вы, дурніцы-слёзы, прэч!
Назад вярніцеся ў сваю крыніцу.
Даніну, што прызначана для смутку,
Вы радасці прынеслі памылкова.
Жывы ж мой муж, якога загубіць
Хацеў Тыбальт. Загінуў жа Тыбальт,
Што мужа загубіць хацеў майго.
Усё тут добра. Дык чаго ж я плачу?
Выгнанне! Гэта горай смерці брата.
Забыць бы назаўсёды гэта слова.
Але яно мне ўрэзалася ў памяць,
Як справы грэшніка ў яго сумленне.
«Тыбальт забіты, а Рамэо выгнан».
«Рамэо выгнан». Гэта слова «выгнан» —
Жахлівей смерці тысячы Тыбальтаў.
З мяне ж даволі ўжо і смерці брата,
На гэтым бы канец. Але ж бяда
Адна не ходзіць, а прывыкла,
Каб чарадою ўслед ішлі другія,
Тады за словамі: «Тыбальт забіты»,
Чаму б ёй не сказаць: «Памёр твой бацька
Ці маці? Нават хоць абое разам?»
І я па іх паплакала б звычайна.
Але за словамі аб смерці брата
Сказаць: «Рамэо выгнан» — усё роўна,
Як бы сказаць — забіты бацька, маці,
Тыбальт, Рамэо, я. «Рамэо выгнан».
Няма тут болю ні канца ні краю;

Каб выказаць той боль, я слоў не маю.
Дзе бацька? Маці дзе?

Мамка

Тыбальта прах
Аплакваюць у горы і слязах.
Мо вас да іх правесці?

Джульета

Не, хай самі
Абмыюць рану братаву слязамі.
А я... Я плакаць буду аб выгнаным,
Прымі адсюль вяроўкі. Ашуканы
Яны, як я. Па іх пяньковым целе
Падняўся ён бы да маёй пасцелі.
Цяпер памру дзяўчынай-удавой.
Хадзем ка мне, я вас вазьму з сабой.
Нявіннаю я гэты свет пакіну,
На вас у дол апусцяць дамавіну.

Мамка

Ідзіце ў свой пакой. Каб вас уцешыць,
Рамэо я знайду. Я ведаю,
Дзе ён. Вы чуеце! Сягоння ноччу
Рамэо будзе тут. Я да яго
Іду. Цяпер ён у Ларэнца ў келы.

Джульета

Знайдзі яго, аддай пярсцёнак гэты
І папрасі, каб верны рыцар мой
Прыйшоў навек са мною развітацца.

## Сцэна трэцяя

*Келья брата Ларэнца.*
Уваходзіць брат Ларэнца.

Брат Ларэнца

Выходзь, выходзь, Рамэо нешчаслівы!
Сама туга ўлюбілася ў цябе,
З няшчасцем ты павенчаны, мой сын.

Уваходзіць Рамэо.

Рамэо

Якія весткі, ойча? Ёсць прысуд?
З якой яшчэ нязнанаю бядою
Павінен я спазнацца?

Брат Ларэнца

Мілы сын,
З няшчасцем ты здружыўся не на жарты.
Ёсць вестка ўжо аб герцагскім прысудзе.

Рамэо

Мо ён страшней яшчэ, чым страшны суд?

Брат Ларэнца

Прысуд яго не вельмі строгі: ты
Асуджан не на смерць, а на выгнанне.

Рамэо

Выгнанне? Злітуйся! Скажы лепш —
смерць!
Выгнанне мне куды страшней за смерць.
У сто разоў. Не гавары «выгнанне».

Брат Ларэнца

Адгэтуль толькі выгнан ты, з Вероны,
Дык будзь цярплівы — белы свет вялікі.

Рамэо

Няма за сценамі Вероны свету:
Чысцілішча, пакуты, пекла там.
З Вероны выгнан — выгнан я са свету.
Але ж выгнанне з свету — гэта смерць.
Выгнанне — тое самае, што смерць.
А называючы яе выгнаннем,
Сячэш ты шыю залатой сякерай
Дый усміхаешся, наносячы удар.

Брат Ларэнца

О грэх смяротны! О няўдзячнасць злая!
Тваю віну закон карае смерцю.
А герцаг наш па дабраце сваёй
Закон парушыў, стаўшы на твой бок:

Смерць чорную ён замяніў выгнаннем,
Ты ж гэтай міласці не хочаш бачыць.

Рамэо

Такая міласць — горш за катаванне.
Там толькі неба, дзе жыве Джульета.
Сабака, кот і мыш няшчасная,
І кожнае нікчэмнае стварэнне
Жыве пад гэтым небам, бачыць рай.
У мухі болей шчасця і свабоды,
Чым у Рамэо. Дадзена ёй права
Па ўласнай волі сесці і ўзляцець
З Джульецінай рукі, дзівоснай, белай,
Ці красці асалоду з вуснаў мілых,
Што быццам у нявіннасці дзявочай
Барвеюць пры ўзаемным дакрананні,
Як ягады каліны. Муха можа,
Адзін Рамэо гэтага не можа.
Яна свабодная, а я выгнаннік.
І ты мне кажаш, што выгнанне — міласць!
Няўжо нажа не меў ты ці атруты,
Ці іншага чаго для наглай смерці,
Апроч такога слова, як выгнанне?
Як у цябе хапіла, ойча, духу
Забіць мяне страшэнным словам «выгнан»?

Брат Ларэнца

Паслухай ты, вар'ят, што я скажу.

Рамэо

І зноў ты загаворыш аб выгнанні.

Брат Ларэнца

Ад слова гэтага я зброю дам:
Напітак філасофіі цудоўны
Цябе уцешыць нават і ў выгнанні.

Рамэо

Не трэба! К чорту філасофію!
Не створыць філасофія Джульеты,
І горада не перасунуць ёй,
Не адмяніць прысуду. Ані чым

Яна мне не паможа. Дык маўчы,
Не гавары мне пра яе зусім!

Брат Ларэнца

Як бачу я, вушэй няма ў вар'яцтва.

Рамэо

А ў розуму, відаць, няма вачэй.

Брат Ларэнца

Давай тваю мы справу абмяркуем.

Рамэо

А як ты можаш гаварыць аб тым,
Чаго не ведаеш? Каб маладым
Ты быў, як я, каб так любіў Джульету,
Каб, павянчаўшыся, праз тры гадзіны,
Забіў Тыбальта, звар'яцеў, як я,
І быў бы выгнаны, як я, тады б
Ты гаварыў. Ты рваў бы валасы
І падаў на зямлю, як я няшчасны.
Каб загадзя сваю магілу змераць.

Стук у дзверы.

Брат Ларэнца

Устань! Там стукаюць. Хутчэй схавайся!

Рамэо

Не! Хіба хмара чорная тугі
Мяне схавае ад людскога вока.

Стук.

Брат Ларэнца

Ты чуеш? Хто там? — Уцякай, Рамэо!
Цябе тут схопяць. Пачакайце! Ўстань!

Стук.

Бяжы ў малельню.— Зараз! — Божа мой!
Як гэта па-дурному! — Вось іду!

Стук.

Хто стукае так моцна? Што вам трэба?

Мамка

Пусціце, ўсё скажу... Я ад сіньёры
Прыбегла, ад Джульеты.

Брат Ларэнца

Калі ласка.

*Уваходзіць мамка.*

Мамка

Скажыце мне, святы айцец, скажыце,
Дзе муж мае сіньёры, дзе Рамэо?

Брат Ларэнца

Вунь на зямлі, ад слёз сваіх ён п'яны.

Мамка

О, тое ж самае з маёй сіньёрай.

Брат Ларэнца

Няшчаснае якое падабенства!

Мамка

Вось так жа і яна — ляжыць і плача,
Няшчасная, і плача, і рыдае.
Ну, ўстаньце, ўстаньце, калі вы мужчына.
Я вас Джульетай заклінаю — ўстаньце!
Чаго ж ужо так енчыць і стагнаць?

Рамэо

Ох, нянечка!

Мамка

Сіньёр, мы ўсе памром.

Рамэо

Расказвай пра Джульету — як яна?
Яна мяне забойцам, мусіць, лічыць,
Што ранак шчасця нашага запляміў
Крывёй яе радні. Дык дзе яна?
Што жонка тайная мая гаворыць
Пра наш няшчасны шлюб, што сам разбіў я?

Мамка

Нічога не гаворыць, толькі плача.
То кінецца на ложак, то раптоўна
Як закрычыць: «Тыбальт», пасля «Рамэо»!
І зноў на ложак падае пластом.

Рамэо

Яе маё імя, як куля, забівае,
Як брата любага забіла гэта
Праклятая рука. Скажы мне, ойча,
Дзе месціцца, ў якой часціне цела,
Маё імя? Скажы, каб мог я знішчыць
Агідны той прытулак.

*(Вымае шпагу.)*

Брат Ларэнца

Прэч руку!
Ці ж ты мужчына? З выгляду мужчына,
А слёзы-то жаночыя ў цябе.
Як звер драпежны ты ў сваім шаленстве.
Жанчына ты у вобразе мужчыны,
Драпежнік у аблічча чалавека.
Клянуся, дзіва мне. Раней я думаў,
Што болей мужнасці ў цябе і волі.
Забіў Тыбальта, а цяпер ты хочаш
Забіць сябе, а разам з тым і жонку,
Якая толькі і жыве табою.
Ты ўзняў руку на род свой — на жыццё,
Клянеш зямлю і неба, а яны ж —
Жыццё і неба, і зямля — ўсе трое —
З'ядналіся ў табе не для распаду,
І гэта ўсё зара́з ты можаш знішчыць.
Саромейся! Ты гэтым самым ганьбіш
Сваю натуру і любоў і розум.
Цябе прырода імі надзяліла,
А ты дарэмна гэта ўсё марнуеш,
Не карыстаешся багатым дарам,
Каб вобраз свой няспынна ўдасканальваць,
Сваю любоў і розум. Вобраз твой
Ні больш ні менш, як тая лялька з воску,
Пазбаўленая доблесці мужчыны;
Твая любоў — хлусня і легкадумнасць,

Так-сяк прыбрацыя ў старызну клятвы,
Калі ты мерышся парушыць клятву
І загубіць любоў, якой ты кляўся.
А розум твой, які любоў і вобраз
Павінен аздабляць, як арэолам,
Іх толькі псуе. Як порах той,
Які ў руках няўмелага салдата
Ўзрываецца тады, калі не трэба,
Так і ў цябе ўзарвецца раптам тое,
Што абаронаю служыць павінна,
І разнясе самога на кавалкі.
Адумайся! Жыве твая Джульета,
Што праз яе ты паміраў нядаўна,—
Ты ўжо шчаслівы. Загубіць цябе
Хацеў Тыбальт, а ты забіў яго,—
Дык зноў жа ты шчаслівы. Той закон,
Што смерцю пагражаў, табе спрыяе,
І смерць ён замяніў табе выгнаннем,—
І тут шчаслівы ты. На кожным кроку
Цябе дарамі асыпае шчасце,
Як закаханае, табе ўсё дагаджае,
Але, як наравістая дзяўчынка,
Надзьмуўся ты на шчасце, на любоў.
Адумайся, а то няшчасны будзеш.
Ідзі, як дагаворана, да любай.
Пранікні ў дом, уцеш і заспакой.
Але ўцякай, пакуль расставяць варту,
Бо ў Мантую не зможаш ты прабрацца,
Дзе жыць павінен, аж пакуль пра шлюб
Адкрыта можна будзе аб'явіць,
Пакуль мы не памірым вашы сем'і
І ўпросім герцага, каб дараваў ён.
Тады паклічам мы цябе сюды,
І радасць большай будзе ў сто разоў,
Чым сёння гора.— Зараз, няня, ты
Ідзі наперад, кланяйся сіньёры.
Скажы, каб рана ўсіх уклала спаць,
Тым больш, што ўсіх за дзень стаміла гора.
Рамэо прыйдзе следам за табой.

Мамка

О божа, я ўсю ноч стаяла б тут
Ды слухала б разумныя парады.

Не быў бы то вучоны! Пабягу,
Скажу, сіньёр, што прыйдзеце вы зараз.

Рамэо

Скажы, што я гатоў прыняць дакоры.

Мамка

Вось ад яе пярсцёнак вам, сіньёр.
Ды не марудзьце вы — пярана ўжо.

Рамэо

Зноў да мяне вярнулася жыццё.

Брат Ларэнца

Ідзі. Спакойнай ночы. Ды глядзі,
Да першай варты выйсці ты павінен
Альбо, пераадзеўшыся, на золку
Бяжы ты ў Мантую, а я знайду
Твайго слугу і буду праз яго
Перадаваць, што добрае пачую.
Дай мне руку! Спакойнай ночы,— позна.

Рамэо

Каб радасць большая адсюль не звала,
Расстанне б наша мне атрутай стала.
Бывай!

Выходзіць.

## Сцэна чацвёртая

*Пакой у доме Капулеці.*

Уваходзяць Капулеці, сіньёра Капулеці і Парыс.

Капулеці

У нас цяпер, сіньёр, такое гора,
Што мы дачку падрыхтаваць не ўспелі.
Яна Тыбальта вельмі ўжо любіла,
І я любіў яго, але што зробіш,—
Для смерці мы радзіліся на свет.
Час позны ўжо, яна не прыйдзе ўніз.
Ды каб не ваша мілая прысутнасць,
Я сам бы ўжо ў пасцелі быў з гадзіну.

Парыс

У горы не да сватаўства. Бывайце,
Сіньёра. Мой паклон Джульеце.

Сіньёра Капулецi

Заўтра
Я распытаю пра яе прыхільнасць,
Цяпер жа смутак агарнуў яе.

Капулецi

Сіньёр Парыс, я за любоў дачкі
Магу ручацца вам. Я ўпэўнены,—
Яна ва ўсім паслухае мяне.
Схадзі ты, жонка, да яе цяпер,
Пакуль не спіць, і пра любоў Парыса
Ёй раскажы. Скажы, што ў сераду...
Які ў нас дзень сягоння?

Парыс

Панядзелак.

Капулецi

Не, ў сераду занадта хутка будзе;
Няхай ужо ў чацвер... Скажы — ў чацвер
Яна вянчаецца з сіньёрам графам.
А вы гатовы? Даспадобы вам
Такая спешка? Шуму падымаць
Не будзем. Некалькі сяброў — і ўсё.
А то ж нядаўна наш Тыбальт забіты,
Калі мы баляваць пачнём, дык скажуць,
Што сваяка свайго мы не шкадуем.
Дык чалавек пяць-шэсць сяброў — і ўсё!
Што пра чацвер вы скажаце, сіньёр?

Парыс

Што я хацеў бы, каб ён заўтра быў.

Капулецi

Ну, вось і добра; а цяпер ідзіце.
Дык у чацвер... Ты, жонка, зараз жа
Ідзі скажы Джульеце пра вяселле.

Бывайце, граф! — Эй, вы! Святло падайце
У мой пакой! Аднак жа позна ўжо.
Ды так жа позна, што аж чуць не рана.
Спакойнай ночы.

## Сцэна пятая

*Сад Капулеці.*
Наверсе, у акне, відаць Рамэо і Джульета.

Джульета

Ты ўжо ідзеш? Да дня яшчэ далёка.
Не жаваранак,— гэта салавей
Уразіў так твой палахлівы слых.
Дык ён жа там начамі кожны раз
На дрэве на гранатавым спявае.
Павер, мой любы, гэта салавей.

Рамэо

Не салавей, а жаваранак гэта —
Звястун світання. Глянь, мая любоў,
Зара ад зайздрасці пачырванела,
Начныя свечкі гаснуць. Дзень вясёлы
На пальчыкі ўстае з-за гор туманных.
Ісці мне — жыць, застацца тут — памерці.

Джульета

Не, там не дзень святлее, любы мой,
А метэор ад неба адлучыўся,
Каб аж да Мантуі табе свяціць.
Ісці яшчэ не трэба, пачакай!

Рамэо

Дык хай жа схопяць і вядуць на смерць.
Я буду рад, калі так хочаш ты.
Скажу, што шэрае святло — не золак,
Што гэта месяца туманны водсвет,
Што над галовамі, высока ў небе
Не жаваранак песняю звініць.
Я больш хачу застацца, чым пайсці.
Прыходзь жа, смерць,—вітаю твой прыход!
Джульета хоча так. Мая ты радасць.
Давай пагутарым, яшчэ не дзень.

Джульета

Не, не, ўжо дзень. Хутчэй, хутчэй ідзі!
Бо гэта жаваранак так спявае
Прарэзліва, нясkладна. Хлусяць людзі,
Што ён прыносіць песняй асалоду:
Прынёс ён горкую разлуку нам.
Вачамі з жабай памяняўся ён
І голасам няхай бы памяняўся.
Ён спевамі нам рукі раз'яднаў,
Са змрокам ночы і цябе прагнаў.
Бяжы! Штораз становіцца святлей.

Рамэо

Чым дзень святлей, тым на душы цямней.

Уваходзіць мамка.

Мамка

Сіньёра!

Джульета

Няня!

Мамка

Гляньце, ўжо світае,
І зараз ваша маці быць тут мае.

Джульета
*(адчыняе акно)*

Зара ў акно, а радасць за акно.

Рамэо

Яшчэ раз пацалую і — на дно
Тугі і смутку.
*(Спускаецца з акна.)*

Джульета

Ты пайшоў, мой мілы?
Мой друг, мой муж любімы да магілы!
Я кожную хвіліну дня і ночы
Хацела б ведаць пра цябе і чуць,
А ў кожнай жа хвіліне многа дзён,—
Якой жа буду я тады старою,
Калі мы зноў сустрэнемся з табою!

Рамэо

Бывай! Не прапушчу, мая любоў,
Я выпадку паклон табе прысланць.

Джульета

Ты думаеш, пабачымся мы зноў?

Рамэо

Я ўпэўнены, што хутка з асалодай
Мы будзем гаварыць пра гэты боль.

Джульета

Душа мая ў такім злавесным стане.
Здаецца мне, калі гляджу я ўніз,
Як быццам ты мярцвяк на дне магілы.
Ці вочы лгуць, ці бледны ты страшэнна.

Рамэо

І ты здаешся бледнаю, мой рай,
Бо смутак смокча нашу кроў. Бывай!

Джульета

О лёс! Цябе ўсе зменлівым завуць,
Дык што ж ты зробіш з тым, хто пастаянны?
Будзь зменлівы. Я буду спадзявацца,
Што доўга ты трымаць яго не будзеш
І вернеш мне.

Сіньёра Капулецы
*(за сцэнай)*

Ты ўстала ўжо, дачка?

Джульета

Што гэта? Ці не маці кліча ўжо?
Кладзецца позна так ці рана ўстала?
У гэткі час чаго яна сюды?

Уваходзіць сіньёра Капулецы.

Сіньнёра Капулецы

Ну што, Джульета?

Джульета

Нешта мне нядобра.

Сіньёра Капулецці

Усё аб смерці брата слёзы льеш?
Размыць магілу хочаш ты слязамі?
Не ўваскрасіш яго, хоць і размыеш.
Ну, годзе, сціхні ўжо. У меру смутак
Гаворыць аб любві, але празмерны
Ад недахопу розуму бывае.

Джульета

Аб цяжкай страце дайце мне паплакаць.

Сіньнёра Капулецці

Так плачучы, ты страту адчуваеш,
А друга не.

Джульета

Так адчуваючы,
Па другу я не плакаць не магу.

Сіньёра Капулецці

Ты гэтак плачаш не аб смерці брата,
А больш праз тое, што падлец не мёртвы.

Джульета

Які падлец?

Сіньёра Капулецці

Ды той падлец, Рамэо.

Джульета
*(убок)*

Падлец — і ён! Далёкія паняцці.
*(Уголас.)*
Даруе бог яму і я ад сэрца,
Хоць сэрца ён крамсае, як ніхто.

Сіньёра Капулецці

І ўсё таму, што жыў забойца подлы.

Джульета

І так далёка ён ад рук маіх.
Сама б адпомсціла яму за брата.

Сіньёра Капулецці

За гэта мы адпомсцім, будзь спакойна.
У Мантую пашлю я чалавека,
Дзе выгнаны брадзяга жыць павінен,
Такім пітвом яго мы пачастуем,
Што хутка будзе ён з Тыбальтам разам.
Тады адразу ўцешышся і ты.

Джульета

Ніколі я не ўцешуся, ніколі.
Пакуль сама яго не ўбачу... мёртвым...
Мярцвее сэрца беднае маё.
Знайдзіце, хто б занёс яму атруту,
А прыгатую зелле я сама;
Як вып'е, зразу ён засне спакойна.
О, як балюча чуць яго імя,
Калі не ў сілах паляцець туды
І ўліць атруту любасці да брата
У вусны прагныя яго забойцы!

Сіньёра Капулецці

Знайдзі атруту, чалавека знойдзем.
А зараз слухай радасную вестку.

Джульета

Дзе гэткі смутак, радасць там дарэчы.
Якую ж вестку скажаце вы мне?

Сіньёра Капулецці

Руплівы бацька твой, дзіця маё,
Каб разагнаць твой смутак і тугу,
Такі дзень радасці табе рыхтуе,
Што не чакала ты і я таксама.

Джульета

А што за дзень? Скажыце мне хутчэй.

Сіньёра Капулецці

Дык вось паслухай: раненька ў чацвер
Бліскучы, знатны родам граф Парыс
Цябе ў царкве свяцейшага Пятра
Сваёй шчаслівай жонкай назаве.

Джульета

Клянуся я царквою і Пятром,
Не зробіць ён мяне шчаслівай жонкай.
І што за спех? Ісці вянчацца ўжо,
Калі жаніх яшчэ не запытаўся,
Ці згодна я. Скажыце ж бацьку вы
І ўладару, што замуж не пайду я
І што хутчэй бы ўжо, клянуся я,
Пайшла за ненавіснага Рамэо,
Чым за Парыса.— Вось дык радасць!

Сіньёра Капулецці

Ідзе вунь бацька, ты яму скажы;
Тады пабачыш, як ён гэта прыме.

Уваходзяць Капулецці і мамка.

Капулецці

З заходам сонца падае раса,
А вось на скон пляменніка майго
Праліўся цэлы лівень.
Ну, што, водаправод-дзяўчынка?
Ліюцца слёзы? Дождж не сціхае?
А ў целе ж у тваім маленькім гэтым
І лодка ёсць, і мора ёсць, і вецер.
Вось вочы я твае назваў бы морам:
Тут заўжды слёз адлівы і прылівы.
А цела — лодка на салёных хвалях.
Цяжкія ж уздыханні — гэта ветры,
Што бурна так змагаюцца з слязамі.
Як не настане раптам цішыня,
Дык буры цела разаб'юць на шчэпкі.
(*Да сіньёры Капулецці.*)
Ты ёй сказала ўжо, што мы рашылі?

Сіньёра Капулецці

Сказала: дзякуе табе, не хоча.
З труной бы ёй, дурніцы, павянчацца.

Капулецці

Чакай. Як, як? Не разумею, жонка.
Яна не рада? Нам яна не ўдзячна?

Не ганарыцца, ні за што не лічыць,
Што мы ёй, дрэні гэтакай, знайшлі
Выдатнага такога жаніха?

Джульета

Не ганаруся, хоць і ўдзячна вам:
Бо ганарыцца нельга ненавісным.
Але я ўдзячна і за гэты дар,
Калі яго мне з любасцю прыносяць.

Капулеці

Што ты вярзеш такое? Што за глупства?
«Я ганаруся», «ўдзячна», «я не ўдзячна»,
«Не ганаруся». К чорту, дарагая!
Хоць ганарыся, хоць разганарыся,
А к чацвяргу мне каб была гатова
Ісці ў царкву Пятра святога з графам.
А то я на вяроўцы зацягну.
Ах, немач бледная! Ах ты, паскуда!
Вось дрэнь!

Сіньёра Капулеці

Пакінь! Ты звар'яцеў, ці што?

Джульета

Мой добры бацька, на каленях я
Прашу цябе — дай слова мне сказаць.

Капулеці

Пайшла ты к чорту, ўпартая брыда.
Альбо ў царкву ты пойдзеш у чацвер,
Альбо на вочы не паказвайся. Маўчы!
Не супярэч! Не гавары ні слова!
Бо рукі ўжо і так даўно свярбяць.
(*Да сіньёры Капулеці.*)
Вось часта наракалі мы з табой,
Што бог адно дзіцятка нам паслаў,
Не, бачу я, і аднаго занадта.
І гэтым досыць пакараў нас бог.
Ах, чорт бы яе ўзяў!

Мамка

Ратуй нас, божа!
Вам грэх, сіньёр, так праклінаць яе.

Капулецi

Чаму ж мне грэх, шаноўная прамудрасць?
Мо мелі б ласку прыкусіць язык?
Ідзі пляткарыць да сваіх сябровак.

Мамка

Благога ж вам я не сказала.

Капулецi

Хопіць!

Мамка

І слова не скажы.

Капулецi

Маўчы, дурніца!
Паказвай ты з сяброўкамі за чаркай
Прамудрасць, а не тут.

Сіньёра Капулецi

Не гарачыся.

Капулецi

Ах, божа мой, я звар'яцею зараз.
Ці ноч, ці дзень, за справай, ці ў гульні,
Ці дома, ці ў гасцях — адзін мне клопат:
Знайсці ёй жаніха. А вось знайшоў —
Багаты, знатны, малады, прыгожы
І поўны талентаў, як той казаў,—
І трэба ж быць шчанём такім пісклівым,
Плаксівай лялькай, гэтакай дурніцай,
Каб адказаць: «Я маладая вельмі»,
«Я не люблю», «я не пайду», «даруйце»,
Дарую я табе, як замуж пойдзеш,
Калі ж не пойдзеш, дык жыві, як хочаш:
Цябе я хлебам больш карміць не буду.
Я не жартую. Блізка ўжо чацвер,—

Адкінь свой нораў і падумай добра:
Мая ты — другу я цябе аддам,
А не мая — дык вешайся ідзі
Ці з торбамі пад вокнамі бадзяйся
І з голаду пад плотам адубей.
Клянуся я — ты не дачка мне больш,
І ты на спадчыну маю не спадзявайся.
Дык вось падумай. Нездарма я кляўся.

Выходзіць.

Джульета

Няўжо на небе літасці няма?
Яно ж усю маю пакуту бачыць.
Не выганяйце вы мяне, матуля!
На месяц ці на тыдзень адкладзіце
Мой шлюб, а не,— рыхтуйце месца мне
У тым жа склепе, дзе ляжыць Тыбальт.

Сіньёра Капулеці

Не гавары, ні слова не скажу я.
Рабі што хочаш — я ўжо ўсё сказала.

Выходзіць.

Джульета

О божа! Што ж рабіць, скажы мне, няня?
Чаму супроць мяне і бог, і людзі,
Супроць слабой, даверлівай істоты?
Скажы мне, няня. Ці ў цябе няма
І слова, каб уцешыць?

Мамка

Ёсць, вядома,
Вы ж слухайце: Рамэо у выгнанні,—
На што вы хочаце іду ў заклад я,
Што не адважыцца прыйсці сюды ён,
Калі ж і прыйдзе, дык тайком як-небудзь.
Таму я раю вам ісці за графа.
Які цудоўны гэты граф Парыс!
Рамэо што? — ануча перад ім.
Такіх вачэй, як у Парыса,— быстрых,
Зялёных — і ў арла няма. Клянуся,
Што гэты шлюб вам шчасце прынясе,

Бо лепшы ён, чым той. Калі й не лепшы,
Дык першы ж муж памёр. Хоць не памёр,
Дык усё роўна — што вам за карысць?

Джульета

Ад сэрца гэта ты?

Мамка

І ад душы.
Няхай загіне сэрца і душа,
Калі я лгу.

Джульета

Амін.

Мамка

Што вы сказалі?

Джульета

Вось гэта дык уцешыла мяне!
Ідзі, скажы, што я пайшла к манаху.
Я нагрубіла бацьку і хачу
Пакаяцца і замаліць грахі.

Мамка

Скажу, скажу. Вось гэта дык разумна!

*Выходзіць.*

Джульета

Чартоўка! Грахаводніца старая!
Які з іх большы грэх: ці навучаць,
Каб клятву я парушыла ганебна,
Ці мужа бэсціць тым жа языком,
Якім сама сто раз яго хваліла?
Ты мне чужая. Прэч з маіх вачэй!
Пайду к манаху — сродак дасць ён мне,
Калі ж не дасць, дык месца мне ў труне.

*Выходзіць.*

# Акт чацвёрты

## Сцэна першая

*Келья брата Ларэнца.*
Уваходзяць брат Ларэнца і Парыс.

Брат Ларэнца

Вы кажаце — ў чацвер? Занадта рана.

Парыс

Так хоча Капулецці — бацька мой.
Не мне пярэчыць спешнасці такой.

Брат Ларэнца

А вы пыталіся, ці любіць вас нявеста?
Не тым вы шляхам ідзяце — нядобра.

Парыс

Я пра любоў з ёй мала гаварыў:
Яна бясконца плача па Тыбальту.
А бацька лічыць нават небяспечным
Яе ў вялікім смутку пакідаць,
Дык вось і ён спяшаецца з вяселлем,
Каб гэтым прыпыніць паводку слёз,
Што больш яшчэ ліюцца ў адзіноце;
Са мной яна іх высушыць хутчэй.
Цяпер вядома вам прычына спешкі.

Брат Ларэнца
(*убок*)

Хацеў бы я не знаць тае прычыны,
Дзеля якой патрэбна замарудзіць.
(*Услых.*)

Глядзіце: вунь яна сюды ідзе.

Уваходзіць Джульета.

Парыс

Шчаслівы я, што бачу жонку тут.

Джульета

Так можа быць, калі я жонкай буду.

Парыс

Павінна быць ужо ў чацвер, аднак.

Джульета

Што быць павінна — будзе.

Брат Ларэнца

Гэта так.

Парыс

Вы спавядацца да айца святога?

Джульета

Вам быў бы споведдзю адказ на гэта.

Парыс

Сказаць яму, што любіце мяне?

Джульета

Прызнацца вам, што я люблю яго.

Парыс

А што мяне — яму наспавядацца.

Джульета

Каб і прызналася, дык больш разумна
Без вас прызнацца ў гэтым, чым пры вас.

Парыс

Ах, бедная, як слёзы твар змянілі.

Джульета

Тут слёзы мала што змяніць маглі,

Ён і да слёз быў досыць непрыгожы.

Парыс

А словы гэтыя шкадней яму за слёзы.

Джульета

Але ж, сіньёр, што праўда, то не крыўда,
Я ж гавару пра свой уласны твар.

Парыс

Ён мой ужо, а ты паклёп узводзіш.

Джульета

Магчыма так, бо ён жа ўжо не мой.
Ці вольны вы цяпер, святы айцец,
Ці мо прыйсці да вас перад вячэрай?

Брат Ларэнца

Я вольны, беднае дзіця маё.
*(Парысу.)*
Даруйце, нам адным застацца трэба.

Парыс

Парушыць святасць — божа барані.
Я рана пабуджу цябе ў чацвер,
Джульета, а пакуль — бывай.

Выходзіць.

Джульета

Замкні ты дзверы і паплач са мною:
Няма ні паратунку, ні надзеі,
І ніадкуль ніякай дапамогі.

Брат Ларэнца

Тваё я гора ведаю, Джульета,
Але не ведаю, што тут прыдумаць.
Я чуў, што ты ў чацвер павінна
Абавязкова з графам павянчацца.

Джульета

Не гавары пра тое, што ты чуў,
Калі не можаш даць мне паратунку.

Калі твая тут мудрасць не паможа,
Дык назаві маё рашэнне мудрым,
І мне кінжал вось гэты дапаможа.
Бог сэрцы нам злучыў, ты — нашы рукі,
Дык вось раней, чым гэтая рука,
Якую ты Рамэо перадаў,
З другім саюз заключыць, і раней,
Чым здрадзіць сэрца вернае маё,
Я гэтым іх абодвух пакараю.
Перабяры свой шматгадовы вопыт
І мне параду зараз жа знайдзі.
А то іначай гэты востры нож
Разлучыць нас — мяне з маім няшчасцем,
І рассячэ той вузел, што ні розум,
Ні вопыт сівы твой не развязалі.
І не марудзь. Я праўду гавару:
Калі няма ратунку, то памру.

Брат Ларэнца

Чакай, дачка, прыдумаў нешта я,
Хоць гэта і не менш за небяспеку,
Якой пазбегнуць хочам мы з табой.
Калі гатова ты хутчэй забіць
Сама сябе, чым павянчацца з графам,
Дык згодзішся на падабенства смерці,
Каб толькі гэтым ганьбу адхіліць,
Якая для цябе страшней, чым смерць.
Адважышся — я сродак дам табе.

Джульета

О, лепш, чым выйсці замуж за Парыса,
Ты загадай мне скочыць з гэтай вежы,
Ці ноччу ты запры мяне ў трупярні,
Што жоўтымі набіта чарапамі,
Бразгучымі касцямі мерцвякоў,
Альбо скажы ў магілу легчы мне
З нябожчыкам і саванам накрый.
Усё, што наганяла жах раней,
Зраблю не баючыся, толькі каб
Для любага застацца вернай жонкай.

Брат Ларэнца

Дык слухай жа: ідзі цяпер дадому,
Вясёлай будзь. Скажы, што згодна ты

За графа выйсці. Заўтра серада.
Ты ноччу ляж адна і нават няню
З пакоя вышлі; перад сном жа выпі
Усё да краплі з гэтай вось бутэлькі.
І зараз жа па жылах па тваіх
Разыдзецца вільготны, сонны холад.
Пульс біцца перастане і замрэ,
І ні дыханне, ні цяпло, ніштo
Не выкажа, што ты яшчэ жывая,
І ружы шчок, і губы спалатнеюць,
Павекі, як у мёртвых, западуць,
Адразу цела стане нерухомым,
Як дубяныя будуць рукі, ногі.
І так у гэтым падабенстве смерці
Ты праляжыш аж сорак дзве гадзіны,
А ўстанеш як ад радаснага сну.
Але ж уранні, як жаніх твой прыйдзе
Цябе будзіць, ты будзеш быццам мёртвай.
Паводле звычаяў краіны роднай
Цябе, прыбраную, ў труне адкрытай
Тады паставяць у фамільны склеп,
Дзе спачываюць продкі Капулеці.
А я тым часам напішу Рамэо;
Сюды прыбудзе ён, і мы абодва
Чакаць тут будзем, покуль ты прачнешся.
У тую ж ноч у Мантую цябе
Рамэо возьме, і такім вось чынам
Ад ганьбы ты ўратуешся, калі
Ці выпадак ці мо жаночы страх
Не перашкодзіць смеламу намеру.

Джульета

Дай, дай хутчэй! Не гавары пра страх.

Брат Ларэнца

Вазьмі, ідзі... Будзь цвёрдай да канца.
Я напішу Рамэо і з манахам
У Мантую пашлю паведамленне.

Джульета

Любоў, дай сілу мне! У ёй — збавенне.
Бывай, мой ойча!

Выходзіць.

## Сцэна другая

*У доме Капулеці.*
Уваходзіць Капулецi, сіньёра Капулецi, мамка і двое слуг.

Капулецi
*(слузе)*

Усіх ты запрасі, што тут у спісе.

Першы слуга выходзіць.

*(Другому слузе.)*
Ты дваццаць добрых павароў знайдзі.

Другі слуга

Я вам дрэнных не прывяду, сіньёр. Я пагляджу, ці аблізваюць яны сабе пальцы.

Капулецi

А што, калі аблізваюць?

Другі слуга

Клянуся сіньёр, дрэнны повар не будзе аблізваць пальцы. Таму я і не вазьму такіх, якія не аблізваюць пальцаў.

Капулецi

Ідзі, ідзі.

Выходзіць другі слуга.

Хаця ж бы ўсё падрыхтаваць паспелі.
А як дачка? Была яна ў манаха?

Мамка

Пайшла, сіньёр.

Капулецi

Ну, добра, можа, ён яе навучыць.
Але ж такое ўпартае дзяўчо.

Мамка

А вунь яна ад споведзі ідзе,
Ды гляньце вы, вясёлая якая!

Уваходзіць Джульета.

Капулецi

Ну, дзе бадзялася, свавольніца?

Джульета

Там, дзе мяне раскаянню наўчылі
У тым, што я была непаслухмянай
І вам пярэчыла. Святы айцец
Сказаў прасіць мне, паўшы на калені,
Каб даравалі вы. Малю — даруйце!
Цяпер я буду слухаць вас заўсёды.
*(Становіцца на калені.)*

Капулецi

Паслаць па графа! Расказаць яму!
І заўтра ўсё мы скончым як належыць.

Джульета

Яго спаткала я ў манаха ў келлі
І пра сваю любоў яму сказала,
Наколькі мне дазволіла прыстойнасць.

Капулецi

Ну, добра, я здаволен. Уставай!
Даўно б вось так.— Мне трэба графа
бачыць.
Кажу, паклічце мне яго сюды.
Клянуся богам я: манах — святы,
І гораду дабра зрабіў нямала.

Джульета

Хадзем жа, мамка, ў мой пакой,
Ты дапаможаш там убранне выбраць,
Якое заўтра мне патрэбна будзе.

Сіньёра Капулецi

Да чацвярга яшчэ нам часу хопіць.

Капулецi

Ідзі ідзі,— няма чаго марудзіць,
Мы заўтра ж у царкву.

Джульета і мамка выходзяць.

Сіньёра Капулецi

Цямнее ўжо,
Калі ж мы ўсё падрыхтаваць успеем?

Капулецi

Ты не турбуйся, я вазьмуся сам,
Ручаюся, што выйдзе, як найлепей.
А ты ідзі і памажы Джульеце
Убранне выбраць. Сёння я не лягу.
Ідзі — я сам за гаспадыню буду.
Гэй, вы! Усе разбегліся. Ну, добра,
Я сам пайду да графа, папярэджу,
Каб рыхтаваўся ён на заўтра. Дзіўна,
Як лёгка стала мне на сэрцы ад таго,
Што ўпартае дзяўчо паразумнела.

Выходзіць.

## Сцэна трэцяя

*Пакой Джульеты.*
Уваходзяць Джульета і мамка.

Джульета

Так, гэты ўбор найлепшы. Дзякуй, няня!
Цяпер хацела б я адна застацца.
Маліцца трэба мне ўсю ноч, каб золак
Маёй няшчаснай долі усміхнуўся.
Я ж грэшніца, ты ведаеш сама.

Уваходзіць сіньёра Капулецi.

Сіньёра Капулецi

Вы тут заняты? Можа, памагчы вам?

Джульета

Ды не, матуля; выбралі мы ўсё,
Што трэба будзе заўтра для вяселля.

Дазвольце мне цяпер адной застацца.
І няню вы з сабой вазьміце. Вам жа
У спешцы гэтакай усякіх спраў
Яшчэ нямала.

Сіньёра Капулеці

Ну, спакойнай ночы.
Табе сягоння трэба адпачыць.

Выходзяць сіньёра Капулеці і мамка.

Джульета

Бывайце.— І цяпер бог ведае,
Калі мы ўбачымся. Халодны страх
З нудой па жылах па маіх разліўся,
Цяпло жыцця заледзяніў. Вярну іх,
Каб страшна не было. Эй, нянечка!
Але нашто? Адна павінна я
Тут жудасную сцэну разыграць.
Сюды, фіял!
А што, калі слабое гэта зелле?
І заўтра з графам прыйдзецца вянчацца?
Не, не! Не дасць вось гэта. Тут ляжы.

*(Кладзе на пасцель кінжал.)*

А можа, зёлкі гэтыя — атрута?
Манах мо хоча зеллем атруціць,
Каб зноў мяне ганебна не вянчаць
Пасля таго, як павянчаў з Рамэо?
Баюся... Не... Не можа гэта быць.
Дагэтуль быў ён чалавек святы.
А што, калі прачнуся ў склепе я
Раней, чым прыйдзе любы мой Рамэо,
Каб вызваліць мяне? О, гэта страшна.
Магу я задыхнуцца ў падзямеллі,
Куды не дойдзе свежае паветра,
І там памру, пакуль Рамэо прыйдзе.
Калі ж і не памру — другое страшна:
Падумаць страшна мне пра ноч і смерць,
Пра месца жудасці — магільны склеп,
Дзе косці продкаў шмат вякоў ляжаць;
Дзе акрываўлены Тыбальт гніе
У саване сваім, дзе, кажуць людзі,

Апоўначы нябожчыкі ўстаюць...
О божа мой! Магу ж і я дачасна
Прачнуцца ад агіднага смуроду,
Ад стогнаў тых, як стогны мандрагоры,
З карэннем вырванай. Ад жахаў тых,
Напэўна, звар'яцею я адразу
І прахам продкаў буду забаўляцца,
Дастану з савана Тыбальта труп
Альбо ў шаленстве продка косць схаплю
І, як дубінай, чэрап свой раструшчу.
Ужо, здаецца, бачу я Тыбальта,
Вунь, ходзячы, шукае ён Рамэо,
Што шпагай пракалоў яго навылет.
Стой, стой, Тыбальт! Рамэо мой! Рамэо!
Рамэо, я іду! П'ю за цябе!

*(П'е і кідаецца на пасцель.)*

## Сцэна чацвёртая

*Зала ў доме Капулеці.*

Уваходзяць сіньёра Капулеці і мамка.

Сіньёра Капулеці

Вазьмі ключы, нясі яшчэ прыправы.

Мамка

Айвы і фінікаў на кухню трэба.

Уваходзіць Капулеці.

Капулеці

Хутчэй! Другія пеўні праспявалі.
У звон званілі: тры гадзіны ўжо.
Ты наглядай, Анжэліка, за кухняй,
Ды не скупіся.

Сіньёра Капулеці

Кіньце вы мяшацца
У нашы справы. Лепш ідзіце спаць,
Бо заўтра будзеце хварэць не спаўшы.

Капулецi

Нiколi. Ночы я не спаў, бывала,
Па справах меншых шмат, ды не хварэў.

Сiньёра Капулецi

Была пара — гуляў-такi начамi,
Але цяпер — мiнулася табе.

Выходзяць сiньёра Капулецi i мамка.

Капулецi

О, рэўнасць, рэўнасць!

Уваходзяць тры цi чатыры слугi з верцяламi, дрывамi, кошыкамi.

Што нясеш, хлапчына?

Першы слуга

Не ведаю, тут нешта повару.

Капулецi

Хутчэй нясi.

Першы слуга выходзiць.

Ты лепшых дроў знайдзi.
Спытайся ў П'етра, ён пакажа, дзе.

Другi слуга

Ёсць галава — i сам знайсцi патраплю,
Нашто дрывамi П'етра турбаваць?

Капулецi

Ты хлопец — зух, i галава ў цябе,
Як бачу, дрывяная. Днее ўжо.

Другi слуга выходзiць.

Граф зараз i музыкаў прывядзе:
Так ён сказаў. Ды вось iдзе, чуваць.

За сцэнай музыка.

Гэй, жонка! Няня! Дзе вы там прапалi?

Уваходзіць **мамка**.

Ідзі будзі ды прыбірай Джульету,
А я пагутару пакуль што з графам.
Ды варушыся ж ты, жаніх прыйшоў!
Хутчэй, кажу табе!

Выходзіць.

## Сцэна пятая

*Пакой Джульеты.*
Уваходзіць **мамка**.

Мамка

Сіньёра! Ой, сіньёра! Спіць як моцна.
Джульета! Мілая мая авечка!
Ды ну, прачніся! Фу, якая соня!
Галубка, ангел мой! Нявеста, ўстань!
Ні слова... Хоча выспацца на тыдзень.
І то сказаць, Парыс наступнай ноччу
Паруніцца, каб ты не спала шмат.
Ах, божа мой,— як моцненька заснула!
А трэба ўсё ж такі будзіць! Сіньёра!
Сіньёра мілая, вы хочаце,
Каб у пасцелі вас жаніх застаў?
Ён разварушыць зразу.
*(Адкрывае фіранку.)*
Што такое?
Прыбралася ды спаць лягла ў убранні.
Ды ўстаньце ж вы, сіньёра! О, памерла!
Нашто я нарадзілася на свет!
Гарэлкі дайце мне! Сіньёра! Сіньёра!

Уваходзіць **сіньёра Капулецці**.

Сіньёра Капулецці

Што ты крычыш тут?

Мамка

О няшчасны дзень!

Сіньёра Капулеці

А што такое?

Мамка

Гляньце! Гора нам!

Сіньёра Капулеці

Ох, божа мой! Дзіця, жыццё маё!
Прачніся, глянь, ці я памру з табой.
Ратуйце! Кліч, крычы, прасі ратунку!

Уваходзіць Капулеці.

Капулеці

Нявеста дзе? Жаніх чакае. Сорам.

Мамка

Яна памерла. О няшчасны дзень!

Сіньёра Капулеці

Памерла! Божа мой! Яна сканала!

Капулеці

Дай глянуць мне. Халодная. Канец.
Застыла кроў, пакарчанелі рукі,
Жыццё даўно зляцела з гэтых вуснаў.
Забіла раптам смерць яе, як кветку
Найпрыгажэйшую мароз дачасны.

Мамка

Няшчасны дзень!

Сіньёра Капулеці

Няшчасныя мы сёння!

Капулеці

Яе забрала смерць, каб я крычаў,
А мне язык скавала цяжкім горам.

Уваходзяць брат Ларэнца і Парыс з музыкамі.

Брат Ларэнца

Ну як — нявеста ўжо ў царкву гатова?

Капулецi

На векі вечныя яна гатова.

(*Парысу.*)

О, сын мой, перад самым шлюбам смерць
З тваёй нявестай спала, і яна
Ляжыць, як кветка, скошаная смерцю.
Цяпер жа смерць — мой зяць і смерць — наследнік,
З маёй дачкой звянчалася яна,
Памру, смерць возьме ўсё — жыццё, маёмасць.

Парыс

Я дачакацца раніцы не мог,
А дачакаўшыся — што бачу я!

Сіньёра Капулецi

Пракляты, жудасны, агідны дзень!
Гадзіна горшая з усіх гадзін,
Якія ведаў толькі час бясконцы.
Адным-адно любімае дзіця,
Адзіная мая уцеха, радасць,—
І тое смерць бязлітасна забрала.

Мамка

О гора! горкі, горкі, горкі дзень!
Журботны самы, самы нешчаслівы
З усіх тых дзён, што я перажыла.
О дзень, о дзень, о зненавідны дзень!
Чарнейшага не бачыла я дня.
О горкі, о няшчасны дзень!

Парыс

Падмануты, разведзены, забіты!
Зганьбаваны! Табой падмануты!
Табой, табой, бязлітасная смерць!
Любоў, жыццё маё! Няма жыцця,
Але і ў смерці ты мая любоў.

Капулецi

Я скатаваны, змучаны, забіты!
Жахлівы дзень, чаму да нас прыйшоў ты

Забіць вясёласць нашу, наша свята?
Дзіця маё, дзіця! Душа мая!
Памерла ты, памерла ты, дачушка,—
З табой навек мая памерла радасць.

Брат Ларэнца

Як вам не сорам! Перастаньце! Гора
Вы не залечыце такім адчаем.
Валодалі вы з небам папалам
Цудоўнай дзевай, а цяпер яна
Уся належыць небу. Там ёй лепш.
Сваю часціну ўратаваць ад смерці
Вы не маглі, а неба вечнае
Жыццё дало ёй. Марылі заўсёды
Узвысіць вы яе, падняць да неба,
Цяпер жа плачаце, калі яна
Вышэй за воблакі, на самым небе.
Вы дрэнна любіце дачку сваю,
Вы вар'яцееце, калі ёй добра.
Шчаслівая не тая між жанчын,
Што доўга замужам жыве, а тая,
Што паміpae маладой кабетай.
Вы слёзы асушыце. Размарынам
Пасыпце цела; хораша прыбраўшы,
Паводле звычаю, ў царкву нясіце.
У нас прырода выклікае слёзы,
Але смяецца над слязамі розум.

Капулеці

Усё вясельнае падрыхтаванне
У нас абернецца на пахаванне,
І стане музыка хаўтурным звонам,
Памінкамі — вясельная бясeда,
З вясельных песень выйдзе паніхіда,
А кветкі шлюбныя пакрыюць труп,
Усё ў сваю пяройдзе процілегласць.

Брат Ларэнца

Сіньёр, ідзіце. Ды і вы, сіньёра,
І вы, Парыс. Рыхтуйцеся праводзіць
Чароўную нябожчыцу ў магілу.
За грэх вы пакараны боскай воляй,—
Каб нараканнем не гнявілі болей.

Выходзяць Капулецi, сiньёра Капулецi, Парыс i брат Ларэнца.

Першы музыка

Выходзiць — трэба складваць дудкi ды выбiрацца.

Мамка

Так, людзi добрыя, вы самi бачыце,
Якое тут няшчаснае здарэнне.
*(Выходзiць.)*

Першы музыка

А заплацiць усё ж такi трэба.

Уваходзiць П'етра.

П'етра

Музыкi, ах, музыкi! Сыграйце «Радасць сэрца», калi вы хочаце, каб я застаўся жыць, сыграйце «Радасць сэрца».

Першы музыка

Цяпер не да вясёлых песенек.

П'етра

Значыць, вы не хочаце?

Першы музыка

Не хочам.

П'етра

Дык заплачу ж я вам.

Першы музыка

Чым жа ты нам заплацiш?

П'етра

Не грашыма, вядома, а вострым словам пад рабрыну, вулiчныя вы спевакi.

Першы музыка

Добра, што не халуi.

П'етра

А вось я цябе халуйскім нажом па галаве.

*(Выхоплівае нож.)*

Без ніякіх ключоў. Будзе вам тут і «рэ» і «фа» і «соль». Я вас усіх перафасолю.

Першы музыка

Так ты нас можаш на музыку пакласці.

Другі музыка

Схавай лепш нож ды дастань сваё вострае слова.

П'етра

Дык сцеражыцеся ж майго вострага слова. Я схаваю нож і вострым словам праніжу вас наскрозь. Адказвайце мне, як людзі:

«Калі душу гнятуць цяжкія мукі,
Калі яны на сэрца сум нагоняць,
Дык музыкі сярэбраныя гукі...»

Чаму гэта сярэбраныя гукі? Чаму музыкі сярэбраныя гукі? Ну, ты, Сіман Струна, што ты на гэта скажаш?

Першы музыка

Таму, сіньёр, што серабро прыемна гучыць.

П'етра

Сказануў. А ты што скажаш, Гуго Гудок?

Другі музыка

Па-мойму, таму «сярэбраныя гукі», што музыканты граюць за серабро.

П'етра

Таксама добра сказана. А ты што скажаш, Якаў Пішчык?

Трэці музыка

Я ўжо не ведаю, што і сказаць.

П'етра

Ах, выбачай, я забыўся, што ты спявак. Я скажу за

цябе. «Сярэбраныя гукі таму, што музыкам рэдка прыходзіцца званіць золатам.

«Дык музыкі сярэбраныя гукі
Адразу боль душы загояць».
*(Выходзіць.)*

Першы музыка

Вось абармот!

Другі музыка

Ну яго к чорту! Хадзем, пачакаем, пакуль пахаваюць, ды застанемся абедаць.

Выходзяць.

## Акт пяты

### Сцэна першая

*Мантуя. Вуліца.*
Уваходзіць Рамэо.

Рамэо

Каб я паверыць мог ліслівым снам!
Мне сон прарочыць радасную вестку.
Вясёлы бог любві ўладае мною
І незвычайны дух праз цэлы дзень
У марах над зямлёй мяне насіў.
Я сніў, што мілая прыйшла. Мяне
Яна застала мёртвым.— Дзіўны сон,
Што мёртваму дае магчымасць думаць! —
І пацалункамі жыццё вярнула мне.
А я, ажыўшы, зразу стаў царом.
Якая ж ты салодкая, любоў,
Калі і цень любві дае нам шчасце!

Уваходзіць Балтазар.

З Вероны весткі? Балтазар, ну, што?
Ты ад манаха мне пісьмо прынёс?
Ну, як мая сіньёра, бацька як?
Як маецца Джульета, я пытаю?
Калі ёй добра, дык і ўсё ў парадку.

Балтазар

Нічога дрэннага — цяпер ёй добра...
У склепе Капулецці спіць яна,
Душа яе — між ангелаў на небе.
Труну яе я ў спачывальні бачыў
І вось прыбег, каб вам сказаць пра гэта.
За вестку дрэнную — прашу прабачыць,
Вы мне, сіньёр, такую службу далі.

Рамэо

І гэта праўда? Неба, я твой вораг!
Ты ведаеш, дзе я жыву? Ідзі
Паперу і чарніла прынясі
Ды коней мне наймі — я сёння еду.

Балтазар

Малю вас, супакойцеся, сіньёр! —
Збялелы твар і дзікі погляд ваш
Бяду прарочаць.

Рамэо

Кінь! Табе здаецца.
Ідзі рабі, што я табе сказаў.
Ты пісем не прынёс мне ад манаха?

Балтазар

Не, мой сіньёр.

Рамэо

Нічога; ты ідзі
Наймі мне коней. Зараз я прыйду.

Балтазар выходзіць.

З табой, Джульета, лягу я ў магілу
Сягоння ноччу. Як зрабіць мне гэта?
О зло, як хутка ты ў душу прыходзіш
Таму, каго гняце адчай. Я ўспомніў
Аптэкара. Ён блізка тут жыве.
Я на яго звярнуў сваю увагу:
З панурым выглядам, у лахманах —
Ён травы разбіраў, худы, няшчасны.
Абгрызены бязлітасным жабрацтвам,
У крамцы ж, бачыў я, віселі
Напханы кракадзіл, і чарапаха,
Ды скуры страшных рыб; а на паліцах
Жабрацкі скарб пустых каробак, шклянак,
Гаршкоў гліняных, слоікаў, аборак,
Счарсцвелыя кусочкі праснакоў —
Быў выстаўлен, каб хворых спакушаць.
Я, ўбачыўшы мізэрны скарб, падумаў:

Каб чалавек хацеў купіць атруты,
Якую прадаваць пад страхам смерці
Тут забаронена, дык гэты вось
Няшчасны абармот яе прадаў бы.
Як быццам я патрэбу прадчуваў.
Бядняк, напэўна, мне прадасць атруту.
Я помню, быццам гэты дом яго.
Зачыненая крама — сёння свята.
Гэй, гэй, аптэкар!

Аптэкар

Хто так моцна кліча?

Рамэо

Ідзі сюды. Я бачу, бедны ты.
Дык вось вазьмі дукаты — тут іх сорак,
А мне ты толькі драхму дай атруты,
Але такога зелля, каб у момант
Па жылах разлілося і каб той,
Хто стомлены жыццём, адразу ўпаў бы;
Каб вырвалася хутка так дыханне,
Як вырываецца з гарматы порах.

Аптэкар

Ёсць зелле, толькі Мантуі закон
Карае смерцю тых, што прадаюць.

Рамэо

Ты ж бедны, голы і баішся смерці?
Я бачу голад на тваім абліччы,
Туга і смутак у тваіх вачах,
А на плячах — жабрацтва і знявага.
Ні свет табе не друг і ні закон;
Няма на свеце гэткага закона,
Які б цябе багатым мог зрабіць.
Забудзь жабрацтва і закон — вазьмі!

Аптэкар

Дае вам згоду беднасць, а не воля.

(*Дае яму атруту.*)

Рамэо

Не волі я, а беднасці плачу.

Аптэкар

У вадкасць у любую ўсыпце гэта
І выпіце; хоць дваццаць сіл людскіх
Вы маеце ў сабе — адразу смерць.

Рамэо

Вось золата тваё — душы атрута,
Забойца горшы ў гэтым подлым свеце,
Чым гэты твой нікчэмны парашок,
Які ты прадаваць баішся. Я
Прадаў табе атруту, а не ты мне.
Бывай, купі сабе яды і растаўсцей.—
Я ж не атруту ўзяў сабе, а лекі,
Каб з любай у труне заснуць навекі.

Выходзіць.

## Сцэна другая

*Келья брата Ларэнца.*

Уваходзіць брат Джаванні.

Брат Джаванні

Эй, францысканец, брат святы, эй, брат!

Уваходзіць брат Ларэнца.

Брат Ларэнца

Па голасу дык гэта брат Джаванні.
Ты [redacted] Мантуі? Ну, што сказаў Рамэо?
Мо напісаў, дык дай сюды пісьмо.

Брат Джаванні

Я брата басаногага шукаў —
Свайго манаха, каб узяць з сабой;
Ён там у горадзе наведваў хворых.
Яго знайшоў, а гарадская варта,
Падумаўшы, што дом зачумлены,
Заперла ў гэтым доме нас абодвух,—
І вось я ў Мантую не мог папасці.

Брат Ларэнца

А хто ж занёс пісьмо маё Рамэо?

Брат Джаванні

Не мог яго паслаць я — вось яно —
Табе назад вярнуць не мог таксама:
Ніхто не браў — баяліся заразы.

Брат Ларэнца

Няшчасны лёс! Клянуся брацтвам я,
Пісьмо, скажу вам, не абы якое,—
Патрэбнае і вельмі важнае,—
Затрымка можа нарабіць бяды.
Знайдзі ты, брат Джаванні, лом жалезны
І прынясі мне ў келью.

Брат Джаванні

Добра, зараз.

Брат Ларэнца

Цяпер адзін я ў склеп ісці павінен,
Прачнецца праз гадзіны тры Джульета
І будзе праклінаць мяне за тое,
Што не паведаміў Рамэо я.
Я зноў у Мантую пашлю пісьмо,
Яе ж, пакуль сюды Рамэо прыдзе,
Схаваю ў келлі. Бедны труп жывы,
Паложаны ў труну нябожчыка!

## Сцэна трэцяя

*Могільнік; на ім склеп Капулецці.*
Уваходзяць Парыс і паж, які нясе кветкі і факел.

Парыс

Дай факел, хлопчык! Адыдзі далей!
Ці лепш тушы, бо нас убачыць могуць.
Кладзіся там, пад цісамі, і вуха
Да ўскопанай зямлі шчыльней прыцісні —
На могілках ты кожны крок пачуеш:
Тут цвёрдая і гулкая зямля.
Што б ні пачуў ты — свісні. Дай мне
кветкі.

Рабі, што я табе сказаў: ідзі!

Паж
*(убок)*

Мне страшна заставацца аднаму
На гэтых могілках, ды паспрабую.

*(Хаваецца.)*

Парыс

Мая ты кветка, шлюбны ложак твой
Я кветкамі асыплю. Пыл і камень —
Твой полаг тут. Духмянаю вадой
Я буду акрапляць яго начамі.
Вады не хопіць — горкімі слязамі.
Штоночы кветкі буду я прыносіць,
Штоноч іх слёзы горкія аросяць.

*(Паж свішча.)*

Дае мне знак хлапец: ідзе там нехта,
Чыя праклятая нага ступае
І парушае мой абрад любоўны?
І нават з факелам? Хутчэй жа, ноч,
Укрый мяне на момант цемнатою.

*(Хаваецца.)*

Уваходзяць Рамэо і Балтазар з факелам і ломам.

Рамэо

Дай лом і жалязняк! Пісьмо вось гэта
Ты ўранні бацьку перадай майму.
Дай факел! Хочаш жыць на свеце — помні:
Што б ты ні ўбачыў, што б ты ні пачуў,
Стой там паводдаль, не перашкаджай мне.
Хачу спусціцца я ў палацы смерці,
Апошні раз на жонку паглядзець,
Галоўнае ж — каб зняць з яе рукі
Пярсцёнак дарагі, патрэбны мне
Для вельмі важнай справы. Ну, ідзі!
Калі ж сюды адважышся вярнуцца
І будзеш падглядаць, што я раблю,
Я разарву цябе — клянуся богам,
І па ўсіх могілках параскідаю
Кавалкі цела. Позні, дзікі час,
Маіх намераў дзікая жахлівасць
Больш страшная, чым прагны тыгр
галодны,
Чым мора, што ад лютасці раве!

Балтазар

Іду, сіньёр; я вам не перашкоджу.

Рамэо

Дакажаш гэтым, што ты друг. Вазьмі.
*(Дае яму грошы.)*
Жыві шчасліва і — бывай, мой мілы!

Балтазар
*(убок)*

А я схаваюся дзе-небудзь у кустах,
Ад выгляду яго сціскае сэрца жах.
*(Хаваецца.)*

Рамэо

Ты, зяпа гнюсная, вантроба смерці,
Што лепшую красу зямлі сажрала,
*(Ломіць дзверы склепа.)*
Твой рот гнілы я сілай расшчаплю,
Яшчэ табе яды напхаю ў горла.

Парыс

Ах, вось ён дзе, нахабны той Мантэкі,
Які забіў маёй нявесты брата.
Яна ад роспачы лягла ў магілу.
Цяпер сюды паздзекавацца прыйшоў ён
Над прахам дарагім. Схаплю яго.
*(Выходзіць наперад.)*
Агідную работу прыпыні,
Мантэкі подлы! Ты і мёртвым помсціш?
Асуджаны падлец, ты арыштаван.
Ідзі за мной — памерці ты павінен.

Рамэо

Павінен. І таму сюды прыйшоў.
Не спакушай адчаяннай душы,
Юнак мой мілы. Уцякай адгэтуль.
І без цябе нябожчыкаў тут шмат.
Пабойся. Я прашу цябе, юнак,
Не прымушай мяне яшчэ грашыць,

Не раздражняй, ідзі хутчэй адгэтуль.
Люблю цябе я болей, чым сябе,
Клянуся небам. Я прыйшоў сюды
Узброены супроць сябе самога.
Бяжы хутчэй, жыві. Пасля ты скажаш:
Шалёны той жыццё мне даравау.

Парыс

Тваім я заклінаннем пагарджаю
А арыштоўваю цябе — злачынца.

Рамэо

Ты выклікаеш? Сцеражыся, хлопчык!
*(Б'юцца.)*

Паж

О божа, б'юцца! Пабягу па варту.
*(Выбягае.)*

Парыс
*(падае)*

Забіты я.
Калі ты маеш літасць,
З Джульетай палажы мяне ў труну.
*(Памірае.)*

Рамэо

Хай будзе так. Спачатку гляну ў твар.
Меркуцыо сваяк ён — граф Парыс.
Што гаварыў дарогай мне слуга?
Усхваляваны, я не чуў нічога.
Сказаў, здаецца, ён, што граф Парыс
З Джульетаю збіраецца жаніцца.
Сказаў ён так, ці мне прыснілася?
Ці, можа, калі ён Джульету ўспомніў,
Я страціў розум і ўсяму паверыў.
Дай мне руку. Цяпер са мною разам
У кнігу роспачы занесен ты.
Юнак забіты, ва ўрачыстым склепе
Цябе я пахаваю. Не, не ў склепе,
А ў вежы светлай — там ляжыць
Джульета,

І хараство яе ператварае
Пануры склеп у светлы зал бяседны.
Ляжы тут, мёртвы, мёртвым пахаваны.

*(Кладзе Парыса ў склеп.)*

Як часта людзі перад самай смерцю
Становяцца вясёлымі раптоўна!
Завуць прадсмертнаю зарніцай гэта.
Ці ж гэта я магу назваць зарніцай?
О жонка мілая, любоў мая!
Смерць высмактала мёд твайго дыхання,
Але з тваёй красой не саўладала,
Не здолела яе. Красы адзнака —
Ружовы колер губ і шчок тваіх;
Тут смерці бледны флаг яшчэ не ўзняты.
Тыбальт, і ты ж у саване крывавым
Ляжыш тут? Для цябе я не магу
Зрабіць нічога больш, як той рукой,
Што загубіла маладосць тваю,
Забіць згубіцеля. Даруй мне, брат!
Чаму, Джульета, і цяпер яшчэ
Такое хараство ў табе? Няўжо
Смерць бесцялесная ўлюбілася
Сама ў цябе? Няўжо худая поскудзь
Цябе трымае ў гэтым змрочным месцы
З тым, каб зрабіць любоўніцай сваёй?
Я гэтага баюся і таму
З табою застануся назаўсёды,
Не выйду з гэтага палаца цемры
Ніколі больш. Тут, тут з чарвямі я —
Тут будзе вечны адпачынак мой.
Я скіну тут прыгнёт варожых зор
Са стомленага ў гэтым свеце цела.
Глядзіце ж, вочы, вы апошні раз!
Апошні раз вы, рукі, абніміце!
А вусны пацалункам, як пячаткай,
Умову з прагнай смерцю замацуйце!
Прыйдзі, мой горкі праваднік, прыйдзі,
Злавесны рулявы, і накіруй
На скалы вострыя змарнелы човен.
П'ю за сваю любоў.

*(П'е.)*

Аптэкар чэсны!
Сказаў ты праўду — моцны твой напітак,
І з пацалункам паміраю я.

*(Паміраe.)*

Уваходзяць з другога боку могільніка брат Ларэнца з ліхтаром, ломам і жалезняком.

Брат Ларэнца

Ратуй, святы Францыск! О колькі раз
Я спатыкаўся аб магілы.— Хто тут?

Балтазар

Ваш друг, што ведае вас добра.

Брат Ларэнца

Хай бог цябе благаславіць. Скажы мне,
Мой добры друг, што гэта там за факел
Дарэмна свеціць чарапам бязвокім?
Здаецца, ён у склепе Капулецi?

Балтазар

Там, там, святы айцец. Там гаспадар мой,
Якога вы так любіце.

Брат Ларэнца

А хто ж ён?

Балтазар

Рамэо.

Брат Ларэнца

Ён даўно там?

Балтазар

З паўгадзіны.

Брат Ларэнца

Хадзем са мною ў склеп.

Балтазар

Баюся, ойча.
Не ведае мой гаспадар, што я ўсё тут.
А ён жа пагражаў мне лютай смерцю,
Калі я застануся падглядаць.

Брат Ларэнца

Дык заставайся, я адзін пайду.
Бяды баюся, страх мяне бярэ.

Балтазар

Калі пад гэтым цісам я заснуў,
Мне снілася — Рамэо з некім біўся,
Мой гаспадар забіў таго.

Брат Ларэнца

Рамэо!

*(Падыходзіць да склепа.)*

О божа мой, чыёй жа гэта кроўю
Заплямлены ступені ў гэты склеп?
Хто шпагі акрываўленыя кінуў
Тут, у прытулку вечнага спакою?

*(Уваходзіць у склеп.)*

Рамэо! Бледны. Хто ж яшчэ? Парыс.
Увесь ён у крыві. Які жахлівы момант
Віноўнік тут няшчаснага здарэння?
Яна паварушылася, здаецца.

Джульета прачынаецца і ўстае.

Джульета

Святы айцец! А дзе ж мой уладар?
Я помню добра, дзе мне трэба быць,—
На гэтым месцы. Дзе ж Рамэо мой?

Шум за сцэнай.

Брат Ларэнца

Я чую нейкі шум. Хадзем, сіньёра,
Мы з гэтага гнязда заразы, смерці
І сну ненатуральнага. Ёсць сіла
Мацнейшая, чым нашы намаганні,—
Яна разбурыла намеры нашы.
Хадзем хутчэй. Тут на грудзях тваіх
Ляжыць твой мёртвы муж; Парыс —
таксама.
Хадзем са мной, у манастыр цябе
Я да сясцёр набожных завяду.

Ты не распытвайся і не марудзь.
Вунь варта. Мілая Джульета,
Хадзем, хадзем! Я не магу застацца.

Л а р э н ц а адыходзіць.

Д ж у л ь е т а

Ідзі. Я не пайду адгэтуль. Гэта што?
Сціскае шклянку любага рука.
Атрута тут — прычына смерці ранняй.
О, прагны! Выпіў і ніводнай каплі
Для паратунку не пакінуў мне.
Я вусны буду цалаваць твае,
На іх атрута, мо̀жа, засталася
І ад уцехі гэтай я памру.

*(Цалуе Рамэо.)*

А губы цёплыя твае.

1 - ы в а р т а в ы
(*за сцэнай*)

Ну дзе?
Вядзі паказвай нам, куды ісці.

Д ж у л ь е т а

Там шум. Спяшацца трэба мне. Кінжал,
Збавіцель мой!

*(Вымае кінжал з ножан у Рамэо.)*

Вось ножны дзе твае.

*(Заколваецца.)*

Ржавей ты тут, а мне памерці дай.

*(Падае на цела Рамэо і памірае.)*

Уваходзіць в а р т а з п а ж а м П а р ы с а.

П а ж

Вунь там, дзе факел той гарыць. Вунь там.

1 - ы в а р т а в ы

Зямля ў крыві. Абшукваць могільнік!
І хто б ні трапіўся, вязаць усіх.
Малюнак страшны. Граф ляжыць забіты;
Джульета ўся ў крыві... і цёплая,
Хоць трэці дзень ужо, як пахавалі.

Хутчэй ідзіце герцагу скажыце!
Паклічце Капулеці! Клічце ўсіх!
Мантэкі пабудзіце зараз жа!
Мы бачым месца жахаў і крыві,
А да прычын страшэннае бяды
Без росшукаў не можам мы дабрацца.

Уваходзяць некалькі вартавых з Балтазарам.

2-і вартавы

Манах тут; стогне ён, дрыжыць і плача.
Ішоў сюды, а мы яго схапілі
І адабралі лом і жалязняк.

1-ы вартавы

О, гэта падазрона! Затрымаць!

Уваходзіць герцаг са світай.

Герцаг

Што за бяда прачнулася так рана
І ранішні спакой наш парушае?

Уваходзяць Капулеці, сіньёра Капулеці і іншыя.

Капулеці

Што азначае гэты крык трывожны?

Сіньёра Капулеці

Народ на вуліцы крычыць «Рамэо».
А хто: «Джульета», хто: «Парыс» — і ўсе
Да склепа нашага імчацца з крыкам.

Герцаг

Які тут жах трывожыць слых наш?

1-ы вартавы

Герцаг,
Вось тут ляжыць забіты граф Парыс,
Рамэо мёртвы, мёртвая Джульета —
І цёплая: забіта толькі што.

Герцаг

Шукаць, знайсці віноўнікаў забойства!

1-ы вартавы

Слуга Рамэо тут; а вось — манах.
Пры іх для ўзлому склепа гэтага
Знайшлі прылады.

Капулеці

Жонка, божа мой!
Ты глянь, дачка ў крыві ўся. Памыліўся
Кінжал: вунь там, пры поясе ў Рамэо
Яго парожняе жыллё, а ён
У грудзі нашае дачкі ўвайшоў.

Сіньёра Капулеці

О гора! Гэты выгляд смерці мне —
Як пахавальны звон, які гаворыць,
Што старасці маёй пара ў магілу.

Уваходзяць Мантэкі і іншыя.

Герцаг

Ты рана ўстаў, Мантэкі, каб пабачыць,
Што сын адзіны твой так рана лёг.

Мантэкі

Мой уладар, сканала ўночы жонка:
Выгнанне сына ёй жыццё разбіла.
Якой жа мне яшчэ бяды чакаць?

Герцаг

Ты глянь — і ўбачыш.

Мантэкі

О невук, невук ты! Прыстойна хіба
Раней за бацьку класціся ў магілу?

Герцаг

Спыні дакоры горкія да часу,
Пакуль не высветлім падзей жахлівых,
Не знойдзем іх крыніцы і прычын.
Тады правадніком жалобы вашай
Я стану сам да самае магілы.
Хай гора ваша крыху пацярпіць.
Прывесці падазроных мне сюды!

Брат Ларэнца

Галоўны самы з падазроных — я,
Хоць менш за ўсіх я здольны на злачынства,
Жахлівага забойства час і месца —
Усё паказвае супроць мяне.
Я тут, каб бараніць і вінаваціць,
Каб асудзіць і апраўдаць сябе.

Герцаг

Усё, што ведаеш, кажы адразу.

Брат Ларэнца

Скажу я коратка,— іначай бы
На доўгае апавяданне мне
Хвілін маіх апошніх не хапіла.
Рамэо, што ляжыць тут,— муж Джульеты,
І вернай жонкаю была яму
Нябожчыца Джульета. Іх вянчаў я;
Дзень шлюбу тайнага быў смертным днём
Тыбальта; гэта смерць была прычынай
Выгнання маладога мужа. Жонка
Па мужу плакала, не па Тыбальту.
А вы, каб разагнаць тугу яе,
Хацелі выдаць сілаю за графа.
Тут да мяне прыйшла яна з адчаем,
Маліла, каб што-небудзь я прыдумаў
І ўратаваў бы ад другога шлюбу,
А не — забіць сябе гразіла ў келлі.
Тады, навучаны сваім умельствам,
Я даў ёй соннае пітво, якое
Зрабіла тое, што прадбачыў я:
Надаўшы выгляд мёртвае — жывой.
А я тады Рамэо напісаў,
Каб ён прыехаў гэтай ноччу страшнай
Джульету ўзяць з часовае магілы,
Калі надыдзе час прачнуцца ёй.
Але пасланы мною брат Джаванні
З пісьмом быў затрыманы выпадкова
І ўчора мне вярнуў яго назад.
Калі ёй тэрмін надышоў прачнуцца,
Забраць яе пайшоў я ў склеп сямейны,

Хацеў у келы я схаваць яе.
Пакуль змагу паведаміць Рамэо.
Калі ж прыйшоў за некалькі хвілін
Да той пары, калі ёй прачынацца,
Ужо нябожчыкі ляжалі тут —
Рамэо верны і шаноўны граф.
Калі Джульета ўстала, я прасіў
Ісці са мной, скарыцца волі божай,
Але мяне спалохаў шум раптоўны,
Яна ж ісці са мной не захацела
І, мусіць, тут сама сябе забіла.
Вось тое ўсё, што я магу сказаць:
Пра тайны шлюб пасведчыць можа нянька,
Калі чым-небудзь я тут вінават,
Дык у ахвяру строгаму закону
Раней, чым суджана памерці мне,
Аддайце вы жыццё маё старое?

Г е р ц а г

Заўсёды ў нас ты праведнікам быў,
Але што скажа нам слуга Рамэо?

Б а л т а з а р

Пра смерць Джульеты вестку я прынёс
Гаспадару, і з Мантуі сюды
Ён кінуўся да гэтага вось склепа;
Сказаў, каб бацьку перадаў я ўранні
Пісьмо вось гэта. Сам спусціўся ў склеп,
А мне пад страхам смерці загадаў,
Каб я тут аднаго яго пакінуў.

Г е р ц а г

Дай мне пісьмо, я потым прачытаю,
Дзе графаў паж, які паклікаў варту?
Скажы, што гаспадар твой тут рабіў?

П а ж

Прынёс ён кветкі на труну сіньёры,
Сказаў мне стаць вунь там; я адышоўся.
І раптам нехта з факелам прыйшоў,
Пачаў узламваць склеп. Мой гаспадар
Тут на яго накінуўся з мячом,
А я пабег тады хутчэй па варту.

Герцаг

Пісьмо расказ манаха пацвярджае
Пра іх любоў, таксама, як пра смерць.
Рамэо піша, што купіў атруту
У беднага аптэкара і з ёй
Прыйшоў у склеп памерці ля Джульеты.
Дзе ж ворагі? Мантэкі! Капулеці!
Вы богам пакараны за варожасць:
Любоўю радасць вашу ён забіў.
А я за патуранне вам аддаў
Двух сваякоў; усе мы пакараны.

Капулеці

О брат Мантэкі, дай жа мне руку:
Вось частка ўдовіна Джульеты; болей
Я не прашу.

Мантэкі

А я магу даць больш.
Я з золата ёй статую пастаўлю,
Да тых часоў, пакуль стаіць Верона,
Найлепшым самым будзе помнік гэты —
Увасабленнем вернасці Джульеты.

Капулеці

Заззяе і Рамэо разам з ёй —
Ахвяры дзве варожасці сляпой.

Герцаг

З жалобным мірам ранне к нам ідзе
І сонца паказаць не хоча твару.
Хадзем жа пагаворым аб бядзе —
Каго памілаваць, каму даць кару.
Сумнейшая з аповесцей на свеце —
Аповесць аб Рамэо і Джульеце.

Выходзяць.

# З І. А. Крылова

## ВАРОНА І ЛІСІЦА

Не раз казалі свету шчыра,
Што лесціць брыдка, шкодна, але ўсё дарма:
У сэрца лесць пратышчыцца сама.

Вароне неяк бог паслаў кусочак сыра;
Варона, радая сырку,
Збіралася паснедаць на суку,
Але задумалася, сыр узяўшы ў дзюбу.
Якраз Ліса тут бегла, як на згубу.
Раптоўна сырны дух Лісіцу запыніў:
Лісіца бачыць сыр,— сыр Ліску паланіў.
Да дрэва хітры звер на дыбках падыходзіць,
Хвастом павільвае, з Вароны воч не зводзіць,
І кажа соладка, ледзь дышучы, Ліса:
«Што за цудоўная краса!
Якая шыйка! Колькі ў вочках ласкі!
Каб расказаць, дык гэта ж проста казкі!
А дзюбка, пер'ейка! У захапленні я.
Ты, мабыць, і пяеш ляпей за салаўя.
Красуня, заспявай! А што, калі, сястрыца,
Яшчэ б і голасам магла ты пахваліцца?
Пры харастве такім была б ты ў нас
царыца!» —
Ледзь утрымалася красуня на суку,
Такія чуючы пахвалы,
Ад радасці дух сперла ў валляку,
Варона каркнула наколькі сілы стала.
Сыр выпаў, а Ліса — якраз таго й чакала.

# ДУБ І ТРЫСЦІНА

Трысціне Дуб сказаў: «Як бачу я,
Дык сапраўды цябе пакрыўдзіла прырода:
Ты не ўтрымаеш нават вераб'я.
Павее ветрык хоць і ў ціхую пагоду,
Ты захістаешся, пачнеш слабець
І так нагнешся сіратліва,
Што нават жаласна глядзець.
Між тым, як нараўне з Каўказам, ганарліва
Узняўшы галаву сваю,
Я мала што прабіцца сонцу не даю,
А перад бурамі ■ усмешкаю стаю,
Нібы абкружаны навокала спакоем.
Што бурай для цябе, дык мне зефірам тое.
Хоць бы ты блізка ля мяне расла,
Прыкрытая маёй густою кронай,
Я быў бы для цябе надзейнай абаронай;
Але ж табе прырода адвяла,
Не гледзячы на стан твой кволы,
Ўладанні бурныя Эола».
Трысціна тут яму: «Не плач па мне дарма:
Каб шкадаваць мяне, прычын зусім няма,
Не за сябе віхураў я баюся:
Хоць гнуся я, ды не ламлюся,
Дык буры мала шкодзяць мне,
Бадай табе страшней яны ўдвайне.
Хоць праўда, што сярдзітыя навалы
Цябе дагэтуль не зламалі,
І ад удараў іх не страціў ты вянца,
Ды пачакаем да канца!»
Трысціна гэта ледзь сказала,
Як раптам з поўначы сярдзітай напралом
І з градам, і з дажджом прымчаўся аквілон.
Стаіць наш Дуб, Трысціна да зямлі прыпала.
Вятрыска злы — падвоіў сілы ён,
Завыў і вырваў з каранём
Таго, хто галавой да хмараў дакранаўся
І аб зямлю пятою апіраўся.

## ПЕРАБОРЛІВАЯ НЯВЕСТА

Дзяўчына ў росквіце і рада б жаніху,
Ды ў тым няма яшчэ граху.
А вось што грэх: яна пыхлівая занадта.
Падай ёй жаніха, каб быў ён не дурны,
Багаты, малады, каб меў ён ардэны,—
Патрабавала зухавата.
Ну, каб усё ён меў. А хто ўсё можа мець?
І вось яшчэ прыкмець:
Другіх каб не любіў, капрызы мог цярпець.
Хоць шчасце да яе само валіла ў хату,
Бо жаніхі, як на падбор,
Выдатныя кацілі к ёй на двор,
Але ў яе быў густ занадта тонкі:
Такія жаніхі — знаходка для дзяўчат,
А на яе пагляд —
Не жаніхі, а жанішаты толькі.
Каго ж тут выбіраць між гэтых жаніхоў?
Той не ў чынах, другі без ардэноў;
Той мае чын, але кішэні ўсе пустыя;
То нос таўсты, то бровы загустыя;
Тут гэтак, там не так;
Пад густ сабе не падбярэ ніяк.
Прымоўклі жаніхі, гады на два прапалі,
А потым новыя сватоў паслалі,
Але ўжо гэтыя сярэдняе рукі.
«Якія дзівакі!»
Красуня моршчыцца: «Я ім зусім не пара.
Дурная ў іх, пустая мара!
І не такіх я жаніхоў
Ад сватання калісьці адвучыла,
Дык ці ж пайду за гэтых вахлакоў?
Сказаў бы — замуж вельмі закарціла!
Ды мне і ў дзеўках жыць пакуль што не бяда:
Днём весела, і ноч я сплю спакойна:
Спяшацца замуж проста непрыстойна».
Сплыла і гэта чарада.
Прачуўшы, што яна за цаца,
Не сталі жаніхі занадта дамагацца.
Прайшоў гадок —
Сваты маўчок,

Яшчэ гадок мінуў, яшчэ праплыў год цэлы,
Сваты не едуць, быццам назнарок.
Тым часам дзеўчына ўжо стала дзеўкай спелай;
Пачне лічыць другіх дзяўчат
(На гэта часу ў яе шмат),
Дык тая замужам, а тую заручылі,
Вось толькі пра яе забылі.
Нячутна смутак ёй падкраўся да грудзей;
Як толькі дзеўчына перад люстэркам сядзе,
Дакладвае яно, што кожны дзень
Час прагны хараство яе патрошку крадзе.
Спярша румянец знік, там — жывасць у вачах,
А потым ямачкі прапалі на шчаках,
Вясёласць, забаўкі кудысьці праміналі,
Там валаскі два-тры сівыя праглянулі:
Адзнака сталых дзён.
Бывала, без яе ў кампаніі так сумна
І ад паклоннікаў было навокал тлумна,
Цяпер жа — ах! яе ўжо клічуць на бастон.
Развага кажа ёй пра замуж клапаціцца,
Куды тут болей ганарыцца!
Як коса ні глядзіць дзяўчына на мужчын,
А ў сэрцы напамінак ёй адзін,—
Каб адзінокаю не скончыць веку.
І вось, пакуль яшчэ зусім не адцвіла,
Яна за першага, хто сватаўся, пайшла
І рада, рада ўжо была,
Што выйшла за калеку.

## ПАРНАС

Як з Грэцыі вон выгналі багоў
І іхнія дзяліць маёнткі сталі,
Дык некаму й Парнас тады адмежавалі;
Вось новы гаспадар стаў пасвіць там Аслоў.
Аслы ж якімсьці чынам знalі,
Што Музы там дагэтуль пражывалі,
І кажуць: «Ну, не так жа нас
Прагналі на Парнас:
Відаць, абрыдлі Музы людзям,
Спяваць тут зараз мы ўжо будзем».
«Зацягнем жа»,— крычыць адзін.— Ды весялей!

Я завяду, а вы за мной смялей!
Сябры, баяцца нам не трэба!
Няхай імкнецца песня ў неба!
Гучней, як дзевяць тых сясцёр,
Мы ўздымем музыку і свой наладзім хор!
А каб было ў капэлі болей згоды,
Такі парадак завядзём у нас:
Чый голас не дае аслінай асалоды,
Таго не прымем на Парнас».
Адобрылі Аслы аслова
Прыгожа сплеценае слова:
Хор новых спевакоў такую дзіч панёс,
Як быццам рухаўся абоз,
Дзе тысячы нямазаных калёс.
Не могучы сцярпець такое прыгажосці,
Той гаспадар набраўся злосці
І ўсіх загнаў з Парнаса ў хлеў.

Я крыўдзіць невукаў намеру тут не меў,
Але карыснае скажу ім штосьці:
Калі ты ёлуп, крый нас божа,
Дык месца тут не дапаможа.

## АРАКУЛ

У нейкім капішчы стаяў драўляны бог,
Які пачаў маўляць прароцкія адгады
І мудрыя даваць парады.
Затое з галавы да ног
Ён золатам абвешан, і па пяты
На ім блішчыць убор багаты.
Народ яго маленнем заглушыў
І фіміямам задушыў
Па легкавер'ю чалавечым.
Як раптам — ганьба і скандал!
Аракул праўды не ўгадаў:
Адказваць стаў няскладна, недарэчы;
І так пайшло далей штодня:
Што бог ні скажа, то брахня,
Аж кожны дзіваваўся,

Куды ў яго прарочы дар дзяваўся!
А справа ў тым,
Што ідал быў пусты і жрэц садзіўся ў ім
Маўляць народу прадказанні;
І вось тут вынікі відны:
Як быў разумны жрэц, дык бог не плёў маны,
Калі ж туды засеў дурны,—
Балван абалванеў дазвання.

Яшчэ з даўнейшае пары
Пра суддзяў мне такіх апавядалі,
Якія вельмі мудрыя бывалі,
Пакуль разумныя былі сакратары.

## ВАСІЛЁК

Расцвіўшы ў жыце, Васілёк
Раптоўна звяў і ў марным стане
Аж галаву схіліў набок,
Чакаючы свайго скanання.
Зефіру паміж тым ён жаласна шаптаў:
«Ах, дзе той дзень? Хутчэй бы дзень настаў!
Каб сонца яснае ўсё поле асвяціла,
Дык і мяне б яно, напэўна, ажывіла!»
«Вось выдумаў, блазнюк! —
Сказаў яму, што рыўся побач, жук: —
Хіба ж у сонейка ўсяе турботы
Сачыць, як ты расцеш,
Ці вянеш ты, ці хараша цвіцеш?
Павер, няма ў яго ні часу, ні ахвоты
Для гэткіх спраў.
Каб ты лятаў, як я, ды свет бы знаў,
То бачыў бы, што ўсе лугі, лясы і нівы
Ім толькі і жывуць, ім толькі і шчаслівы:
Яно сваім цяплом
Вялізныя дубы і кедры саграває
І незвычайным хараством,
Цудоўным пахам кветкі аздабляе.
Такія кветкі, праўда, ёсць,
Дык там жа прыгажосць!
І ты ім толькі пазайздросціць.

Сам час касіць шкадуе іх, здаецца,
Ну, а ў цябе ж такога хараства няма,
Дык сонцу просьбай ты не дакучай дарма,
І марна дабівацца перастань,
Маўчы і вянь!»
Тут сонейка ўзышло, прыроду асвяціла,
З праменнямі жыццё раслінам несучы,
І бедны Васілёк, што звяў быў уначы,
Нябесным зрокам ажывіла.

О вы, каго над іншымі шчаслівы лёс
Высока ўзнёс!
З майго вы сонца прыклады бярыце, —
Паглядзіце:
Куды прамень яго дастане, там яно,
Ці дубу, ці былінцы — ўсё адно,
Жыццё нясе і шчасцем надзяляе,
Затое ў сэрцы ў нас і ў капельцы расы
Мы бачым водбліскі яго красы,
І кожны сонейка благаслаўляе.

## ЛЕС І АГОНЬ

І друга выбраць — трэба ўмець.
Калі карыслівасць надзене дружбы маску,
Яна табе рыхтуе пастку.
Каб гэту думку лепей зразумець,
Паслухай байку ды прыкмець.

Зімой на ўзлессі Аганёк курыўся;
Ён падарожнымі забыты, мусіць, быў.
Што далей, меншым ён рабіўся:
Дроў не было, Агонь мой ледзь дыміў.
І так да Кудры лесу гаварыў:
«Скажы мне, Кудзерка-сястрыца,
За што цябе пакрыўдзіў гэтак лёс?
Што ўсё лісцё тваё атрос,
І мерзнеш ты, не маеш чым
прыкрыцца?»
«Таму, што я ў снягу

Зімой ні зелянець, ні цвісці не магу»,—
Агню так Кудра прамаўляе.
Агонь сваё: «Ды тут яшчэ бяда малая.
Са мною пасябруй, дык я дапамагу.
Я — сонцаў брат, вядомы добра ўсюды,
За сонца лепш тварыць умею цуды.
Спытай сабе ў цяпліцах пра мяне:
Зімой наўкола сцюжа ды завея,
А там усё цвіце ды спее:
І гэта — дзякуючы мне.
Хваліцца я не маю моды
І выстаўляцца не люблю,
Аднак жа ў сіле сонцу не ўступлю.
Як тут яно ні ззяла ад усходу,
Снягоў не здолеўшы, пайшло ўжо на начлег;
А ля мяне, глядзі, растаў як снег!
Калі зазелянець жадаеш ты зімою,
Як летам ці вясною,
Дай у сябе маленькі мне куток!»
Умова зроблена, і ў лесе Аганёк
Становіцца Агнём, Агонь палае:
Бяжыць ён па ствалах, аблізвае сукі,
І дыму чорнага ўздымаюцца клубкі,
І хутка полымя ўсю Кудру ахапляе.
Усё згарэла ўшчэнт, і там, дзе ў спёкі дні
Мог адпачыць вандроўнік у цяні,
Тарчаць адны асмаленыя пні.
І тут няма чаго дзівіцца:
Не варта дрэвіне з агнём вадзіцца.

## ЧЫЖ І ВОЖЫК

Адзін, наводшыбе, ў бары
Нясмелы Чыж чырыкаў на зары,
Зусім не для таго, каб зарабіць ухвалу,—
Няма за што. Спеў сам гучаў сабе памалу.
І тут у бляску променяў сваіх
Агністы Феб з абшараў вадзяных
Узняўся.
Здавалася, што ён прынёс жыццё ўсяму,
І насустрэч яму

Хор гучных салаўёў у пушчы разлягаўся.
Чыж раптам змоўк: «А ты чаго,—
Спытаўся Вожык у яго,—
Мастацтва не паказваеш свайго?»
«Бо гімн спяваць я голасу не маю,
А слабым славіць не хачу,
Таму вось і маўчу,
І Феба не ўслаўляю».

Так я са смуткам наракаю,
Што мне Піндара ліры лёс не даў:
Я б Александра праслаўляў.

## МАЛПЫ

Разумна пераймаць ніколі не загана,
Карысць нам гэта можа даць,
А вось бязглузда пераймаць,
Не дай ты, божа, як пагана!
Я прыклад прывяду з краін чужых.
Хто бачыў малпаў, тыя знаюць,
Што ўсё яны старанна пераймаюць.
Дык вось у Афрыцы, дзе так багата іх,
На дрэве, на суках, між зелені густой,
Чародка малпаў раз сядзела
І крадкам на лаўца глядзела,
Як па траве качаўся ў сецях той.
Тут Малпа Малпу ў бок — штурхель нагою
І шэпчуцца паміж сабою:
«Ну, гляньце ж вы на малайца,
Як штукі вырабляе без канца!
То ён кульнецца,
То размахнецца,
А то, дальбог,
У камячок ён так збярэцца,
Што не відаць ні рук, ні ног.
На ўсё мы здатныя, сястрыцы,
А вось такога ў нас мастацтва не відаць.
Красуні-маладзіцы!
Не шкодзіла б нам гэта пераняць.

Пайшла яна ў Кіеў
Памаліцца. Прасіў стары,
А Марка аж плакаў,
Каб яна была за матку.
«Не, Марачка, дзякуй!
Быць мне маткай не да твару —
Багатыя ж людзі,
А я наймічка... Смяяцца
Кожны з цябе будзе.
Няхай бог вам памагае!
Пайду памалюся
Усім святым у Кіеве
Дый да вас вярнуся.
Як прымеце мяне ў хату,
Пакуль маю сілы,
Папрацую...»
                Шчырым сэрцам
Паблагаславіла
Свайго Марку... Заплакала,
Пайшла за вароты.

Разгарнулася вяселле —
Музыкам работа
І падэшвам. Варэнухай
Сталы, лавы мыюць,
А наймічка кандыбае,
Спяшаецца ў Кіеў.
Прыйшла ў Кіеў — не спачыла,
У мяшчанкі стала,
Нанялася ваду насіць,
Бо грошай нестала
На імшу святой Варвары.
Насіла, насіла,
Копаў з восем зарабіла,
Шапачку купіла
Потым Марку ў пячэрах
Івана святога,
Каб галоўка не балела
Ў Марка маладога.
І пярсцёнак у Варвары
Нявесце дастала,
І, адбіўшы ўсе паклоны,
Дамоў пакульгала.

Вярнулася. Кацярына
І Марка сустрэлі,
Запрасілі яе ў хату,
За стол з ёю селі,
І паілі, і кармілі,
Пра Кіеў пыталі,
А пасля ёй у пакоі
Адпачыць паслалі.
«За што яны мяне любяць?
За што паважаюць?
О мой божа міласэрны!
Можа, яны знаюць...
Дагадаліся ўжо, можа...
Хаця не,— сказала.—
Яны добрыя...» — І Ганна
Горка зарыдала.

## VI

Тройчы крыга замярзала,
Тройчы раставала,
Тройчы ў Кіеў Кацярына
Ганну выпраўляла,
Быццам маці. І ў чацвёрты
Правяла ў дарогу
Пад курган той, што на полі,
Ды прасіла бога,
Каб хуценька вярнулася:
Без яе ж у хаце
Неяк сумна, быццам хату
Пакінула маці.

Раз ў нядзелю на прачыстай
На прызбе на сваёй Трахім
Сядзеў сабе ў кашулі чыстай,
Капелюшы. А побач з ім
Унук з сабакам забаўляўся.
А ўнучка, ў матчынай спадніцы,
Прыйшла, як ходзяць маладзіцы,
Да дзеда ў госці. Засмяяўся
Стары і ўнучку прывітаў,
Нібы сапраўдную кабету.
«А пірагі ж падзела дзе ты?
Ці мо хто ў лесе адабраў?

Ці мо забылася ты ў хаце?
А мо зусім не напякла?
Э, сорам! Вылітая маці!»
Аж зірк! — і наймічка ўвайшла
У двор. Пабег дзед сустракаці
З унукамі сваю Ганну.
«А Марка ў дарозе?» —
Ганна ў дзеда спыталася.
«Яшчэ ўсё ў абозе».
«А я ледзьве дадыбала
Да вашай хаціны.
Не хацела паміраці
Адна на чужыне.
Каб хоць Маркі дачакацца!..
Нешта цяжка стала...»
І з клуначка яна ўнукам
Гасцінцы дастала
Медалікі і крыжычкі,
Пацерак шнурочак
Ярыначцы і чырвоны
З фольгі абразочак;
А для Карпа салавейку
Ды конікаў пару,
А чацвёрты аж пярсцёнак
Ад святой Варвары
Кацярыне; а старому
З восачку святога
Тры свечачкі. Толькі Марку
І сабе нічога
Не прынесла: не купіла,—
Грошай не хапіла,
Зарабіць жа не прыйшлося.
«Яшчэ асталося
Абаранка палавінка».
Дзецям раздзяліла.

VII

Зайшла ў хату. Кацярына
Памыла ёй ногі,
Палуднаваць пасадзіла.

Не ела нічога
Ганна, толькі запытала:
«Калі ў нас нядзеля?»
«Паслязаўтра».— «Трэба будзе
Акафіст наняці
Ды святому Мікалаю
На часціну даці,—
Бо вось Марка забавіўся...
Можа, дзе ў дарозе
Занядужаў, не дай божа!»
Закапалі слёзы
З старых вачэй памутнелых;
Ледзьве Ганна ўстала,
Прамовіла:
«Кацярына!
Я не тая стала,
Знядужала, не магу ўжо
І на ногі ўстаці.
Цяжка, Катра, паміраці
Ў чужой, цёплай хаце!»

Захварэла, небарака.
І прычасць прымала,
Мазалі святым алеем —
Не дапамагала.
Стары Трахім па надворку
Як прыбіты ходзіць,
Кацярына ж з хворай Ганны
І вачэй не зводзіць,—
Ад пасцелі не адходзіць
Ні ўдзень, ані ўночы,
А тым часам на каморы
Сыч бяду прарочыць.
Непакоіцца ўсё Ганна.
Штодзень, штогадзінна
Ледзьве чутна пытаецца:
«Скажы, Кацярына,
Яшчэ Марка не прыехаў?
Ох, каб жа я знала,
Што даждуся, што пабачу,—
Яшчэ б пачакала!»

VIII

Ідзе Марка з чумакамі,
Ідучы спявае,
Спыняецца на папаску,—
Дамоў не спяшае.
Вязе Марка Кацярыне
Сукна дарагога,
Чырвонага шоўку пояс
Вязе для старога.
І каптур парчовы Ганне —
Любасці адзнаку,
І чырвоную ёй хустку
З белым яшчэ шлякам.
А дзетачкам чаравічкі,
Фіг ды вінаграду,
А ўсім разам чырвонага
Віна з Цараграду
Вёдзер мо са тры ў бачурцы,
Ікры рознай з Дона,—
Вязе ўсяго, не ведае,
Што робіцца дома.

Ідзе Марка, не журыцца,
Прыйшоў, дзякуй богу!
І вароты адчыняе,
І моліцца богу.
«Вось, ці чуеш, Кацярына?
Бяжы, сустракай ты!
Прыйшоў ужо! Бяжы хутчэй
Ды вядзі дахаты!
Дзякуй табе, хрысце-божа!
Ледзь я прычакала»
І «ойча наш» ціха-ціха,
Як праз сон, шаптала.

Стары валы выпрагае,
Ярмо прыбірае,
Кацярына гэтым часам
Марку аглядае.
«А дзе ж Ганна, Кацярына?
Я сабе й не дбаю!
Мо памерла?» — «Не памерла,

А вельмі слабая.
Пойдзем у малую хату,
Пакуль выпрагае
Валы бацька; яна цябе
Вельмі ўжо чакае».
Увайшоў у хату Марка
І стаў ля парога...
Аж спужаўся. Ганна шэпча:
«Дзякуй... Дзякуй богу!
Хадзі сюды, не пужайся!
Выйдзі з хаты, Каця:
Нешта маю запытаць я,
Нешта расказаці».
Выйшла з хаты Кацярына,
А Марка схіліўся
Да наймічкі. Прашаптала:
«Марка! Прыглядзіся,
Прыглядзіся да мяне ты!
Бач, як я змарнела.
Я не Ганна, не наймічка,
Я...» — і занямела.
Марка плакаў і дзівіўся.
Зноў вочы адкрыла,
Пільна глянула, ды зрок ёй
Сляза засланіла.
Даруй ты мне! Мучылася
Век я ў чужой хаце!..
Даруй жа мне, мой сыночак!
Я... Я твая маці!»
І замоўкла...
Самлеў Марка,—
Зямля задрыжала.
Прахапіўся — да мацеры,
А маці сканала.

*(13 лістапада 1845
у Пераяславе — 1860)*

# І МЁРТВЫМ, І ЖЫВЫМ, І НЕНАРОДЖАНЫМ
## ЗЕМЛЯКАМ МАІМ НА УКРАІНЕ І НЕ НА УКРАІНЕ МАЕ СЯБРОЎСКАЕ ПАСЛАННЕ

Аще кторечет, яко люблю бога,
а брата своего ненавижу, ложь есть.

*Соборное послание Иоанна. Глава 4, с. 20.*

І змяркае, і світае,
Дзень божы мінае,
Зноў і стомленыя людзі,
І ўсё спачывае.
Толькі я, нібы пракляты,
І дзень, і ноч плачу
На шматлюдных раздарожжах,
І ніхто не бачыць.
І не бачыць, і не знае —
Аглухлі, не чуюць,
Кайданамі мяняюцца,
Праўдаю гандлююць,
І госпада зневажаюць,—
Людзей запрагаюць
У ярмо; аруць жа ліха,
Ліхам засяваюць,
А што ўродзіць? Пабачыце,
Што за жніва будзе.
Схамяніцеся ж нарэшце
Вырадкі — не людзі!
Паглядзіце на рай ціхі
Вы, на Украіну,
Палюбіце вялікую
Гэтую руіну!
Раскуйцеся, на чужыне
Братацца пачнеце,
І таго вы не шукайце,
Чаго няма ў свеце,—
Не знайсці таго ніколі
На чужыне ў полі.
Свая ж хата — свая праўда,
Свая сіла й воля.

Няма другое Украіны,
Другога не знайсці Дняпра,
А вы працеся на чужыны
Шукаць там добрага дабра,
Дабра святога. Волі! волі!
Братэрства братняга. Знайшлі,
Прынеслі к нам з чужога поля:
На Украіну з той зямлі
Вялікіх слоў прынеслі многа,
Нічога больш. А крычыце,
Што не затым вы жывяце,
Каб кланяцца няпраўдзе ў ногі,
І хіліцеся горш былога!
І зноў вы скуры дзераце
З братоў няшчасных, грэчкасеяў,
І сонца праўды сузіраць
Туды, да немцаў дабрадзеяў,
Працеся зноў вы. Каб забраць
Маглі нікчэмнае з сабою
І крадзенае ўсё дабро,
Тады б астаўся сіратою
З святымі горамі Дняпро!
Каб вам не вярнуцца, каб так яно стала!
Каб там і здыхалі, дзе вы параслі;
Не плакалі б дзеці, маці не рыдала,
І словы б знявагі не чутны былі.
І сонца б не грэла смярдзючага гною
На чыстай, шырокай, на вольнай зямлі.
Не ведалі б людзі, што вы за арлы,
І не паківалі б на вас галавою.
Майце розум і сумленне,
Бо ліха вам будзе!
Раскуюцца неўзабаве
Скованыя людзі.
Суд настане, загавораць
І Дняпро, і горы!
Кроў пацячэ дзяцей вашых
У сіняе мора
Сторэкамі... І не будзе
Каму ратаваці:
Адцураецца брат брата
І дзіцяці маці;
І дым хмараю заслоніць

Сонца перад вамі,
Будзеце навек пракляты
Сваімі сынамі!
Умыйцеся! Вобраз божы
Не паганьце самі!
Не дурыце дзяцей вашых,
Што яны панамі
Быць над іншымі павінны,
Бо простае вока
У душу пранікнуць можа
Глыбока! глыбока!
Дазнаюцца небаракі,
Чыя на вас скура,
І асудзяць... І прамудрых
Простыя абдурацы.

Каб вы вучыліся як трэба,
То й мудрасць бы была свая,
А то залезеце на неба:
І мы — не мы, і я — не я!
І я ўсё бачыў, і ўсё знаю:
Няма ні пекла, ані раю,
Няма і бога, толькі я!
Яшчэ куртаты, хітры немец,
А больш нікога!
Як жа скеміць,
Што ты такое?
Я не знаю —
Няхай скажа немец!
Так праходзіце навуку
У чужым вы краю!
Немец скажа: «Вы манголы!»
«Манголы! манголы!»
Залатога Тамерлана
Я патомак голы!
Немец скажа: «Вы славяне!»
«Славяне! славяне!»
Слаўных прадзедаў вялікіх
Праўнук я паганы!
І Колара чытаеце
Вы з усяе сілы,
І Шафарыка, і Ганку,

І ў славянафілы
Вы працеся, і ўсе мовы
Славянскіх народаў
Ведаеце, а сваю як?
Дасць бог, год ад году,
І па-свойму загаворым,
Як немец пакажа —
І тым часам гісторыю
Нашу нам раскажа.
Вось тады мы завінемся!
Завіхацца сталі:
Па нямецкаму загаду
Так забалбаталі,
Што аж сам не ўцяміць немец —
Вучыцель вялікі,
А ўжо дзе там простым людзям!
А гвалту, а крыку!
«І гармонія, і сіла,
Музыка, дый годзе!
А гісторыя? — Паэма
Аб вольным народзе!
Што рымляне побач з намі!
Бруты-недарэкі!
У нас Бруты і Коклесы
Слаўныя навекі!
Воля ў нас расла і твар свой
Дняпром умывала,
Пад галовы горы слала,
Стэп — ёй пакрывала».
Кроўю твар яна ўмывала,
А спала на купах,
На казацкіх вольных трупах,
Абкрадзеных трупах!
Прачытайце толькі добра,
Разбярыце зноў вы
Тую славу ды чытайце
Ад слова да слова
Ані цітла, ані коскі
Нідзе не мінайце,
А тады — хто мы такія —
Пра сябе спытайце.
Чые сыны? Якіх бацькоў?
Кім, за што закуты?

Дык пабачыце, што вось хто
Вашы тыя Бруты.
Рабы, падлізы, гразь Масквы;
І гетман ваш яснавяльможны —
Варшавы панскай бруд падножны
Чаго ж вы хваліцеся — вы,
Сыны Украіны гаротнай?
Што добра ходзіце ў ярме,
Лепш нават, як бацькі хадзілі?
Дарэмна: з вас дзяруць рамень,
А з іх, бывала, лой тапілі.

Можа, гонар вам, што брацтва
Веру бараніла,
Што Сінопам, Трапезонтам
Галушкі варыла?
Праўда, праўда, яны елі,
А вам цяпер шкодзіць,
І на Сечы мудры немец
Бульбу ўжо разводзіць,
А вы яе купляеце,
Ясцё на здароўе
Ды славіце Запарожжа.
А чыёй жа кроўю
Зямля гэта напоена,
Што так бульба родзіць?
Усё роўна вам, каб толькі
Радзіла ў гародзе.
Хваліцеся, што мы Польшчу
Некалі звалілі!..
Польшча ўпала, ды абломкі
Вас жа раздушылі!
Дык вось як кроў бацькі лілі
І за Маскву і за Варшаву!
І вам, сынам, перадалі
І кайданы свае, і славу!

Дазмагалася Ўкраіна
Да самага краю.
Горш за ляха свае дзеці
Яе распінаюць.
Замест піва кроў з рабрынаў

Праліваць ахвочы,
І сучаснымі агнямі
Мацерыны вочы
Прасвятляюць: хай за векам
Крочыць недарэка,
Хай за немцам патрапляе
Сляпая калека!
Што ж, вядзіце, паказвайце!
Хай старая маці
Навучаецца дзяцей тых
Новых даглядаці.
Паказвайце! За навуку
Маці добра вельмі
Вам заплаціць калі-небудзь:
Распадуцца бельмы
На вачах паганых вашых;
І жывую славу
Дзядоў сваіх пабачыце,
Бацькоў хітрых справу.
Не дурыце самі сябе!
Думайце, чытайце,
Пераймаючы чужое,
Свайго не кідайце.
Бо хто маці забывае,
Таго бог карае,
Таго дзеці цураюцца,
У хату не пускаюць.
Чужаніцы праганяюць,
І няма ліхому
На зямлі на ўсёй бяскрайняй
Прытульнага дому.
Я рыдаю, як згадаю
Ці як мне прысніцца
Мінулае Украіны.
Каб яго забыцца,
Я аддаў бы вясёлага
Веку палавіну.
Вось якая наша слава,
Слава Украіны!..
Вось і вы так прачытайце,
Каб наяве снілі
Усе крыўды. Каб усталі
Тыя, што ў магіле,

Перад вашымі вачамі,
Каб вы распыталі
Пакутнікаў: каго, калі,
За што распіналі!
Абніміце ж, браты мае,
Найменшага брата,—
Няхай маці слёзы вытра,
Бо ліла багата.
Хай сыноў благаслаўляе
Дужымі рукамі,
І дзетачак пацалуе
Вольнымі губамі.
І забудземся пра сорам
Даўняе гадзіны,
І паўстане наша слава,
Слава Украіны.
Промень ясны, невячэрні
Ціха нам засвеціць.
Абніміцеся ж, малю вас,
Адной маткі дзеці!

*14 снежня 1845*
*Уюнішча*

# *З Адама Міцкевіча*

## ЗВОН І ЗВОНІКІ

Казалі звонікі з дзыліньганнем вясёлым
Да звона, што ляжаў самотна пад касцёлам:
«Што з велічы твае, калі ляжыш ты немы?
Тым часам песенькі выспеўваем свае мы».
«О галасістыя, падзякуйце плебану,—
Шапнуў ім звон,— што я ў зямлю ўтаптаны».

## БЛЫХА І РАБІН

Талмуд даследваў рабін дасканала
Ды аж пацепваўся: блыха яго кусала.
Злавіў. Абураны, прыдумвае ёй кару.
Блыха ж з-пад пальца шэпча: «Не да твару
Злавацца мудраму, чый знатны род — Левіты?»
　　«О кроў, за кроў, драпежны вырадак Ваала!
Няўжо так смагнеш без мае крыві ты?
Ты ад чужой крыві бліскучай стала,—
Крычыць ёй рабін.— Глянь на пчол, на іх палацы,
На воск, на мёд — плады сумленнай працы.
Ты ж з хобатам паміж людзей заўсёды,
У болі іх сабе шукаеш асалоды.
Дык смерць таму, хто век чужое грабіў!»
Блыха ледзь піснула: «А чым жыве сам рабін?»

## СЯБРЫ

Што дружбы шчырай больш няма па свеце,
На гэта доказы ў Ашмянскім ёсць павеце.
Жыў Лешак там калісь і кум ягоны Мешак,—
Пра дружбу іх я нават чуў размову,

Што як знаходзілі яны арэшак,
Дык зернетка дзялілі напалову,—
Ну, словам, не кумы, а спарышы:
Два целы аб адной душы;
І ў той даўнейшы час такіх было нямнога.
Аднойчы ў халадку пад шум галля ляснога
Пра дружбу ўдвух яны сардэчна размаўлялі,
Зязюлі і дразды іх дружбу праслаўлялі,
І на душы ў сяброў так хараша было...
Аж раптам нешта зараўло.
Тут Лешак зразу кінуўся да дуба,
А Мешак лазіць не мастак: вось-вось загіне.
Крычыць: «Ратуй, кумок, прыйшла мне згуба!»
А кум ужо на самай верхавіне.
Не ўспеў збялелы Мешак пасці ніц,
А ўжо над ім мядзведзь стаіць:
Крануў, нюхнуў і зморшчыў нос ад паху,
Які ішоў у Мешка з-пад адзежы
(Той пах, вядома, быў ад страху).
«Мярцвяк,— рашыў мядзведзь.—
Ды ўжо й не свежы»,—
І адвярнуўся грэбліва тым часам:
Літвін-мядзведзь не есць гнілога мяса.
Ачнуўся Мешак.— «Шчасце, дружа мой,—
Гукае кум,— што не патрушчыў косці.
Але чаго так доўга соп ён над табой,
Нібы шаптаў на вуха штосьці?»
«Шаптаў ён,— кажа Мешак,— пане дабрадзей,
Што дружба правяраецца ў бядзе».

## *З Уладзіміра Маякоўскага*

### НЕЗВЫЧАЙНАЯ ПРЫГОДА, ШТО АДБЫЛАСЯ З УЛАДЗІМІРАМ МАЯКОЎСКІМ НА ДАЧЫ

*(Пушкіна, Акулава гара, дача Румянцава, 27 вёрст па Яраслаўскай чыгунцы)*

У сотні сонц заход палаў,
У ліпень перла лета,
гарачыня,
як вар,
плыла —
было на дачы гэта.
Прыгорак Пушкіна гарбіў
Акулавай гарою,
а ніз прыгорка —
вёскай быў,
крывіўся стрэх карою.
А там, за вёскаю,—
дзіра
была, напэўна, ў доле,
і ў дзірку сонца кожны раз
спускалася паволі.
А заўтра —
свет заліты зноў
барвоваю навалай.
Мне гэта ўсё ўзбурыла кроў,
страшэнна раззлавала.
І так абурыўся я раз,
што ўсё ад страху зблекла;
у твар я сонцу крыкнуў:
«Злазь!
Пакінь цягацца ў пекла!»
Я крыкнуў сонцу:

«Дармаед!
Пястун аблочнай ваты!
А тут — не знай ні зім, ні лет,
сядзі, малюй плакаты!»
Я крыкнуў сонцу:
«Пачакай,
гультай залаталобы!
Чым так заходзіць,
лепш на чай
ты да мяне
зайшло бы!»
Ах, я ж загінуў!
Назнарок
ка мне,
па добрай волі,
само,
распяўшы промень-крок,
ідзе яно па полі.
Стаіўшы страх,
я стаў хутчэй
рэтыравацца задам.
У садзе зірк яго вачэй.
Яно ўжо крочыць садам.
Праз дзверы,
шчыліны,
акно
ўваліла сонца маса,
і,
ледзь адсопшыся,
яно
загаварыла басам:
«Назад пагнала я агні
раз першы ад стварэння.
Мяне ты клікаў?
Чай гані,
гані, паэт, варэнне!»
Сляза з вачэй,—
гарыць мой твар,
такая спёкі сіла,—
ды я яму —
на самавар:
«Ну, што ж,
сядай, свяціла!»

І чорт жа глотцы даў маёй
крычаць яму дакоры!
Сяджу на лаве,
сам не свой,
дрыжу — не выйшла б горай!
Да сонечных яснот,
аднак,
прывык я
паступова,—
за словам слова мы —
і так
пайшла у нас размова.
Я тое,
гэта гавару,
кажу — заела РОСТа
а сонца:
«Ладна,
не гаруй,
глядзі на рэчы проста!
А мне свяціць
лягчэй?
Ну дзе ж!
Паспрабуй, даражэнькі!
А падручылася —
ідзеш
і свеціш на ўсе зрэнкі!»
Размова ў нас —
да цемнаты,
да быўшай, значыць, ночы.
Якая ж цемра?
Мы на «ты»,—
гляджу я смела ў вочы.
Мацнее дружба ўсё мая,—
б'ю па плячу яго я.
А сонца зноў жа:
«Ты ды я,
нас, таварыш, двое!
Хадзем —
заззяем,
запяём
між хламу і маркоты:
я сонца буду ліць сваё,

а вершамі —
сваё ты».
Сцяна цямноты
Знемагла,
пад сонц двухстволкай пала.
Гармідар вершаў і святла —
смалі у што папала!
Яно змарнее,—
хоча ноч
прыйсці,
тупая сонніца.
Тут — я
на ўсю заззяю моц —
і зноўку дзень зазвоніцца.
Свяціць заўсёды,
ўсюды,
скрозь,
без краю
і бясконца,
свяціць да дзён астатніх! —
Вось
лозунг мой —
і сонца!

*1920*

## *З Аляксандра Твардоўскага*

### ЯК ДАНІЛА ПАМІРАЎ

Жыў на свеце дзед Даніла
Сто гадоў ды пяць.
І сто шосты хутка стукне —
Час бы паміраць.

Ёсць адзенне, хлеб і сала,
І няма турбот,
Каб сумленне дазваляла,
Жыў бы дзвесце год.

Ды нявесела Данілу,
Хіба ж гэта рай?
Не даюць работы дзеду,
Кажуць: пагуляй.

Што ж гуляць так упустую
Да якой пары?
Лепш сказалі б начыстую:
Памірай, стары!

Дошчак смольных дзед Даніла
Нанасіў цішком,
Дастае цвікі, рубанак,
Пілку з малатком.

Снасць рухава захадзіла,
Дошкі — нібы звон.
Што ўжо робіць дзед Даніла,
Моцна робіць ён.

Шчыльна збіў труну цвікамі —
Хоць бы дзе прасвет.
У далёкую дарогу,
Знаць сабраўся дзед.

І ляжыць, як адубелы,
Тварам дагары,
Нацягнуўшы саван белы,
У труне стары.

Хоць людзей у вёсцы — сіла,
Ўсе прыйшлі спаўна.
— Вось і кончыўся Даніла!
— Вось табе і на!

Быў цясляр ён знакаміты,
Першы на сяле.
Усміхнуўся дзед паціху
Гэтай пахвале.

— Толькі слаб быў небарака,
Што ні гавары.
«Ох, і брэшаш жа, сабака»,—
Думае стары.

— Ну але ж сыноў пакінуў,
Хлопцы — на ўвесь свет.
«Вось што праўда ўжо, то праўда»,—
Ледзь не крыкнуў дзед.

Паўздыхалі людзі трошкі
Ды сказалі так:
— Выпіць трэба. Сам нябожчык
Выпіць быў мастак.

Гэта дзеда вельмі цешыць,
Што ж тут крыўдаваць?
Людзі добрыя не брэшуць,
Мог ён выпіваць.

Кажуць: — Ну, бывай, Даніла!
Просім даравацы!
Час такі... Ў бярвеннях нашы
Тапары тырчаць.

Кажуць: — Робяць хлопцы ўдала,
Цесляры — арлы.
Сам ты іх вучыў, бывала,
Высякаць вуглы.

Рукі ў хлопцаў залатыя
Ў лад калі дадуць,
Дык у іх бярвенні тыя
Проста аж гудуць.

Эх, Даніла! Эх, Даніла,—
Быў бы маладым!
Дык тады памерацъ сілы
Самы раз бы ім.

Меў ты, брат, кавалак сілы,
Быў такі ўвішны...
— Ах вы,— крыкнуў дзед Даніла,—
Сукіны сыны!

Ваша мне ныццё няміла,
Я яшчэ не труп.
Дзе тапор? — крычыць Даніла.—
Зараз жа на зруб!

*1938*

# КАМЕНТАРЫІ

## Нарысы, артыкулы

Стар. 7. *Міхаіл Сільніцкі.* Надрукаваны асобнай кніжкай пад назвай «Герой Савецкага Саюза Міхаіл Сільніцкі». Выдавецтва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь», 1943 г. Датуецца 1943 г.

Стар. 19. *Лондан.* Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 16 сакавіка 1946 г. Датуецца лютым 1946 г. Твор з'явіўся ў выніку паездкі аўтара ў Англію ў пачатку 1946 года для ўдзелу ў рабоце Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Альбіён — старажытнейшая назва Англіі.

Абацтва — каталіцкі манастыр з яго ўладаннямі.

Пантэон — тут памяшканне, дзе захоўваюцца астанкі выдатных людзей.

Трафальгарская бітва — бітва каля мыса Трафальгар на паўднёвым атлантычным узбярэжжы Іспаніі, каля ўваходу ў Гібралтарскі праліў, дзе 21 кастрычніка 1805 г. англійскі флот пад камандаваннем адмірала Нельсана (1758—1805) нанёс паражэнне саюзнаму франка-іспанскаму флоту. Гэта паражэнне прымусіла Напалеона I адмовіцца ад плана нападу на Англію праз праліў Ла-Манш.

Вікторыя (1819—1901) — англійская каралева з 1837 па 1901 г.

Стрыт *(англ.)* — вуліца.

Вільгельм I Заваёўнік (1027—1087) — герцаг Нармандыі з 1035 г., кароль у 1066—1087 гг.

Георг VI (1895—1952) — англійскі кароль з 1936 па 1952 г.

Пэтэн (1856—1951) — французскі маршал, здраднік французскага народа. У 1940—1944 гг., у перыяд акупацыі Францыі гітлераўцамі,— кіраўнік фашысцкага ўрада Францыі.

Лаваль (1883—1945) — французскі рэакцыйны палітычны дзеяч, здраднік французскага народа. Сумесна з Пэтэнам ён узначальваў фашысцкі рэжым у Францыі ў 1940—1944 гг.

Франка (1892—1975) — фашысцкі дыктатар Іспаніі з 1939 года. У перыяд другой сусветнай вайны актыўна дапамагаў агрэсіўнаму гітлераўскаму блоку.

Шарлота Кардэ — забойца Марата Ж. П. (1743—1793), які з'яўляўся выдатным дзеячам французскай буржуазнай рэвалюцыі канца XVIII века.

Людовік XVI (1754—1793) — французскі кароль з 1774 па 1792 г. У гады яго праўлення пачалася французская буржуазная рэвалюцыя канца XVIII века. 21 студзеня 1793 г. быў пакараны смерцю.

Марыя-Антуанета — французская каралева, жонка Людовіка XVI, садзейнічала замежпай інтэрвенцыі супраць французскай буржуазнай рэвалюцыі канца XVIII века. Пакарана смерцю па прыгавору Рэвалюцыйнага трыбунала.

Стар. 26. *Над ракой Арэсай.* Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 24 і 30 красавіка 1949 г. Датуецца 1949 г.

«А на рэчцы на Арэсе сталася прыгода!..» — урывак з паэмы Янкі Купалы «Над ракой Арэсай».

БВА (скароч.) — Беларуская Ваенная Акруга.

Стар. 40. *Беларускія прыказкі.* Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша» № 6, 1927 г. Датуецца 1926—1927 гг.

Артыкул «Беларускія прыказкі» з'яўляецца студэнцкай працай пісьменніка, напісанай у той час, калі ён быў на другім курсе Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Ідыятызм — тут моўны зварот, выраз, які ўласцівы той ці іншай мове і які не можа быць перакладзены даслоўна на другую мову.

Дыстых — верш, які складаецца з двух радкоў.

Катон Марк Порцый (234—149 гг. да нашай эры) — буйнейшы палітычны дзеяч і пісьменнік старажытнага Рыма.

Латво *(польск.)* — тут у сэнсе лёгка.

Іван Купала *(купалле)* — свята, якое прыпадае на 24 чэрвеня па старому стылю.

«Коляцы» *(польск.)* — вячэра; тут у сэнсе дабрабыт.

Трэбнік — богаслужэбная кніга.

Алтарысты — тут у сэнсе служыцель культу.

Арганісты — чалавек, які іграе на аргане. Тут ужыта ў сэнсе служыцель касцёла.

Дамастроеўскі — суровы.

Сімон Зілот — адзін з так званых хрысціянскіх «святых».

Ілья — тут рэлігійнае свята.

Пятрок — тут рэлігійнае свята.

Грамніцы — рэлігійнае свята.

Варвары — рэлігійнае свята.

Мсціслаў.— Маецца на ўвазе рускі князь Мсціслаў Удалы (памёр у 1228 г.), удзельнік многіх феадальных войнаў і бітвы на рацэ Калцы з мангола-татарамі ў 1223 годзе.

Рэкрут — у дарэформеннай Расіі — навабранец, прызваны па ваенную службу чалавек.

Гілэхтар *(яўр.)* — смех.

Гевезен *(яўр.)* — быў.

Кум гэр *(яўр.)* — ідзі сюды.

Амонім — слова, аднолькавае з другім па гукавой форме, але рознае па значэнню.

Троп — літаратурна-лінгвістычны тэрмін, які абазначае ўжыванне слова, моўнага звароту не ў прамым, а ў пераносным, іншасказальным сэнсе.

Метанімія, сінекдаха — віды тропаў.

Антытэза — тут літаратурна-лінгвістычны тэрмін, які абазначае супрацьстаўленне двух процілеглых думак ці вобразаў для большай сілы і яркасці выразу.

Апуха — выпушка, аблямоўка.

Андарак — саматканая спадніца.

Алітэрацыя — паэтычны прыём, які заключаецца ў паўторы аднолькавых сугучных зычных гукаў для ўзмацнення выразнасці мастацкай мовы.

Пеон — чатырохскладовая вершаваная стапа з трох ненаціскных і аднаго націскнога складу.

Антыспаст (ямбахарэй) — вершаваная мера (метр) — два націскных склады паміж двума ненаціскнымі.

Антон Нябаба — кіраўнік казацка-сялянскага атрада паўстанцаў на Беларусі супроць польскіх феадалаў у XVII ст.

Кастусь Каліноўскі (1838—1864) — выдатны беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, вучань і паслядоўнік вялікіх рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў, кіраўнік сялянскага паўстання 1863—1864 гг. у Беларусі і ў Літве; быў пакараны смерцю ў Вільні.

Стар. 88. *Думкі пра сатыру.* Упершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша» № 3 (9), 1928 г. Датуецца 1928 г.

Гейне Генрых (1797—1856) — вялікі нямецкі паэт і публіцыст.

Стар. 93. *Што мне рупіць.* Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 10 лютага 1933 г. Датуецца 1933 г.

«... мне ўжо дзесяць год».— Маецца на ўвазе дзесяцігоддзе творчай дзейнасці К. Крапівы.

«... усё «чэмберлен» выходзіць».— Тут аўтар намякае на аднастайнасць сатырычных прыёмаў беларускіх савецкіх пісьменнікаў таго часу ў абмалёўцы імі вобразаў імперыялістаў і наогул капіталістычнага свету.

Стар. 97. *Слова да малодшых.* Упершыню надрукаваны ў кнізе «Заклік», кніга 2, 1933 г. Датуецца 1933 г.

Нікіцін І. С. (1824—1861) — рускі паэт-дэмакрат.

«Красноармейская правда» — назва газеты, у якой упершыню пачаў друкаваць свае творы Кандрат Крапіва.

Ілья Мурамец — герой рускіх былін.

Стар. 106. *П'есы і вобразы* (з прамовы на пленуме Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР у канцы снежня 1945 года). Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 10 студзеня 1946 г. Датуецца 1945 г.

Жонд *(польск.)* — урад.

Георгій Скарына (каля 1490—1551 г.) — вялікі беларускі асветнік і гуманіст, вучоны, першадрукар.

Стар. 114. *Беларуская савецкая драматургія за 1947 год.* (Даклад на рэспубліканскім сходзе пісьменнікаў у канцы лютага 1948 года). Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 6 сакавіка 1948 г. Датуецца 1948 г.

Эпіцэнтр — месца на паверхні зямлі, якое знаходзіцца непасрэдна над ачагом землетрасення. Тут ужыта ў пераносным сэнсе.

Гіпертрафія — празмернае павелічэнне чаго-небудзь.

Пап'е-машэ — папяровая маса, змешаная з клеем, вапнай, гіпсам і інш.

Стар. 127. *Аб характары беларуса.* Упершыню надрукаваны ў часопісе «Беларусь» № 1, 1949 г. Датуецца 1948 г.

«... ці то швед спяшаўся пад Палтаву на сваю пагібель...» — Маецца на ўвазе Палтаўская бітва 1709 года, у якой рускія войскі пад кіраўніцтвам Пятра І разграмілі агрэсіўную армію шведскага караля Карла XII.

Багдан Хмяльніцкі (каля 1595—1657) — гетман Украіны, дзяржаўны дзеяч і палкаводзец, узначаліў вызваленчую барацьбу ўкраінскага народа супроць панскай Польшчы ў 1648—1654 гг., у выніку якой Украіна была ўз'яднана з Расіяй.

Мураўёў М. М. (1796—1866) — дзяржаўны дзеяч царскай Расіі, заўзяты прыгоннік, кат народнага паўстання ў 1863 г. на Беларусі, у Літве і Польшчы. Увайшоў у гісторыю пад клічкай «Мураўёў-вешацель».

«Я па свеце хадзіў, косці ўсюды занёс...» і г. д.— урывак з верша Якуба Коласа «Мужык».

Канстанцін Заслонаў (1909—1942) — герой Вялікай Айчыннай вайны.

Стар. 133. *Шкодная блытаніна ў пытаннях мовы.* Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 15 сакавіка 1949 г. Датуецца 1949 г.

«Наша ніва» — назва беларускай газеты, якая выдавалася ў Вільні з 1906 па 1915 год.

«Наша доля» — назва беларускай газеты, якая выдавалася ў Вільні ў другой палове 1906 года і была забаронена царскім урадам за яе рэвалюцыйна-дэмакратычны характар.

«Мужыцкая праўда» — назва беларускай газеты, якая выдавалася Кастусём Каліноўскім у 1863 годзе.

«Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе» — беларускія ананімныя вершаваныя творы першай паловы XIX века.

Курская дуга.— Маецца на ўвазе адна з буйнейшых бітваў Вялікай Айчыннай вайны ў 1943 г. пад горадам Курскам, у якой гітлераўцы пацярпелі цяжкае паражэнне.

Стар. 141. *Нескарыстаныя магчымасці.* Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 11 сакавіка 1950 г. Датуецца 1950 г.

«... тыя вялікія падзеі, якія адбываюцца ў заходніх абласцях Беларусі...» — Маецца на ўвазе калектывізацыя сельскай гаспадаркі ў заходніх абласцях Беларусі ў пасляваенны перыяд.

Стар. 147. *Выдатны пісьменнік і чалавек.* Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 24 чэрвеня 1950 г. Датуецца 1950 г.

Артыкул прысвечаны пяцідзесяцігоддзю з дня нараджэння беларускага пісьменніка Кузьмы Чорнага (1900—1944).

Стар. 150. *Аб некаторых пытаннях беларускай мовы.* Упершыню надрукаваны ў часопісе «Полымя» № 6, 1951 г. Датуецца 1951 г. Друкуецца ў дапрацаваным выглядзе.

Карскі Я. Ф. (1861—1931) — вядомы філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства, філалогіі і фалькларыстыкі,

акадэмік. Аўтар трохтомнай працы пад агульнай назвай «Беларусы» (1903—1922), работ па рускай дыялекталогіі і славянскай палеаграфіі.

Люблінская унія (саюз) — пагадненне польскіх і літоўскіх феадалаў у 1569 г., якое афарміла ўтварэнне аб'яднанай Польска-Літоўскай феадальнай многанацыянальнай дзяржавы (Рэчы Паспалітай). У выніку Люблінскай уніі пад уладу польскіх магнатаў трапілі ўкраінскія і беларускія землі, якія да уніі ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага.

Стар. 170. *Пытанні беларускага правапісу.* Артыкул быў прачытаны ў якасці даклада 25 студзеня 1952 г. на навуковай канферэнцыі па пытаннях сучаснага беларускага правапісу, скліканай Інстытутам мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Упершыню надрукаваны ў часопісе «Весці Акадэміі навук БССР», № 2, 1952 г. Датуецца 1951—1952 гг. Друкуецца ў дапрацаваным выглядзе.

Стар. 183. *Жыццё і творчасць народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.* (З даклада на юбілейным вечары 15 лістапада 1952 г., прысвечаным сямідзесяцігоддзю з дня нараджэння Якуба Коласа.) Упершыню надрукаваны ў часопісе «Полымя» № 1, 1953 г. Датуецца 1952 г.

Сядзелец — прыказчык казённай крамы (манаполькі) па продажу гарэлкі.

Лукішкі — назва часткі раёна горада Вільні, дзе пры панскай Польшчы знаходзілася вядомая турма для палітзняволеных.

Стар. 206. *Аб сатырычнай камедыі.* Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 31 кастрычніка 1953 г. Датуецца 1953 г.

Стар. 212. *Канфлікт — аснова п'есы.* Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 11 снежня 1954 г. Датуецца 1954 г.

Стар. 222. *Грамадская неабходнасць і беспадстаўнае наватарства.* Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 29 сакавіка 1972 г. Датуецца 1972 г.

## Пераклады

Стар. 237. *Вільям Шэкспір. Рамэо і Джульета.* Упершыню надрукаваны на беларускай мове ў кн.: Вільям Шэкспір. Трагедыі. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1954.

Мантуя — горад у Італіі, адміністрацыйны цэнтр правінцыі Мантуя.

Вілафранка — невялікі горад у Італіі.

Верона — горад у Італіі, адміністрацыйны цэнтр правінцыі Верона.

«На пацяруху труць чарот нагамі».— У той час у дамах знатных і багатых асоб Італіі падлогу прыёмных пакояў высцілалі цыноўкамі з чароту або аеру.

Эльфы — у старажытнанямецкай міфалогіі духі прыроды, якія насялялі паветра, зямлю, горы, лясы, жыллё людзей; падзяляліся на добрых (прыгожых) і злых (пачварных).

О л ь д э р м е н — член гарадской рады.

«Ен сапраўдны згубіцель гузікаў на канцах рапір».— У тыя часы, каб пазбегнуць раненняў пры фехтаванні, на канцы рапір прымацоўвалі абшытыя шаўковым матэрыялам гузікі.

Passado, punto reverso.— Італьянскія фехтавальныя тэрміны, якія адзначаюць: «выпад, адбой».

Hai! — прынняты ў той час вокліч фехтавальшчыка ў момант выпаду, азначае «крану!»

Pardonnez moi *(франц.)* — прашу прабачэння.

«Bon, bon» *(франц.)* — «добра» альбо «добры».

Петрарка Франчэска (1304—1374) — вядомы італьянскі паэт, роданачальнік гуманістычнай культуры эпохі Адраджэння; аўтар твораў любоўнай лірыкі, прысвечаных яго каханай Лауры.

Д ы я н а — у старажытнагрэчаскай міфалогіі багіня цаламудрыя, луны і палявання.

К л е а п а т р а (69—30 да н. э.) — егіпецкая царыца, вядомая сваёй прыгажосцю; жонка Антонія Марка (83—30 да н. э.) старажытнарымскага палітычнага дзеяча.

Е л е н а — у старажытнагрэчаскай міфалогіі славутая прыгажуня, жонка цара Спарты Менелая.

Г е р а — у старажытнагрэчаскай міфалогіі багіня, апякунка шлюбных адносін.

Б о н ж у р! *(франц.)* — добры дзень.

Р а з м а р ы н — кветка; лічылася сімвалам вернасці ў каханні.

«Alla Stoccato» — італьянскі фехтавальны тэрмін, які азначае: «працінаючы ўдар».

Ф а э т о н — у антычнай міфалогіі сын бога сонца Феба.

В а с і л і с к — казачная жывёліна ў выглядзе змея, якая нібыта магла забіваць адным сваім позіркам.

«... с т о г н ы м а н д р а г о р ы» — Мандрагора — ядавітая расліна, якая сустракаецца ў Грэцыі і ў Гімалайскіх гарах; у шэкспіраўскі час лічылі, што корань мандрагоры мае падабенства з фігурай чалавека, адсюль і ўяўленне аб тым, што ён уладае і некаторымі чалавечымі ўласцівасцямі, напрыклад, калі яго вырываюць з глебы, ён нібыта стогне.

Стар. 265. *І. А. Крылоў. Байкі.* Пераклады баек — «Воўк на псярні», «Варона і Лісіца», «Хлус», «Два сабакі», «Кошка і Салавей», «Свіння пад Дубам», «Сабака і Конь» — упершыню былі надрукаваны ў кнізе: І. А. Крылоў. Байкі. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1945. Усе астатнія — упершыню ў кнізе: І. А. Крылоў. Байкі. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1950.

Стар. 409. *Тарас Шаўчэнка. Паэмы.* Пераклады паэм «Наймічка», «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным» упершыню надрукаваны ў кнізе Тарас Шаўчэнка. Кабзар. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, Мінск, 1939.

В а р э н у х а — гарэлка зварэная з мёдам і рознымі прыправамі.

А к а ф і с т *(царк.)* — грэч. род хвалебнага царкоўнага песняпення.

Ц а р г р а д — старажытнаруская назва горада Канстанцінопа-

ля, сталіцы Візантыйскай імперыі (цяпер Стамбул — горад у Турцыі).

Тамерлан — скажоная еўрапейцамі форма прозвішча Цімура (1336—1405), сярэднеазіяцкага палкаводца і заваёўніка,ваенныя паходы якога суправаджаліся разбурэннямі і вызначаліся страшэннай жорсткасцю да заняволеных народаў.

Колар Ян (1793—1852) — чэшскі і славацкі паэт, дзеяч культуры, аўтар паэмы «Дачка славы» (1824), у якой заклікае славян да еднасці ў барацьбе за нацыянальнае вызваленне.

Шафарык Павел (1795—1861) — дзеяч чэшскага і славацкага нацыянальнага руху, філолаг і гісторык, адзін з лідэраў Пражскага паўстання 1848 г.

Ганка Вацлаў (1791—1861) — чэшскі філолаг, паэт, грамадскі дзеяч, адзін з прадстаўнікоў культуры чэшскага нацыянальнага адраджэння.

«... Бруты і Коклесы слаўныя навекі».— Тут маюцца на ўвазе напаўлегендарныя героі старажытнага Рыма: Брут Луцый Юній, які звергнуў апошняга рымскага цара Тарквінія Гордага (6 ст. да н. э.) і ўстанавіў рэспубліку і Коклес Гарацый, які праславіўся тым, што адзін абараняў у Рыме мост ад варожага войска.

Сіноп — горад у Турцыі на ўзбярэжжы Чорнага мора.

Трапезонт (правільна Трапезунд) — горад у Турцыі.

Стар. 430. *Адам Міцкевіч. Вершы.* Пераклады вершаў «Звон і звонікі», «Блыха і рабін», «Сябры» ўпершыню надрукаваны ў кнізе Адам Міцкевіч. Выбраныя творы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1955.

Левіты — свяшчэннаслужыцелі ў старажытных яўрэяў; першапачаткова — старажытнае іудэйскае племя.

Ваал — адзін са старажытнаўсходніх багоў, культ якога быў распаўсюджаны ў Фінікіі, Сірыі і Палестыне ў II—I тысячагоддзях да н. э.

Стар. 432. *Уладзімір Маякоўскі. «Незвычайныя прыгоды, што адбыліся з Уладзімірам Маякоўскім на дачы».* Пераклад верша упершыню надрукаваны ў кнізе: В. В. Маякоўскі. Выбраныя творы. Дзяржаўнае выдавецтва пры СНК БССР, Мінск, 1940.

Стар. 436. *Аляксандр Твардоўскі. «Як Даніла паміраў».* Пераклад верша ўпершыню надрукаваны ў кнізе: Аляксандр Твардоўскі. Выбраныя творы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1953.

# ЗМЕСТ

## НАРЫСЫ, АРТЫКУЛЫ



## ПЕРАКЛАДЫ

*З Вільяма Шэкспіра*



*З І. А. Крылова*

*З Тараса Шаўчэнкі*



*З Адама Міцкевіча*



*З Уладзіміра Маякоўскага*



*З Аляксандра Твардоўскага*

На белорусском языке

КОНДРАТ КРАПИВА
(Кондрат Кондратович Атрахович)

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ПЯТИ ТОМАХ

*том пятый*

Очерки, статьи, переводы

Рэдактар А. М. Бачыла. Мастак Л. Я. Прагін. Мастацкія рэдактары М. Р. Казлоў, Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Н. А. Соціна.

АТ 10510. Здадзена ў набор 10/VI 1975 г. Падп. да друку 15/I 1976 г. Тыраж 16 000 экз. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 23,94. Ул.-выд. арк. 22,9. Зак. 2391. Цана 98 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Крапіва К.**

К 77 Збор твораў у пяці тамах. Том 5. Нарысы, артыкулы, пераклады. Мн., «Маст. літ.», 1976.

456 с. з іл.

У пяты том уваходзяць нарысы і артыкулы пісьменніка, напісаныя за ўсе гады творчай дзейнасці, а таксама пераклады з твораў В. Шэкспіра, І. Крылова, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча, Ул. Маякоўскага і А. Твардоўскага.

К $\frac{70303\text{-}046}{М\ 302(05)\text{-}76}$ падпіснoе

Бел 2